*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

# «Я ХАЧУ ВЫКАНАЦЬ ДАДЗЕНЫЯ НАРОДУ АБЯЦАННІ»

## Інтэрв'ю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь карэспандэнту беларускай рэдакцыі радыё «Свабода» Галіне Айзенштат

**— Аляксандр Лукашэнка як асоба мае адну асаблівасць: ён гаворыць пра сябе і свае правы, кажучы па-руску, «в третьем лице». Калі вы не супраць, скарыстаем яе ў нашай размове, і маё першае пытанне такое: як бы ацаніў Аляксандр Лукашэнка — радавы грамадзянін Рэспублікі Беларусь дзейнасць Аляксандра Лукашэнкі-Прэзідэнта?**

— Станоўча.

**— Можа, крыху расшыфруеце?**

— Галіна Іосіфаўна, я нікому нічога не павінен, па-першае... Я за чужы кошт, і гэта вам добра вядома, як чалавеку, які мяне ведае не толькі ў маю бытнасць дэпутатам, ніколі не жыў. Я праводжу сваю палітыку ў інтарэсах нашага народа, параіўшыся з ім.

Возьмем тры пункты маёй перадвыбарнай праграмы. Першы — барацьба з інфляцыяй і падаўленне яе. Магу праінфармаваць, што інфляцыя на сённяшні дзень складае адзін працэнт. Я дапускаю — два. Першы пункт выкананы.

Другі пункт маёй перадвыбарнай праграмы — саюз з Расіяй. Гэта тое, што я сёння раблю.

Трэці пункт — татальная барацьба з карупцыяй. Палавіна былых чыноўнікаў страціла свае пасады. Кампанейшчына і спешка тут не патрэбны, каб не пацярпелі прыстойныя людзі. Але наколькі я магу сёння змагацца з карупцыяй (а грамадства ў нас карумпіравана парадкам), я гэта раблю.

Вось тры моманты, за якія народ мяне падтрымаў. Рэферэндум яшчэ раз пацвердзіў — ускосна — мае паўнамоцтвы. Скажыце, як я павінен у такой сітуацыі дзейнічаць, калі народ гаворыць: «рабі гэтак, а не інакш»? Таму я як грамадзянін ацэньваю дзеянні Прэзідэнта Лукашэнкі станоўча. Пры гэтым я далёкі ад таго, што быў бездакорны ва ўсіх сваіх учынках, не дапускаў памылкі і г. д. Напэўна, мне, маладому палітыку, і наогул як чалавеку ўласціва памыляцца, і я, відаць, дапускаў недзе нейкія памылкі. Але ў стратэгічным плане, па-мойму, не. І калі непрадузята ставіцца да мяне, дык можна сказаць, што ў актыў Прэзідэнту запісаць можна больш, чым у пасіў.

**— Чым патлумачыць Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, што менавіта ён хоча выканаць ролю Багдана Хмяльніцкага, хаця яна больш бы, здаецца, пасавала Леаніду Кучме, улічваючы паходжанне Хмяльніцкага?**

— Вы вельмі вобразна задалі пытанне і вам гэта робіць гонар. Я хацеў бы выканаць толькі тую ролю, якая мне адведзена Усявышнім, хоць я выхаваны атэістам. Мабыць, лёс мой такі... Я хацеў бы выканаць тую ролю, якая мне адведзена. Я гавару вам пра гэта выключна шчыра. Калі мне, дапусцім, адведзена ў гэтым жыцці адыграць ролю стваральніка, а не разбуральніка, я быў бы шчаслівы. Я хацеў бы выканаць сваю ролю, ролю Лукашэнкі, прадстаўніка беларускага народа, які заўсёды быў за тое, каб тут, на нашай зямлі, усё было мірна, і ўсе народы жылі як у родным сваім доме, незалежна ад іх паходжання, веравызнання і г. д. і да т. п. Таму, калі вы мелі на ўвазе, задаючы гэтае пытанне, ці імкнецца Лукашэнка адыграць ролю аб'яднальніка, то я скажу: так, я ставіў і стаўлю перад сабой гэтую мэту. Але я далёкі ад таго, каб узяць на сябе больш, чым я сёння здольны і павінны ўзяць. Тут я самакрытычны і не прэтэндую на большае.

**— Аляксандр Лукашэнка — першы ўсенародна абраны Прэзідэнт незалежнай Беларусі, і, відаць, яму неабыякава, якім ён увойдзе ў яе гісторыю?**

— Гэта, напэўна, сапраўды неабыякава не толькі для мяне, але і для вас як грамадзяніна Беларусі. Таму што гэта сапраўды першы Прэзідэнт. Памятаеце, вы пісалі, а я ў праграму перадвыбарную ўключыў: улада валяецца ў гразі, ці знойдзецца чалавек, які ўзніме яе адтуль? І вось з'явіўся чалавек, які паспрабаваў ці спрабуе падняць на патрэбную вышыню гэтую ўладу, таму што безуладдзе — гэта самае страшнае ў грамадстве. І ў гэтым напрамку я дзейнічаю. Магчыма, сапраўды крыху жорстка. Час сёння такі: мы вельмі адышлі ад тых маральных прынцыпаў, якія былі ў дрэнным савецкім грамадстве. Але ж было і шмат добрага. Я не хачу ідэалізаваць, вы мае падыходы ведаеце: я не прызнаю камуністычны дагматызм, і дзікі нацыяналізм таксама. Я хацеў бы быць цэнтрыстам. Такім хачу ўвайсці і ў гісторыю. Я хачу сваімі паводзінамі (пра гэта заўсёды памятаю) паказаць прыклад іншым прэзідэнтам, якія прыйдуць за мной. Таму мне сапраўды неабыякава, як да мяне будуць ставіцца людзі потым. Трэба заўсёды памятаць: сёння ты пры ўладзе, але з цягам часу ўлады гэтай у цябе не будзе і табе давядзецца глядзець людзям у вочы. Але размазнёй, як кажуць, я быць таксама не хачу. Я хачу выканаць дадзеныя народу абяцанні.

**— Па адной са сваіх спецыяльнасцей Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка — гісторык. Ці цікавіўся ён не толькі савецкім перыядам гісторыі Беларусі? Напрыклад, тым, як утварылася БНР, хто былі яе дзеячы, якая ў іх была праграма? Між іншым, яны тады прынялі і па сённяшніх мерках сучасную дэкларацыю правоў чалавека, зямельны закон...**

— Я з адзнакай скончыў інстытут, гістарычны факультэт. Аб утварэнні БНР я ведаю. Ведаю, хто дапамагаў, спрыяў гэтаму. Але я не прыхільнік варушыць мінулае тады, калі гэта абсалютна непатрэбна.



Я вельмі добра ведаю гэтыя факты, дакументы. Вы, напэўна, заўважылі, што напярэдадні святкавання гадавіны БНР я нідзе не выступаў з асуджэннем. Я вельмі цаню меркаванне нават двух—трох чалавек, а калі носьбітамі такога меркавання ў грамадстве з'яўляюцца некалькі тысяч чалавек, дык чаму я павінен уніжаць іх? Але гэта ўсё павінна быць у рамках закона. Гэта не павінна выліvацца ў беззаконнасць, амаральнасць, абуральнае парушэнне парадку, як гэта адбылося ў дзень святкавання БНР. Я супраць гэтага. Мяне па крайняй меры ніхто не можа папракнуць у тым, што я справакаваў некага. Ні ў якім выпадку!

Звяртаючыся да мінулага, я не хачу некага пакрыўдзіць, калі нехта ў яго верыць. Верце на здароўе, але ў рамках закона.

**— Ці клапоціцца Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка аб сваім міжнародным аўтарытэце? Яго выказванні наконт таго, што для Беларусі прыдатны вопыт Германіі 30-х гадоў, выклікалі шок на Захадзе, найперш у самой ФРГ. Шмат негатыўных каментарыяў было ў заходніх СМІ ў сувязі са збіццём шара з амерыканскімі спартсменамі (дарэчы, вынікі расследавання дасюль не абнародаваны). Цяпер новае здарэнне — сутычкі паміж дэманстрантамі і супрацоўнікамі міліцыі 24 сакавіка, якія не абышліся без ахвяр. Так што нярэдка ў СМІ можна сустрэць нават такі выраз: «аўтарытарны, дыктатарскі рэжым Лукашэнкі».**

— Давайце па парадку, паколькі вы задаяце пытанне, якое ў грамадстве сапраўды мае адпаведнае гучанне. Першая частка вашага пытання датычыцца «вопыту» Германіі. Прэзідэнт Лукашэнка такога не гаварыў. Вазьміце маё інтэрв'ю ў нямецкай газеце і прачытайце. Калі вы там гэта знойдзеце, тады пакладзіце мне на стол і скажыце: вось інтэрв'ю, яно было надрукавана ў Германіі і выклікала шок. Гэтага няма!

**— Аляксандр Рыгоравіч, прабачце, я Вас перапыню! Карэспандэнт гэтай газеты даў у «Известиях» даведку, што гэтыя выказванні там спецыяльна выкрэслілі, каб не «бударажыць» насельніцтва.**

— Што ж тады шакіравала Германію, калі журналіст іх выкрасліў? Мне незразумела! Усё гэта тэндэнцыйна было інтэрпрэтавана напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет, каб параўнаць Лукашэнку са страшнымі дыктатарамі свету, і паказаць: вось глядзіце, не пойдзеце на выбары, не выберацe парламент, усім вам труба! Вось з якой мэтай гэтая аплачаная акцыя была праведзена. Няўжо вы, хто мяне ведае, сапраўды верыце ў тое, што для мяне ўзорам з'яўляецца які б там ні быў дыктатар, асабліва той, хто столькі гора прынёс беларускаму народу?

**— Не хачу ў гэта верыць і не веру!**

— І правільна робіце, што не хочаце і не верыце! Не было такога! Але калі нямецкі журналіст папракнуў мяне тым, што ў вас дыктатура, я адказаў: «Вы прыгадайце, што ў вас было ў 30-я гады!» Вось аб чым размова ішла! Усё гэта вывернулі навыварат і зрабілі мяне прыхільнікам гэтага страшнага чалавека. Таму ўсё гэта, як вы часта кажаце, хлусня.

... Пра збіццё шара. Скажыце, ці папракнуў я дзе-небудзь спартсменаў-амерыканцаў у іх вінаватасці? Не. Я наогул пра гэта пакуль нічога не гаварыў. Днямі мне даложыць афіцыйная камісія, якая займаецца расследаваннем гэтага інцыдэнта, пра вынікі работы. Я як кіраўнік дзяржавы даведу да ведама свайго народа аб гэтым здарэнні. Хоць народ ацэнкі свае выдаў. Нехта асудзіў, нехта падтрымаў, нехта сказаў па-народнаму: няма чаго было сюды ляцець... Але вы павінны пры гэтым ведаць, што мы не забівалі людзей. Нядаўна амерыканская журналістка задала мне гэтае пытанне, на што я ёй сказаў: мы людзей не забівалі. Людзей гэтых лётчык, калі ён знішчаў шар, не бачыў,. Ваенныя дзейнічалі выключна ў рамках закона. Камісія мне пра гэта ўжо далажыла. Што я магу прад'явіць ваенным?

Экспертыза, якая закончыцца літаральна праз некалькі дзён, пакажа, ці былі жывыя гэтыя людзі, да таго, як шар упаў, ці яны ўжо былі мёртвыя. Ёсць версія, што шар узняўся на вельмі вялікую вышыню, і людзі, што заснулі ў ім, загінулі ад недахвату кіслароду.

Вы ведаеце, што шар быў не адзін? Астатнія, што таксама заляцелі на нашу тэрыторыю, былі пасаджаны, паколькі там былі выяўлены людзі. Яны самі апусціліся на зямлю. Як і належыць у такіх выпадках, ім была аказана неабходная дапамога, а затым адпраўлены туды, куды павінны былі ляцець, — на сваю радзіму.

Прабачце, можа, я не павінен быў так падрабязна вам усё тлумачыць, але калі ўзніклі такія пытанні, я не хацеў бы, каб мяне абвінавачвалі ў тым, што вось — убачылі і збілі. Хоць мяне тады ў рэспубліцы і не было, ваеннаслужачыя дзейнічалі ў той момант выключна па закону, выключна зыходзячы з маіх патрабаванняў наогул як Галоўнакамандуючага Узброенымі Сіламі. Таму я не бачу тут пакуль ніякіх праблем. Сустракаючыся з прэзідэнтам ЗША (вы памятаеце, што я ў ЗША паляцеў праз некалькі дзён пасля гэтага здарэння, і ўсе думалі: а ці паляціць Лукашэнка туды ці не? Я паляцеў, я двойчы сустракаўся з Клінтанам), я папрасіў у яго прабачэння за гэты інцыдэнт. Прэзідэнт Клінтан сказаў (даслоўна): «Дзякуй вам, пан Прэзідэнт, што вы так балюча ўспрымаеце гэтае пытанне і ўзнялі яго на сустрэчы са мной». На што я адказаў: «Пан Прэзідэнт, напэўна, не вы мне павінны дзякаваць, а я вам — за разуменне на гэтым этапе».

Удзельнічаць у расследаванні пажадалі немцы і амерыканцы, якія неадкладна былі ўключаны ў камісію. У нас не павінна быць ніякіх тайнаў! І гэта спрыяла таму, што камісія працавала вельмі канструктыўна. Амерыканцы дастойна гэта ацанілі, што мы тут нічога не хавалі.

**— Ці будуць якія-небудзь тайны наконт падзей 24 сакавіка?**

— Што вы маеце на ўвазе?

**— Нядзельную сутычку дэманстрантаў і міліцыі. Заходнія СМІ перадалі, што міліцыя шмат каго пабіла, нават кроў пралілася...**

— Вы лепш слухайце нашы сродкі. Я вам дакладваю: гэтая акцыя даўно была задумана, яна інспірыравана адпаведнымі людзьмі, і была аплачана. З усёй рэспублікі сюды прыйшлі аўтобусы, якія прывезлі бэнээфаўцаў. Сёння ідзе разбор. Высвятляецца, хто плаціў, хто вазіў, чаму сюды везлі... Мы ж не забаранялі мітынг. Я катэгарычна адверг усялякія ідэі забароны. Калі ласка, збірайцеся і мітынгуйце! Каля Опернага тэатра.

Скажыце, як бы зрабілі на Захадзе, калі б там адбылося такое парушэнне? Разбіраюцца яны там капітальна! Я кантраляваў кожную хвіліну гэтай падзеі. Як толькі яны ад Опернага тэатра рушылі да тэлецэнтра, адразу ж мне ў загарадную рэзідэнцыю далажылі. (Я толькі вярнуўся з Масквы пасля цяжкіх перагавораў.)

Прыкладна з 15 гадзін да 20 я атрымліваў адпаведную інфармацыю. Адзінае, аб чым я прасіў, каб прадухілілі правакацыю. Нацыяналісты сапраўды хацелі, каб пралілася кроў. Гэта той жа почырк. Яны праваліліся на прэзідэнцкіх выбарах, на рэферэндуме, на парламенцкіх выбарах! Ну як аб сабе цяпер заявіць? Праз кроў!

Паглядзіце заяву Пазняка. «Расія захлынецца ў крыві на Беларусі! Мы пойдзем у лясы і будзем там змагацца!» Гэта не беларус! Я адмаўляюся разумець, што гэта заяўляе беларус! Хто дзе «захлынецца»? Яны пастаянна падштурхоўваюць наша грамадства да нейкай бойні. Я ведаў: калі б міліцыя недзе каго-небудзь штурхнула так, каб сапраўды пралілася кроў, заўтра гэта не толькі ў «Свабодзе» было б. Я патрабаваў ад міліцыі не ўступаць ні ў якую канфрантацыю. І я вам скажу: нашы ваеннаслужачыя, — дзякуй ім, дарэчы, — з годнасцю паводзілі сябе на працягу гэтага паўдня, хоць некаторыя арганізоўвалі стычкі з міліцыяй, уваходзілі з ёю ў сутыкненне...

Каму дадзена права штурмаваць тэлецэнтр? Каму дадзена права разбэшчана так сябе паводзіць? Каму дадзена права, ад доміка РСДРП ісці па праспекту (дзве тысячы чалавек) і арганізоўваць сутычкі з вадзіцелямі? Вось толькі што мне паклалі на стол матэрыял, на пяцідзесяці лістах, дзе зафіксаваны кожны крок таго, што рабілася, хто што рабіў. (Там нямала было людзей, якія ўсё гэта адсочвалі.)

Задумана было арганізаваць добрую бойку, асабліва напярэдадні падпісання дагавора з Расіяй. Там і дэпутаты былі — Карпенка, Багданкевіч, Знавец. Лічу, што Вярхоўны Савет павінен адпаведным чынам з іх за гэта спытаць. Прыйшлі, выступілі там, дзе было дазволена ўладамі (вы ж самі — улада сёння), і ўсё, а яны ж яшчэ і на тэлебачанне рушылі. «Давай прамы эфір!» Як гэта табе даваць? Прайшлі тыя часы, калі ты быў дэпутатам і штурмаваў пад прыкрыццём дэпутацкага мандата нейкія крэпасці. Ты сёння такі ж чалавек, як і ўсе! Хто табе даў права? Што, трэба сёння бударажыць дзяржаву? У нас і так праблем дастаткова, якія трэба рашаць.

Ну памітынгавалі вы каля опернага тэатра, не атрымалася штурмам узяць тэлецэнтр, ля доміка РСДРП памітынгавалі (праўда, незразумела чаму нацыяналісты, што ненавідзяць камуністаў, каля камуністычнага доміка мітынгавалі), чаго вы зноў пайшлі на плошчу Незалежнасці? Трэба ж было паказаць, што яны — сіла: усё роўна прыйдзем да Дома ўрада і там памітынгуем. Але да плошчы падышлі з сямі тысяч удзельнікаў каля тысячы. Людзі проста пайшлі па дамах, бачачы, што гэта можа дрэнна скончыцца і нікому гэта не патрэбна. Засталася тысяча звычайных штурмавікоў, якія заўсёды прыходзяць на гэтыя бэнээфаўскія тусоўкі.

**— Ваша імкненне да інтэграцыі з Расіяй апазіцыя расцэньвае як спробу Аляксандра Лукашэнкі зняць з сябе адказнасць за правалы ў эканоміцы рэспублікі. Разам з тым, яна, ды і не толькі яна, лічыць, што саюз з Расіяй нічога не дасць, акрамя непрыемнасцей, бо, з аднаго боку, гэта карумпіраваная краіна (так, напрыклад, выказаўся на мітынгу С. Багданкевіч), а, з другога, нашым хлопцам прыйдзецца ваяваць за яе інтарэсы.**

— Можна я з гэтага дзеяча пачну?.. Вось Багданкевічу якраз трэба сядзець і маўчаць! Вы на тры мільёны ўласным дзецям не рабілі падарункаў, ды і не маглі рабіць, а ён, будучы ля ўлады, гэтыя падарункі рабіў.

Чаго яны так пабеглі, у тым ліку і Карпенка, на мітынг? Яны ж ведаюць, што мы сёння па ўсёй рэспубліцы вывучаем сітуацыю ў плане карупцыі. Яны ведаюць, што нейкія моманты і па іх засвечаны. Дык вось яны сёння думаюць, што выступяць, націснуць на Лукашэнку, а потым, калі Прэзідэнту на стол будуць пакладзены матэрыялы, скажуць, што ён рахункі з намі зводзіць. Вядомая тактыка! Чаго ж пан Ганчар, сябар Карпенкі, так сябе паводзіў? Вярні 200 тысяч долараў, і мы не будзем мець ніякіх размоў! Таму не ім гаварыць пра карумпіраванасць!

Мы што, кіраўнікоў Расіі вязём у Беларусь? Ці пасылаем туды вучыцца карупцыі сваіх чыноўнікаў? У нас сваёй карупцыі не менш, чым у Расіі, мы ж не адгароджаны ад іх жалезнай завесай. Таму гэты тэзіс проста не вытрымлівае крытыкі. Я не разумею: мы што, уключаем Беларусь у састаў Расіі? Не! Мы заключаем саюз у вельмі мяккай форме, каб не бударажыць насельніцтва. Я ніколі не згаджуся на ўключэнне сваёй цудоўнай рэспублікі з яе талерантным народам у састаў любой дзяржавы — ці то ЗША, Германія, куды так нацыяналісты нас цягнуць. Мы суверэнная, незалежная дзяржава!

Што, вы лічыце, што я сёння ў сваё крэсла Прэзідэнта некага пасаджу? Не! Я — кіраўнік дзяржавы! Я ніколі ў жыцці не здам сваю дзяржаву, свой народ, за які я адказваю.

Цяпер па Чачні. У перагаворах з Ельцыным мы закранալі гэта пытанне. Там ваюе пяць—шэсць тысяч ваеннаслужачых Унутраных войск Расійскай Федэрацыі. Узброеныя сілы яны амаль усе вывелі. Яны нас не просяць ехаць туды ваяваць.

Вы можаце за паўтара года майго прэзідэнцтва назваць хоць адзін дакумент, згодна з якім мы дзесьці ўдзельнічалі нават у міратворчых акцыях за межамі Беларусі? Вы не назавяце ніводнага факта. Для мяне гэта мяжа, рыса, за якую я ніколі не пераступлю. Аб якіх ваеннаслужачых гаворыць Багданкевіч, тым больш Пазняк? Якія ў Пазняка дзеці? Мае дзеці — праз два гады адзін, праз тры — другі — пойдуць служыць. Што вы хочаце сказаць, што я іх буду трымаць пад крылом у таты-Прэзідэнта? Ці захачу, каб яны ў Чачню паехалі? Ніколі! Для мяне гэта закон! І любы ў Беларусі палітык ці орган улады, які рызыкне або дазволіць сабе пераступіць гэтую рысу, будзе неадкладна скінуты... Я ніколі свайго ваеннаслужачага — салдата, афіцэра, генерала — не пашлю за межы нашай Беларусі. Нам рабіць там няма чаго.

Калі ж гаварыць пра ваенны саюз з Расіяй, то дай Бог на захадзе прыкрыць паўтары тысячы кіламетраў граніцы!

**— Пасля сямігадзінных перамоваў з Ельцыным Вы заявілі, што праз год-паўтара, можа, будзе адзіная Канстытуцыя агульнай дзяржавы. А Ельцын перад адлётам у Нарвегію заявіў, што ні аб якой адзінай дзяржаве не можа і размова ісці. Ён выказаўся, што «хтосьці штосьці там паблытаў». Ці не баіцца Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, што акажацца разменнай картай у прэзідэнцкай кампаніі Ельцына, пасля заканчэння якой з ім перастануць лічыцца?**

— Я абсалютна нічога не баюся! Мая палітыка дакладная, пэўная. Я яшчэ раз паўтараю: ва ўладзе ў Расіі будуць людзі, якія прыхільны яднанню нашых народаў, у чым адназначна я перакананы.

Я не баюся ніякіх разменных карт, паколькі ў дагаворы, які напрацоўваецца і будзе пакладзены на стол мне і прэзідэнту Расійскай Федэрацыі, чорным па беламу запісана тое, што даўно ўжо трэба было зрабіць. Я не ведаю, колькі будзе гэты пераходны перыяд — паўгода, паўтара, два гады, — пасля якога мы, магчыма, прыйдзем да адзінай Канстытуцыі. Але гэта павінна рабіцца цераз рэферэндум нашага народа.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

# «Я ХАЧУ ВЫКАНАЦЬ ДАДЗЕНЫЯ НАРОДУ АБЯЦАННІ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)**

Магчыма мы прыйдзем і да адзінай дзяржавы, я таксама пра гэта казаў. Але я не гаварыў, што мы заўтра станем адзінай дзяржавай. Тое, што Ельцын заявіў у аэрапорце, не да Лукашэнкі адносіцца. Ельцыну далажылі аб падзеях у Мінску. Ён жа не ведае, што тут адбылося на самой справе. Ельцын, спрабуючы апраўдацца і супакоіць, гаворыць: не, не можа быць размовы аб адзінай дзяржаве!

Я ж не гавару, што мы ў адзіную дзяржаву аб'яднаемся. Гэта не так проста. У першым варыянце, прапанаваным нашымі экспертамі, было імкненне ўстанавіць агульную валюту. Я сказаў: не, мы не гатовы сёння да гэтага. Павінен прайсці пэўны перыяд, які пакажа нам, які крок зрабіць наступны. Чаму я павінен ісці сёння ў нейкую невядомасць, трэба ўлічваць яшчэ і палітычную кан'юнктуру, аб якой вы толькі што сказалі. Я ж не магу даць камусьці магчымасць размяняць за бясцэнак сябе! Тым больш, што за мной — народ і дзяржава. Таму я раблю крок да тых каштоўнасцей, якія я сёння бачу, і бачу, да чаго гэта можа прывесці. Вось і ўсё! Я, вядома, мог бы сёння як у Віскулях, дзе ўсё грымнулі, таксама падпісаць з Ельцыным дагавор аб адзінай дзяржаве, знішчыць нацыянальную валюту і г. д. і г. д. Я ж так не раблю!

У інтэграцыйны працэс будзе ўключана ўсё наша грамадства. Мы заключым дагавор. У кантакце будуць працаваць дэпутаты Беларусі і Расіі. Прадстаўнікі кіраўніцкіх структур, выканаўчых органаў улады будуць працаваць у выканаўчым камітэце, а таксама ў наднацыянальным органе.

Будуць прымацца сумесныя рашэнні, напрыклад, аб жыцці нашых беларусаў у Расіі, а расіян — у Беларусі. Будуць прадстаўлены роўныя гарантыі расіянам і беларусам. Будуць напрацоўвацца і рэалізоўвацца сумесныя праграмы — чарнобыльская, аднаўленне нашай граніцы на захадзе, асабліва з Прыбалтыкай. Яны будуць фінансавацца не толькі з нашага бюджэту, але і Расійскай Федэрацыі. Для гэтага будзе створаны агульны бюджэт.

Скажыце, што ў гэтым дрэннага? Тыя людзі ў Беларусі, якія цяпер выступаюць супраць, баяцца, што паступова нашы адносіны з Расіяй дасягнуць вельмі высокай інтэграцыі, можа, нават вышэй, чым у рамках Еўрапейскага саюза. Сёння Еўрасаюз ніхто не крытыкуе, а мы робім крок нават меншы па інтэграцыйных сваіх выніках, чым інтэграцыя ў яго рамках. Яны баяцца, што мы можам сапраўды — аб'ектыўна, нічога не падштурхоўваючы! — прыйсці да вельмі цеснага яднання нашых народаў!

**— Як вядома, караля робіць світа. Аб некаторых супрацоўніках Адміністрацыі Прэзідэнта ў грамадстве ідуць негатыўныя размовы. Вярхоўны Савет нават мае намер стварыць часовую камісію па праверцы дзейнасці кіраўніцтва І. Ціцянкова. Гэта нервуе Прэзідэнта? Ён часта «выхоўвае» сваіх бліжэйшых паплечнікаў? Ці, можа, яны на яго больш уплываюць?**

— Па-першае, я не ведаю, што гэта за кіраўніцтва Ціцянкова. Я ведаю, што Ціцянкоў узначальвае Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта. Гэта кіраўніцтва Прэзідэнта! Ціцянкоў можа зрабіць толькі тое, што яму дазволіць Прэзідэнт.

Вы можаце здзівіцца, але нават некалькі кватэр для забеспячэння верхатуры ўлады ў Беларусі, ідзе цераз Прэзідэнта. Распараджэнне падпісвае Лу-ка-шэнка!

Таму не трэба валіць на Ціцянкова, на Замяталіна, гаварыць, што яны такія-сякія! Гэта нармальныя людзі, гэта людзі, на якіх «накатваюць», якія не змогуць — па вялікаму рахунку скажу — прадаць Прэзідэнта і здрадзіць яму. Яны гэтага не зробяць.

Паставілі пытанне пра Ціцянкова. Вядома, гэта чалавек, які не пазбаўлены нейкіх там памылак. Але, паверце, яго памылкі могуць быць толькі ў выкананні волі Прэзідэнта.

Возьмем вядомую падзею — упарадкаванне будынкаў у горадзе Мінску і па ўсёй рэспубліцы. Я даручыў сваім указам, каб Кіраўніцтва справамі (стварыў для гэтага рэспубліканскую камісію) ахоўвала ўсе памяшканні і будынкі ў Мінску, якія адносяцца да рэспубліканскай і мясцовай уласнасці. Работа гэта была праведзена: узята на ўлік больш двухсот будынкаў і памяшканняў, у якіх учора панавала жуллё. Вазьміце той жа праектны інстытут. Усё там развалілі, разбурылі, з дзевяці паверхаў пяць-шэсць аддалі камерсантам. Нічога не робяць, жывуць нядрэнна, а ў бюджэт нічога не паступае, ды яшчэ начальству гэтага інстытута ў кішэню кладуць. Ці можна спакойна на гэта глядзець? Я аб гэтым ведаў, калі працаваў яшчэ старшынёй антыкарупцыйнай камісіі. І я прадоўжыў гэту работу. Мы вывучылі становішча спраў. 150 будынкаў перададзены Мінгарвыканкому і дзевяці кіраўнікам адміністрацыі горада Мінска, а 80 буйных будынкаў падпарадкаваны Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта. Сёння, напрыклад, я падпісаў распараджэнне аб перадачы ў Раўбічах добрага гасцінічнага цэнтра Міністэрству спорту, дзе і раней яно было. Там на 80 гасцінічных месцаў было сто работнікаў. Калі пачалі разбірацца, аказваецца там уладкаваліся многія сваякі нашых высокапастаўленых чыноўнікаў, якія пабудавалі катэджы вакол Мінска.

Не, так не будзе! Былі прыняты меры. Скажыце, каму гэта спадабаецца? Але на Прэзідэнта не накаціш: ён не злодзей ці які-небудзь карупцыйны элемент. Гэтага ніхто не можа сказаць, таму што гэта не так. Людзі ў гэта не павераць. Каго ж тады абліваць брудам? Яго акружэнне: дрэнны Слука, дрэнны Ціцянкоў, дрэнны Латыпаў! Гэта людзі, яшчэ раз падкрэсліваю, якія, я перакананы, ніколі Прэзідэнта не прададуць і не здрадзяць яму. Гэта выключна сумленныя і надзейныя людзі. І калі яны дзесьці памыляцца, мы з імі разбяромся, я разбяруся сам! У мяне не заіржавее, вы гэта ведаеце. Гэта ж мой твар! І калі хтосьці з іх накрадзецца сёння, мне ж ганьба. Як мне да народа будзе выйсці? Што я яму скажу? Калі ж мяне пачынаюць за штосьці рэзка крытыкаваць, я думаю: за што, я ў вас нічога не ўкраў. Я выратоўваю рэспубліку, я выратоўваю эканоміку! Вы сказалі, што мяне крытыкуюць за тое, што развaліў эканоміку рэспублікі і іду ў Расію, каб прыкрыць свае недахопы. Я паўтара года ва ўладзе, за паўтара года развaліць нічога немагчыма! Развалілі ўсё да мяне! Успомніце перадвыбарную кампанію. Што ў нас было на паліцах? Нічога не было. Нават па высокіх цэнах нельга было купіць самае неабходнае. Усё было расцягнута, прапіта, раскрадзена, і гэта вы добра ведаеце. Я спрабую гэта сабраць у адно. Таму гэтыя людзі (акружэнне Прэзідэнта), акрамя пінкоў ад Прэзідэнта нічога не атрымліваюць. Ім сёння цяжка.

Але я не выключаю, гэта жывыя людзі, у кожнага ёсць свае інтарэсы, і не кантактуючы з грамадствам, яго членамі, нельга кіраваць гэтым грамадствам... Ганчар стварае камісію! Які павінен 200 тысяч долараў. Я адчуваў сітуацыю, рвенне з боку асобных дэпутатаў і вялікую «цікавасць» сродкаў масавай інфармацыі, таму і стварыў камісію, куды ўвайшлі Генеральны пракурор, старшыня Кантрольнай палаты, Дзяржсакратар, міністр унутраных спраў, старшыня КДБ, пяць дэпутатаў... Да работы ў камісіі яны могуць прыцягваць, каго захочуць. Калі праз месяц знойдуць там парушэнні, паверце, разбіральніцтва будзе жалезным і капітальным!

**— Стаўшы Прэзідэнтам, Аляксандр Лукашэнка атрымаў новы беларускі пашпарт за нумарам адзін з выявай «Пагоні». Які яго лёс? І калі грамадзяне рэспублікі займеюць свой нацыянальны пашпарт, прызнаны ва ўсім свеце? Відаць, мы адзіныя на прасторах былога Саюза, хто выязджае за мяжу з дакументам неіснуючай дзяржавы — СССР. Неяк няёмка за сябе і краіну, у якой жывеш.**

— Дакумент у нас нармальны, прыгожы, — у каго застаўся пашпарт Савецкага Саюза. Нічога лепшага мы не вынайшлі. А той пашпарт, нумар адзін, які калісьці мне ўручылі, законны пашпарт, сёння ляжыць разам з маім прэзідэнцкім пасведчаннем, таксама са старой сімволікай, у мяне ў сейфе. І павінен ляжаць!

Вы памятаеце, які флажок да рэферэндума быў на маёй машыне. А спадар Шушкевіч, нацыяналіст, які вельмі любіў бел-чырвона-белы флаг, ніколі на сваёй машыне гэту сімволіку не выкарыстоўваў. У мяне ж, аж да рэферэндума, да новай сімволікі, заўсёды быў бел-чырвона-белы флаг. Я быў законапаслухмяным чалавекам. Сёння народ прагаласаваў за гэту сімволіку. Дрэнны вось гэты флажок, не падабаецца ён вам, але народ за яго выказаўся і не трэба бачыць у гэтым штосьці страшнае. Сёння ён у мяне на службовым аўтамабілі, які я нідзе не здымаю і не саромеюся за яго.

Што датычыць нашага беларускага пашпарта міжнароднага ўзору з цяперашняй сімволікай, то ён ужо друкуецца. А паколькі з ранейшай сімволікай было надрукавана вельмі многа пашпартоў і людзям патрэбны былі яны, асабліва маладым грамадзянам, мы іх таксама выдавалі.

**— Другога красавіка прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын падпішуць саюзны дагавор паміж дзвюма краінамі. Як складзецца пасля гэтага лёс Беларусі? Ці не пачнуцца ў грамадстве раскол і супрацьстаянне?**

— Вы памятаеце, якія падобныя пытанні задавалі і напярэдадні якой падзеі?

**— Калі Вы былі кандыдатам у Прэзідэнты, я запыталася, куды паедзе Аляксандр Лукашэнка, калі не пераможа на выбарах?**

— Так, было такое! А потым, напярэдадні рэферэндума, нацыяналісты крычалі: «Ай-яй-яй! Рэферэндум — гэта раскол у грамадстве!» Мы пражылі пасля рэферэндума год. Што адбылося? Які раскол? Пасля таго, як мы падпішам дагавор з Расіяй, ніхто нікуды не паедзе, ніякага расколу, паверце, не будзе. А што нашы людзі будуць жыць лепш, я ў гэтым перакананы. За гэтым дагаворам паступіць шмат іншых пагадненняў. Нашы заводы і фабрыкі будуць пастаўлены ў роўныя ўмовы з заводамі і фабрыкамі Расіі. Зразумейце толькі адно: сёння мы з Расіяй можам заключыць саюз на роўных!

Мы заключым гэты саюз, які не супярэчыць Канстытуцыі. Як кіраўнік дзяржавы я маю права заключыць гэты дагавор, і ўнясу яго на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет. Усё будзе зроблена ў рамках Канстытуцыі.

Праз некалькі месяцаў вы мне скажаце дзякуй, калі думаеце жыць у гэтай краіне, і жыць дастойна, каб і на захадзе было добра, і на ўсходзе. І гэта сімвалічна, што адразу ж з Масквы я адлятаю ў Белавежскую пушчу і сустракаюся з прадстаўніком другой нашай суседняй дзяржавы, прэзідэнтам Польшчы Аляксандрам Квасьнеўскім. У нас вельмі добрыя адносіны з усімі нашымі суседзямі. Тавараабарот з той жа Украінай за мінулы год склаў каля паўтара мільярда долараў, што ў тры разы больш, чым пры ўрадзе Кебіча. З прыбалтыйскімі краінамі вырашаны пытанні па граніцах. Памятаеце гвалт бэнэзфаўцаў: маўляў, Лукашэнка падпісаў дагавор аб граніцы, Гадуцішках? Валтузня была за адну рэйку. Раскол будзе ў грамадстве! Мы ўрэгулявалі і гэта балючае пытанне, якое цягнецца стагоддзямі...

Чаго ж мы сёння ваюем і стогнем? Мяне выбралі Прэзідэнтам, — дык верце! Памылюся, — біце! Толькі ў Чачню хоць аднаго чалавека, — давіце! Паверце, пасыланне нашых людзей за межы Беларусі на вайну — гэта неадкладная мая адстаўка. Таму ніколі гэтага не будзе. Гэта звычайны розыгрыш нашых нацыяналістаў у гэты час. А воля народа будзе мною выканана, чаго б гэта мне ні каштавала!"

**— Дзякуй за гутарку.**

**26 сакавіка 1996 года.**

*НАДЗЁННАЕ*

# Асэнсаванне пражытага з нагоды маленькага юбілею

**Роўна пяць гадоў таму назад у структуры Міністэрства ўнутраных спраў з'явілася ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю (УБАЗ). Аб неабходнасці яго стварэння гаварылася і раней, але заўсёды знаходзіліся праціўнікі гэтага, якія сцвярджалі, што арганізаванай злачыннасці як такой у нас у рэспубліцы няма. Але аператыўная абстаноўка ўскладнялася, колькасць крымінальных груп і супольніцтваў, якія вытанчана арудавалі ў розных сферах грамадскага жыцця, узрастала, і марудзіць проста нельга было.**

Не адразу гэта падраздзяленне пачало працаваць эфектыўна, неабходна было, як і ў любой вялікай справе, прайсці працэс станаўлення, укамплектавацца мужнымі, непадкупнымі людзьмі, узняць на дастойны ўзровень іх прафесіяналізм, тэхнічную аснашчанасць. А ў наш час, як вядома, гэта зрабіць вельмі нялёгка. Ну, а галоўнае — трэба было выпрацаваць сістэму выяўлення і выкрыцця арганізаваных крымінальных груп, шляхам інтэнсіўнай аператыўна-вышуковай дзейнасці ўстанавіць сапраўдны размах іх пранікнення ў сферы жыцця грамадства.

Цяпер работнікі УБАЗ, апіраючыся на дапамогу зацікаўленых ведамстваў, імкнуцца ўтрымаць аператыўную абстаноўку ў рэспубліцы пад сваім кантролем. Дастаткова сказаць, што ў мінулым годзе УБАЗ выяўлены 1123 удзельнікі арганізаваных крымінальных фарміраванняў, з якіх 134 лідэры груповак, 709 актыўных удзельнікаў, 231 памагаты і 93 карумпаваныя асобы. Раскрыта 9 «заказных» забойстваў, адно злачынства, звязанае з арганізацыяй узброенай банды з мэтай нападу, шэраг злачынстваў, звязаных з утрыманнем пацярпеўшых у якасці заложнікаў. Вышэйпрыведзеныя даныя — гэта, як гаворыцца, канчатковы вынік дзейнасці УБАЗ. Цяпер аператыўнікі, якія штодзённа заглядваюць у «тайнікі» жыцця грамадства, да пэўнай рысы прасочваюць зараджэнне і крокі сама меней сотні новых арганізаваных груп у рэспубліцы, і ў першую чаргу ў эканамічнай сферы.

Хочам мы таго ці не хочам, але трэба прызнаць, што глеба для іх павелічэння ва ўмовах станаўлення рыначнай эканомікі ёсць спрыяльная. Выкарыстоўваючы прабелы ў крымінальным і гаспадарчым заканадаўстве, недахопы ў рабоце прадпрыемстваў, арганізацый і фірмаў, злачынныя групы і нават супольніцтвы імкнуцца пранікнуць і замацавацца ў эканоміцы, інтэгруючыся і ўцягваючы ў сваю сферу і дзяржаўны апарат.

Крымінагеннасць эканомікі павышае і той факт, што пераважная большасць грамадзян, якія вырашылі прысвяціць сябе камерцыйнай дзейнасці, не маюць элементарных навыкаў эканамічных паводзінаў, некаторыя з іх проста запалоханы і вымушаны выступаць памагатымі крымінальных груп. Каб застацца неяк на плаву, напрыклад, камерцыйныя структуры ад выпадку да выпадку бяруць у банках крэдыт, закупляюць і рэалізоўваюць тавары, толькі для таго, каб выручка паступала ў «абшчакі» і выкарыстоўвалася для далейшага ўзнаўлення злачыннай дзейнасці і подкупу службовых асоб. Заглядваючы далей, «па той бок Месяца», аператыўнікам часам асабліва горка ўсведамляць, што быццам бы крымінальная група і затрымана, але вось абгрунтаваць яе віну ў злачынствах няма магчымасці, таму што пацярпеўшыя часам не жадаюць заяўляць у праваахоўныя органы.

Фінансава-крэдытная сістэма выклікае асаблівую занепакоенасць у работнікаў праваахоўных органаў, у прыватнасці УБАЗ. Вядома, што гэта галіна даўно патрабуе прыняцця ўзмоцненых мераў прававой абароны. Ну, а пакуль часам работнікі гэтай сферы становяцца саўдзельнікамі буйных крадзяжоў, розных фінансавых махінацый, махлярстваў. Вопыт іншых краін і наш уласны дае магчымасць дапускаць расшырэнне маштабаў стварэння фіктыўных банкаўскіх установаў і іх асабістае банкруцтва, крэдытаванне неіснуючых фірмаў, розныя формы махлярства з мэтай «адмывання» грошай. Так, цяпер праваахоўнымі органамі прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці службовыя асобы трох вядучых камерцыйных фірмаў, якія незаконна паклалі ў замежныя банкі 3,5 млн. долараў ЗША.

Падраздзяленні УБАЗ прымаюць меры па процідзеянню пранікненню злачынных груповак у фінансавую і банкаўскую сферу. Так, работнікамі брэсцкай міліцыі спынена злачынная дзейнасць двух кіраўнікоў буйнога акцыянернага таварыства. Ім удалося зняць па пяці падманных кантрактах уклады жыхароў Брэста ў акцыянерна-камерцыйным банку на суму 2 млрд. рублёў, на гэту суму былі куплены долары ЗША і вывезены ў Маскву.

Адсутнасць эфектыўнага фінансавага кантролю, неразвітасць падатковай сістэмы з'яўляюцца сур'ёзным фактарам, які дэстабілізуе сітуацыю на спажывецкім рынку. Масавым стала ўтойванне буйных даходаў ад падаткаабкладання, узраслі маштабы незаконнага прадпрымальніцтва, а часам проста махлярства. Не так даўно на цэнтральным аўтарынку Мінска было затрымана 7 злачынных груповак агульнай колькасцю 44 чалавекі, якія займаліся падманам грамадзян у ходзе азартных гульняў. Кіраваў гэтымі групамі дырэктар адной з мясцовых спецыялізаваных фірмаў, яго давялося арыштаваць. Папярэднім расследаваннем устаноўлена, што гэтымі фарміраваннямі штомесячна выплачвалася сталічнаму злачыннаму супольніцтву 100 тысяч долараў ЗША.

Узяць, напрыклад, пытанне камерцыйнага гандлю буйнымі партыямі спіртнога. Нядаўна была выкрыта злачынная група, члены якой, выдаючы сябе за прадстаўнікоў украінскай фірмы, выкарыстоўвалі фірменныя бланкі гэтага прадпрыемства і атрымалі на Мінскім вінна-гарэлачным заводзе «Крышталь» 180 тысяч бутэлек гарэлкі, пад маркай вывазу тавару на Украіну. У далейшым імі на завод былі прадстаўлены фіктыўныя спраўздачныя дакументы, якія пацвярджалі факт перамяшчэння груза праз мытныя пункты Мінскай, Мазырскай і Кіеўскай мытняў. А на самай справе фактычна ўся партыя гарэлкі была завезена ў адзін з магазінаў Мінска і ў асноўным рэалізавана ў працэсе рознічнага гандлю. А зусім нядаўна работнікамі УБАЗ па Брэсту і вобласці сумесна з УКДБ спынена дзейнасць арганізаванай міжнароднай злачыннай групы, якая складалася з 13 чалавек і займалася пастаўкамі спірту на Беларусь.

Паводле папярэдніх даных, у рэспубліцы планавалася незаконна рэалізаваць спірту на суму каля 40 млн. долараў ЗША. А пачалася работа па выкрыццю гэтай групы з выяўлення буйных партый польскага спірту, складзіраванага ў розных раёнах Брэсцкай вобласці проста ў хлявах грамадзян. Быў распрацаваны план аператыўна-вышуковых дзеянняў. У выніку ўстаноўлены тайны механізм незаконнай перакідкі ў Польшчу валюты і перамяшчэння па тэрыторыі нашай рэспублікі фургонаў са спіртам. На Беларусі спірт оптам рэалізоўваўся, а потым з мэтай атрымання «навару» вывозіўся дробнымі партыямі назад у Польшчу, дзе водпуск са спіртзаводаў у сувязі з дзяржаўнай манаполіяй на гэты прадукт мясцовымі арганізацыямі ажыццяўляўся не менш чым па 18 долараў за літр, у той час як за мяжу ён мог быць рэалізаваны па цане 1 або 1,5 долара за літр. Па выніках гэтай аперацыі работнікамі УБАЗ у даход дзяржавы было вернута спірту на суму 240 тыс. долараў ЗША.

На семінары-нарадзе «Барацьба з арганізаванай злачыннасцю ў сферы эканомікі», які нядаўна прайшоў у Мінску, прама адзначалася, што калі раней фінансавым падмуркам арганізаванай злачыннасці спецыялісты лічылі ўнутраную «ценявую» эканоміку, то цяпер, пэўна, на першым месцы «ценявая» знешнеэканамічная дзейнасць.

Работа падраздзяленняў УБАЗ з кожным месяцам становіцца ўсё больш шматграннай. Рыначная эканоміка, якая толькі становіцца на ногі, сацыяльныя зрухі падкідваюць усё новыя задачы з многімі невядомымі, іх неабходна аператыўна і прафесіянальна вырашаць, прагназіраваць, працаваць з апярэджаннем. Цяпер гэтыя пытанні вырашаць, нягледзячы на ўсе складанасці, ужо прасцей, перыяд асэнсавання сваёй дзейнасці, станаўлення падраздзяленняў кіраўніцтва па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю завершаны.

**Васіль КУРЛОВІЧ.**

# ПРАБЛЕМЫ ЭКАНАМІЧНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**— Ці ёсць у польскага бізнесу зацікаўленасць у інвестыцыях у Беларусь?**

— Так, палякі ўжо ідуць са сваім бізнесам на нашу тэрыторыю. Штодзённа вялікая колькасць прадпрымальнікаў звяртаецца да нас у пасольства з пытаннямі, якія льготы яны могуць мець у Беларусі. Прычым не ўсіх задавальняе толькі трохгадовае вызваленне ад падатку на прыбытак, многія хацелі б выкупіць зямлю пад будаўніцтва. Дарэчы, у Польшчы сеймам прыняты папраўкі да законаў, якія дазваляюць продаж зямлі інвестарам — 0,4 гектара ў горадзе і 1 гектар — у вёсцы. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што Польшча імкнецца эканамічна супрацоўнічаць з Беларуссю, і тут дадатковым штуршком можа стаць указ аб свабодных эканамічных зонах у Беларусі.

Ёсць яшчэ цікавыя шляхі для наладжвання супрацоўніцтва ў будучым. Трэба наладжваць вытворчасць не толькі трактароў, але і іншай тэхнікі — гэта адзін са шляхоў нармальна абысці вялікія падатковыя пошліны на імпарт гатовай прадукцыі, якія складаюць да 35 і болей працэнтаў, а на вузлы і дэталі — нашмат меншыя. Так тут многія робяць.

**— Як складваюцца ўвогуле нашы адносіны ў мытнай галіне?**

— Польшча ў прынцыпе не адгароджваецца ад Беларусі спецыяльнымі бар'ерамі, аднак польскія мытныя тарыфы ўладкаваны такім чынам, што ўнутраны рынак вытворцаў добра абаронены. Тым не менш, Польшча мае свае абавязацельствы перад ЕС, Сусветнай гандлёвай арганізацыяй, Вышаградскай групай і Еўрапейскай асацыяцыяй свабоднага гандлю. І згодна з імі Польшча штогод зніжае свае мытныя тарыфы. А Беларусь, як і іншыя краіны СНД, карыстаецца ў Польшчы толькі рэжымам найбольшага спрыяння, таму для нас застаюцца большыя пошліны. Беларусі трэба хутчэй імкнуцца ў еўрапейскія структуры, падпісваць аналагічныя пагадненні, і тады гэта паставіць нас у роўныя ўмовы.

**— Як уплывае на нашы гандлёвыя адносіны членства Беларусі ў мытным саюзе?**

— Я мяркую, што для польскіх партнёраў ён толькі карысны. Палякі арганізоўваюць СП у Беларусі, а рэалізоўваюць тавар на ўсёй прасторы мытнага саюза бяспошлінна. Ім не трэба далёка ехаць...

**— А як прадстаўлены наш бізнес, нашы прадпрыемствы ў Польшчы?**

— У апошні час нашы суб'екты гаспадарання пачалі сур'ёзна цікавіцца адкрыццём сваіх прадстаўніцтваў у Польшчы і стварэннем СП. Гэта вельмі карысна, бо Польшча мае даўнія традыцыйныя гандлёвыя сувязі ва ўсім свеце, і Беларусь такім чынам можа іх выкарыстоўваць. Сёння ў Польшчы дзейнічаюць каля 30 беларуска-польскіх СП. Для параўнання я прывёў бы такія лічбы: тут існуюць 125 польска-в'етнамскіх СП і 89 — польска-расійскіх. Калі іх ёсць столькі, то гэта, відаць, выгадна. Сярод беларуска-польскіх СП я адзначыў бы прадпрыемства «Міртранс» у Гданьску — транспартна-экспедыцыйную фірму, якая перавозіць нашы трактары. Ёсць фірмы, якія займаюцца тут дыстрыб'юцыяй хлорыстага калію, дзякуючы ім значна палепшылася сітуацыя для «Беларуськалія» на польскім рынку.

**— А як вырашаецца праблема грашовых разлікаў?**

— Нягледзячы на тое, што ў 1992 годзе паміж Беларуссю і Польшчай падпісана пагадненне аб стварэнні сумеснага банка, банк пакуль не з'явіўся. Але пытанне гэтае ставіцца, у тым ліку на сустрэчы прэм'ераў у канцы мінулага года — размова ідзе аб наладжванні разлікаў у нацыянальных валютах. Для разліку ў злотых усё ў польскім заканадаўстве вырашана, але польскі бок пабойваецца, што разлік у нацыянальных валютах можа ў нейкай ступені падарваць курс злотага па прычыне таго, што курс беларускага рубля недастаткова ўстойлівы. Тут яшчэ трэба весці перамовы. Ёсць яшчэ адна вельмі важная праблема — стварэнне ў Беларусі страхавога фонду для падтрымкі экспарту.

**— Добрым гандлёвым кантактам на беларуска-польскай мяжы як заўсёды перашкаджаюць вялікія чэргі...**

— Так. Гэта сур'ёзная праблема. Толькі для таго, каб гэтыя чэргі не павялічыліся, трэба ў пагранічныя пераходы інвесціраваць 208 мільёнаў долараў, а каб паменшыць чэргі — да 800... Трэба, канешне, улічыць, што беларускі транспарт на гэтых пераходах складае максімальна 25 працэнтаў. Таму варта беларускаму і польскаму бакам сумесна звярнуцца ў еўрапейскія структуры і папрасіць фінансавання для агульнай справы. Я ведаю, што польскі бок ужо атрымаў пэўныя сродкі на абсталяванне сучаснага тэрмінала і пераходаў. І важна, каб адпаведная праца вялася і з беларускага боку, каб у нас былі адпаведнай якасці дарогі.

**— Якія прапановы рыхтаваліся да першага рабочага візіту А. Квасьнеўскага ў Беларусь?**

— Рыхтаваліся да абмеркавання і праблема ўзаемаразлікаў, і пытанне пагранічных пераходаў, будаўніцтва трасы Берлін—Масква. У суседзяў заўсёды ёсць шмат праблем, якія трэба вырашаць за сталом перагавораў.

**— Якая, на ваш погляд, увогуле роля Польшчы як эканамічнага партнёра для Беларусі?**

— Тут перш за ўсё трэба ўлічваць, што Польшча — адна з постсацыялістычных краін, якая дабілася эканамічных поспехаў і з'яўляецца лідэрам па росту валавога прадукту. І тыя эканамічныя пераўтварэнні, якія рабіліся ў Польшчы, уяўляюць для нас цікавы вопыт. Польшча, да таго ж, становіцца і еўрапейскім фінансавым цэнтрам, сюды прыйшлі буйныя заходнія кампаніі. Адна паўднёвакарэйская фірма «Дэву» аб'явіла, што яна інвесціруе ў Польшчу больш мільярда долараў для вытворчасці аўтамабіляў, электронікі. Уяўляе цікавасць вопыт Польшчы ў лібералізацыі ўнутранага заканадаўства і знешняга гандлю, у прыцягненні інвестыцый. Прытым, Польшча гатова падзяліцца сваім вопытам.

Акрамя таго, Польшча інтэгруецца ў Еўрасаюз, што таксама цікава Беларусі...

**— А што ёсць негатыўнага?**

— Для мяне негатыўным з'яўляецца той факт, што ёсць даўжнікі з аднаго і другога боку, але на польскім баку, як падаецца, больш. Гэта атрымалася, калі нашы прадпрыемствы ўпершыню выйшлі на знешні рынак, працавалі з рознымі фірмамі, якія потым знікалі і г. д.

**Інтэрв'ю правёў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ПОГЛЯД*

# «БЕЛАРУСЬ, ТВОЙ НАРОД ДАЧАКАЕЦЦА...»

***Заўвагі на палях праекта саюзнага беларуска-расійскага дагавора***

**У ЯКОЙ КРАІНЕ мы апынёмся пасля 2 красавіка — дня, на які прызначана падпісанне двухбаковага беларуска-расійскага дагавора «Аб паглыбленні інтэграцыі і ўсебаковым збліжэнні»? Як вядома, сцвярджэнні тых, хто занепакоены пагрозай страты незалежнасці Беларусі і яе інкарпарацыі ў састаў Расіі, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка назваў 27 сакавіка ў парламенце «наўмыснай і несумленнай хлуснёй».**

Сапраўды, тыя палажэнні праекта дагавора, якія ажыўлена абмяркоўваюцца цяпер і ў нас, і ў Расіі, на першы погляд, не даюць падстаў для празмернай трывогі. У адным з апошніх варыянтаў праекта, атрыманым намі з крыніц у расійскім урадзе, неаднаразова падкрэсліваецца ўзаемнае прызнанне бакамі дзяржаўнай незалежнасці, суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці.

У прыватнасці, у артыкуле 20 прадугледжана: «удзельнічаючы ў Саюзе, кожны з бакоў захоўвае свой дзяржаўны суверэнітэт, незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, сваю Канстытуцыю, дзяржаўны флаг, гімн і іншыя атрыбуты дзяржаўнай улады». Ці ў артыкуле 19: «Дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, з'яўляюцца суб'ектамі міжнароднага права і самастойна ўстанаўліваюць дыпламатычныя і консульскія адносіны, гандлёвыя і іншыя сувязі з замежнымі дзяржавамі, заключаюць міжнародныя дагаворы».

Бадай, галоўнае сведчанне таго, што новы Саюз ці Супольнасць (назва пакуль не вызначана) не ёсць празмерна цеснае ўтварэнне, якое можна было б лічыць новай дзяржавай, — адсутнасць адзінай фінансавай сістэмы і адзінага бюджэту. Бюджэт Саюза будзе складацца (артыкул 9) «за кошт штогадовага выдзялення сродкаў з дзяржаўных бюджэтаў бакоў і прызначаецца для фінансавання агульных праграм і ўтрымання органаў Саюза». Пры такім падыходзе агульны кашалёк наўрад ці будзе тоўсты.

Бюджэты і Расіі, і Беларусі на гэты год увогуле прыняты без згадкі пра нейкія сумесныя праграмы. Што да перспектыў, то вопыт многіх міждзяржаўных утварэнняў, якія абвяшчаюць у сваіх праграмах сумесныя праекты, сведчыць, што вялікай праблемай часам становіцца «выбіванне» грошай нават на ўтрыманне апаратаў гэтых арганізацый, не кажучы ўжо пра буйнамаштабныя дарагія праграмы. (Згадаем, як гэта адбываецца ў СНД, ААН, ЮНЕСКО).

Прынцып дзейнасці плануемых наддзяржаўных органаў (Савета Саюза, Міжпарламенцкага кангрэса, Інтэграцыйнага камітэта, Суда Саюза), мяркуючы па праекту дагавора, мала адрозніваецца ад тых прынцыпаў, на якіх дзейнічаюць падобныя структуры ў межах Садружнасці. З той толькі розніцай, што двум суб'ектам Саюза, відавочна, намнога лягчэй дамовіцца паміж сабой, чым дванаццаці суб'ектам Садружнасці. Акрамя таго, мяркуецца, што «Савет Саюза і Інтэграцыйны камітэт маюць права ў межах сваёй кампетэнцыі прымаць рашэнні, якія маюць абавязковы характар для адпаведных органаў і арганізацый бакоў» (артыкул 14).

Дык ці пагражае гіпатэтычны Саюз незалежнасці Беларусі? У той канкрэтнай форме, якая ўтворыцца 2 красавіка, верагодна, не. Але ў перспектыве... Справа ў тым, што саюз узнікае як пераходная структура. (Гэта неаднаразова падкрэсліваў у апошніх выступленнях Аляксандр Лукашэнка.) У праекце дагавора гэта адлюстравана наступным чынам: «Далейшае развіццё Саюза і яго статут будуць вызначаны рэферэндумамі, якія адбудуцца на тэрыторыях бакоў у адпаведнасці з нацыянальнымі заканадаўствамі».

Якімі могуць быць пытанні, вынесеныя на рэферэндум, відавочна ўжо цяпер. Няцяжка прадказаць і зыход плебісцытаў, зыходзячы з таго, што на працягу бліжэйшага года эканамічная сітуацыя ні ў Расіі, ні тым больш у Беларусі кардынальным чынам не палепшыцца. І лозунгі далейшай (ужо канчатковай) інтэграцыі могуць служыць для палітыкаў зручнай зачэпкай для апраўдання неэфектыўнай эканамічнай палітыкі і рэалізацыі амбіцыйных планаў.

У гэтым сэнсе новы Саюз — гэта пляцоўка, плацдарм для стварэння аб'яднанай дзяржавы. Зразумела, можна цешыць сябе ілюзіямі, што Беларусь будзе карыстацца роўнымі правамі з Расіяй у гэтай новай федэрацыі, што будуць замацаваны якія-небудзь гарантыі ў Канстытуцыі... Але ў рэальнасці, дэ-факта, Беларусь у гэтым выпадку можа ўспрымацца як частка Расіі.

Ужо сёння зразумела, што ніводная з іншых краін СНД не збіраецца ісці падобным шляхам. І ў вачах і партнёраў па Садружнасці, і сусветнай супольнасці гэтая добраахвотная ліквідацыя дзяржавы наўрад ці будзе расцэнена інакш, як няздольнасць беларусаў быць гаспадарамі ва ўласным доме.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ВЕРСІІ*

# ЛЁС НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ ВЫЗНАЧЫЦЦА 16 ЧЭРВЕНЯ

**На мінулым тыдні палітыкі мала гаварылі пра амаль паралізаваную эканоміку і жабрацкі стан народа. Страсці кіпелі вакол новых інтэграцыйных ініцыятыў.**

Чарговы прыліў братэрскіх пачуццяў зусім не выпадкова супаў з вырашальнай фазай прэзідэнцкай гонкі у Расіі. У гэтай гонцы і Аляксандр Лукашэнка, і Нурсултан Назарбаеў, і Аскар Акаеў адназначна сталі на бок Ельцына. Барысу Мікалаевічу напярэданні 16 чэрвеня лаўры аб'яднальніка патрэбны як нікому — каб прыкрыць чорную пляму белавежскага мінулага.

Новы «саюз чатырох», па агульнаму прызнанню, у большай ступені — прапагандысцкая акцыя, чым рэальнае больш цеснае збліжэнне. Ён замацоўвае ўжо дасягнутыя дамоўленасці,— галоўным чынам у рамках мытнага саюза.

Ні ўтварэнне альянсу чацвёркі дзяржаў, ні наступнае заключэнне двухбаковага беларуска-расійскага саюза не будуць мець вялікага практычнага значэння да таго часу, пакуль у Расіі не вызначыцца лёс прэзідэнцкага крэсла. Пасля 16 чэрвеня ў любым выпадку ў адносінах Расіі з краінамі СНД адбудуцца значныя карэктывы. Застанецца пры ўладзе Ельцын — пра многія шумныя перадвыбарныя акцыі будуць успамінаць хіба што гісторыкі: гэтыя акцыі будуць спушчаны на тармазах. І дэмакрат Ельцын, і яго прагматычнае акружэнне зусім не зацікаўлены ў адраджэнні імперыі, якое можа каштаваць Расіі непамерных выдаткаў: і фінансавых, і палітычных.

У выпадку ж, калі да ўлады прыйдзе Зюганаў, пытанне будзе пастаўлена пра аднаўленне СССР, без усякіх рэверансаў у бок адчуўшых смак незалежнасці нацыянальных ускраін былой імперыі. Практычнае значэнне раўнапраўнага двухбаковага дагавора і ў гэтым выпадку будзе набліжацца да нуля.

Такім чынам, лёс незалежнасці Беларусі ні 2 красавіка, ні на працягу бліжэйшага месяца не вызначыцца. Этапным рубяжом для нас стануць расійскія выбары.

Зразумела, што гэта праблема зусім не кансалідуе беларускае грамадства. Сведкамі гэтага мы ўжо сталі на мінулым тыдні і яшчэ станем у блізкай будучыні.

Тым больш, што на фоне глыбокага крызісу і катастрафічнага ўзроўню жыцця насельніцтва перыядычныя прапагандысцкія кампаніі перастаюць аказваць ранейшы эфект заспакаяльнага сродку. Адцягваць увагу людзей становіцца ўсё цяжэй, калі размовы пра інтэграцыю не суправаждаюцца зрухамі ў эканоміцы.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## У СВЕЦЕ

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● ЕЛЬЦЫНА АБВІНАВАЧВАЮЦЬ У ПАРУШЭННІ ВЫБАРЧАГА ЗАКАНАДАЎСТВА**

Экс-прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў абвінаваціў Барыса Ельцына ў яўных парушэннях выбарчага заканадаўства Расіі. Аб гэтым сведчыць уключэнне ў састаў Савета па перавыбранню Ельцына вышэйшых адказных асоб — ад прэм'ер-міністра да дырэктара Федэральнай службы бяспекі. А ўвядзенне ў Савет кіраўнікоў адзінага незалежнага тэлеканала НТВ сведчыць аб устанаўленні татальнага кантролю аднаго з кандыдатаў на пасаду прэзідэнта на тэлебачанні. Гарбачоў лічыць, што ў гэтых абставінах на абарону Канстытуцыі і закона павінны стаць парламент, Канстытуцыйны суд і Цэнтрвыбаркам Расіі.

**● СПРАВА ДАХОДЗІЦЬ ДА РУКАПРЫКЛАДСТВА**

Ужо тыдзень працягваецца галадоўка шасці дэпутатаў Кемераўскага абласнога заканадаўчага сходу ў знак пратэсту супраць дзеянняў мясцовай адміністрацыі, якая спрабуе заблакіраваць дзейнасць дэпутатаў. У ход ідуць прыёмы больш «крутыя», чым у часы палітбюро ЦК КПСС, уключаючы пагрозы, шантаж, а часам справа даходзіць нават да рукапрыкладства. Жанчыны, якія ўдзельнічаюць у галадоўцы, шпіталізаваны па прычыне знясілення.

**● ГОРАД ГОЛЫХ ЛЮДЗЕЙ**

«Калі нельга перарабіць гэты свет, мы створым свой уласны» — пад такім дэвізам група бразільскіх нудыстаў пачала будаўніцтва горада, у якім усе будуць хадзіць без вопраткі. Для яго выбрана аддаленая маляўнічая мясцовасць у адным у паўднёвых штатаў краіны. У Бразіліі налічваецца каля ста тысяч прыхільнікаў руху нудыстаў. Прадугледжваецца пабудаваць 200 дамоў, магазіны, школы, бальніцы, рэстараны, дзіцячыя садкі і іншую інфраструктуру сучаснага горада. Адрозніваецца ад іншых гарадоў ён будзе толькі тым, што ва ўсіх без выключэння грамадскіх месцах можна будзе сустрэць толькі голых людзей.

**● З КАМЕРАЙ У СЭРЦЫ**

Першая ў свеце аперацыя на адкрытым сэрцы з дапамогай відэахірургіі была пасляхова праведзена групай парыжскіх хірургаў. Аперацыя адбылася яшчэ напрыканцы лютага, але толькі ўчора аб ёй было паведамлена афіцыйна. З дапамогай эндаскапічнай тэхнікі прама ў сэрца былі ўведзены камера і асвятляльная трубка. Гэта дазволіла перадаць на тэлевізійны экран павялічанае адлюстраванне ўнутраных структур сэрца і значна аблегчыць дзеянні ўрачоў. Акрамя таго гэта знізіла страту крыві і болевыя адчуванні пацыента. Аперацыя працягвалася каля дзвюх з паловай гадзін.

**● АДЭСА ЗАСТАЛАСЯ БЕЗ ПРАВАДЫРА**

У Адэсе дэманціраваны апошні ў горадзе помнік Леніну. Да 1 мая ён папоўніць музей-пантэён бальшавіцкіх сімвалаў. Гэта апошні з 14 адэскіх манументаў правадыру пралетарыяту. На чарзе знос яшчэ 100 сімвалаў мінулай эпохі.

**● У XXI СТАГОДДЗЕ З РАБАМІ?**

Здавалася б што-што, а такі перажытак сівой даўніны, як рабаўладанне, даўно кануў у Лету. Аднак, як зазначыў кіраўнік даследчага аддзела амерыканскай групы па барацьбе з рабаўладаннем, гандаль людзьмі мае месца і ў нашы дні. Дзве сумна вядомыя краіны, што звязаны з гэтай антыгуманнай з'явай, — Маўрытанія і Судан. У Маўрытаніі гандаль людзьмі быў забаронены яшчэ ў 1980 годзе, але фактычна гэтая практыка працягваецца і цяпер. Урад жа Судана не прымае эфектыўных мераў у адносінах да рабаўладання, якое шырока распаўсюджана, асабліва ў паўднёвых раёнах краіны, дзе ідзе грамадзянская вайна.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Секс, аказваецца, не толькі прыемнае баўленне часу. На думку амерыканскіх вучоных, дзякуючы занятку сексам жанчыны становяцца разумнейшымі. Прафесар Элізабет Дэвіс, напрыклад, сцвярджае: у час палавога акта — і нават ад адной думкі аб ім — мозг выпрацоўвае гармон аксімацын, ад якога дзяўчаты і жанчыны набываюць здольнасць больш ясна і глыбока думаць. Ну, а якімі ж становяцца ад сексу мужчыны? Па-жаночы цынічна доктар Дэвіс адказвае: «Больш стомленымі».

**ЭКСТРА-ПРЭС**

*Амерыканец Мік Самерфілд быў паражоны разрадам маланкі тры разы. У 1918-м — на фронце, на рацэ Маас. У 1924 годзе — у час рыбалкі на рацэ Іст-Рывер, у 1930 годзе — у час прагулкі па лесе. Цяжка паверыць, але ўсе тры разы Мік атрымліваў не такія ўжо цяжкія траўмы. Калі ж Самерфілда хавалі ў 1950 годзе, маланка ўдарыла ў яго магілу, разбіўшы ўшчэнт чорны мармуровы надмагільны помнік.*

**«Чыкага сан»**

Больш як паўгода не атрымліваюць зарплату работнікі буйнога ерэванскага аб'яднання «Наірыт». Зварот у высокія інстанцыі не даў вынікаў. І вось калектыў «Наірыта» на агульным сходзе пастанавіў... пабіць свайго дырэктара. Атмасфера на сходзе, як сцвярджаюць відавочцы, была напаленая, і рабочыя не абцяжарвалі сябе ў выбары розных слоў. І галасавалі сціснутымі кулакамі.

**«Труд».**




# ЭКАЛОГІЯ — ЧАЛАВЕК

СПЕЦВЫПУСК «ЗВЯЗДЫ» І МІНІСТЭРСТВА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

30 сакавіка 1996 года

№ 1(5)


*СУДОВЫЯ БАТАЛІІ*

## «БІТВА» ЗА 26 МІЛЬЯРДАЎ

**Менавіта такую суму штрафу ў беларускіх рублях павінны былі ўплаціць расійскія транспарціроўшчыкі нафтапрадуктаў, якія сваёй «дзейнасцю» нанеслі вялікую шкоду нашай прыродзе. Аднак у судзе і пракуратуры ў іх знайшліся добраахвотныя «адвакаты»**

**Перш чым пачаць расказ пра ўжо адгрымеўшыя судовыя баі «за вялікія грошы», нагадаем пра зусім магчымыя будучыя іскі ў суд на тых жа «нафтавых магнатаў» — праўда, у меншым маштабе.**

**Як паведамлялася ўжо ў друку, 12 лютага гэтага года на прадуктаправодзе, што належыць расійскай кампаніі «Транснафтапрадукт», у Добрушскім раёне адбылася сур'ёзная аварыя. З лопнутай трубы на зямлю вылілася прыкладна 150 тон паліва, якое затапіла і некалькі дачных участкаў гараджан. Дачнікі, хутчэй за ўсё, пачнуць дабівацца праўды ў судзе і кампенсацыі за ўрон, нанесены іх маёмасці. А вось наколькі ўдасца ім, прыватным асобам, процістаяць у тым жа судзе магутнай нафтавай каманіі, сказаць цяжка. Прагнозы для іх несуцяшальныя.**

**Гэта гаворыцца таму, што ўжо маецца вопыт, як нялёгка прыйшлося саліднай арганізацыі — Гомельскаму абласному камітэту па экалогіі, калі ён адстойваў дзяржаўныя інтарэсы (не нейкія там інтарэсы «маленькага чалавека»). Аварыя ж на магістральным трубаправодзе ў гэтым выпадку была куды больш унушальная — на тэрыторыі Чонкаўскага лясніцтва, у трох кіламетрах ад Гомеля, у яго зялёнай зоне, з разарванай трубы вылілася больш як 800 тон дызельнага паліва. Ручай, які выцякае з мясцовага возера, упадае, між іншым, у раку Сож, а там — рукой падаць да вядомага ўсім санаторыя, дома адпачынку, пляжа, на якім летам адпачывае ўвесь Гомель...**

### СПРАВА — ТРУБА

Каб данесці да чытачоў сутнасць «механізма» аварыі, якая адбылася 5 красавіка мінулага года пад Гомелем, выкарыстаем прыём вольнага пераказу загаду па Паўднёва-Заходняму прадпрыемству магістральных нафтапрадуктаправодаў Расійскай Федэрацыі (ці інакш — АК «Транснафтапрадукт»), якое з'яўляецца гаспадаром магістралі і базіруецца ў горадзе Самары. Абапіраемся на яго менавіта таму, што ён складзены з куды большым веданнем справы і прафесіяналізмам, чым некаторыя дакументы, народжаныя ў нашым, беларускім, судзе і праваахоўных органах.

У той дзень у 14 гадзін па магістральнаму нафтапрадуктаправоду (НПП), на ўчастку Унеча (Бранская вобласць) — Мазыр пачалося перапампоўванне дызпаліва, каманду на пачатак якога даў дыспетчар акцыянернай кампаніі «Транснафтапрадукт». А што робіць, напрыклад, дыспетчар Мазырскага ўпраўлення гэтай кампаніі С.Кеўлішвілі? Ён у гэты час вядзе перагаворы са сваімі падначаленымі аб неабходнасці адкрыць гідраўлічныя засаўкі на сваім участку, каб паліва магло ісці па трубаправоду далей.

Што адбываецца потым? Не што іншае, як самае дзікае парушэнне тэхналагічнай дысцыпліны: засаўкі ў Мазыры на самай справе ніхто не адкрыў, С.Кеўлішвілі гэтага не праверыў, затое даў у Бранскае ўпраўленне тэлефанаграму аб гатоўнасці схемы да перапампоўвання.

У выніку адбылося тое, што і павінна было адбыцца. Атрымаўшы паведамленне аб перавышэнні ціску ў трубаправодзе, С.Кеўлішвілі перадаў у Бранск просьбу аб неадкладным спыненні помпы. У 16 гадзін перапампоўванне было спынена, але якраз у гэтыя секунды труба і не вытрымала. Вось так і адбылася аварыя, як адзначаецца, 1-й катэгорыі, з вялікімі эканамічнымі стратамі.

Ёсць неабходнасць прывесці з вышэйпамянёнага загаду дзве прамыя, вельмі важныя цытаты. У ходзе расследавання было ўстаноўлена, што аператары (прыводзяцца прозвішчы) «не ажыццяўлялі належнага кантролю за ціскам пры вывядзенні трубаправода на рабочы рэжым, своечасова не выявілі перавышэння ціску для дадзенага рэжыму перапампоўвання».

І яшчэ: «Толькі 9 красавіка ўдалося раскапаць пашкоджаную частку трубы, пры гэтым быў выяўлены разрыў па верхняй частцы трубапровода даўжынёй 550 міліметраў». Названую дату трэба запомніць, таму што праз нейкі час «зацікаўленыя» асобы сачынілі такія «дакументы», ад якіх за вярсту патыхала падробкай.

... Непасрэдны ўдзельнік падзей, старшыня Гомельскага абласнога камітэта па экалогіі Міхаіл Мачуленка ўспамінае тыя нялёгкія дні:

— З «Транснафтапрадукта» прыбылі чатыры аварыйныя брыгады, аднак толькі 6 красавіка, праз 12 гадзін пасля аварыі, яны знайшлі месца разрыву — там ужо расцяклося паліва. Нашай задачай сумесна з прадстаўнікамі грамадзянскай абароны было арганізаваць пасляаварыйныя работы: узвесці дамбы, абсталяваць пад'езд да месца разрыву 300 метраў даўжынёй, каб можна было адкапаць трубу і замяніць пашкоджаны кавалак і адпампаваць з яе рэшткі дызпаліва. Усе гэтыя тры дні яно працягвала выцякаць, а бензавозы адпампоўвалі яго з воднай паверхні.

Гэтую сумесь дызпаліва з вадой адвозілі на прыёмны наліўны пункт — уласнасць акцыянернай кампаніі, а таксама ў бліжэйшыя гаспадаркі і на прадпрыемствы. Абодва бакі ўважліва рэгістравалі колькасць цыстэрнаў і аб'ёмы сабранага. Праз пэўны час, калі колькасць вады ў сумесі ўдалося падлічыць і «адкінуць» (яе аказалася прыкладна 200 тон), абласны камітэт пагадзіўся зменшыць суму судовага іску да АК «Транснафтапрадукт» да 26 мільярдаў рублёў. І гэтую суму штрафу (спачатку яна наогул была 37,6 мільярда) у пасяджэннях Гомельскага абласнога гаспадарчага суда адстойваў да канца.

А спаганяць з адказчыка было за што. Дызпаліва заліло 36,1 гектара ўгоддзяў. У Сожы пасля гэтага тры дні назіралася канцэнтрацыя нафтапрадуктаў у тры разы большая за норму. На месцы ж аварыі, у балоце і возеры, яна была вышэй у дзесяткі і сотні разоў!

...Зразумела, начальства ў Самары ніяк не магло «пахваліць» сваіх падначаленых за такую «работу». Начальніка Мазырскага ўпраўлення В.Гаеўскага, яго намесніка Н.Брыкеза пазбавілі каэфіцыента надбаўкі да зарплаты за красавік на 100 працэнтаў. Панеслі пакаранне і іншыя «камандзіры» вытворчасці.

А што ж галоўны віноўнік экалагічнага бедства? Зноў працытуем той самы загад: «Абавязаць начальніка Мазырскага УМНПП Гаеўскага В.Ю. перадаць у пракуратуру матэрыялы на прыцягненне дзяжурнага дыспетчара Кеўлішвілі С.Л. да крымінальнай адказнасці».

Забягаючы наперад, адразу паведамім: дзяжурны дыспетчар з усёй кампаніі аказаўся самым шчаслівым, бо практычна застаўся без пакарання.

### ДАКАЖЫ, ШТО ТЫ НЕ ВЯРБЛЮД!

— Калі мы выставілі шматмільярдны штраф, — расказвае Міхаіл Мачуленка, — то ў Гаеўскага вочы зрабіліся проста квадратныя, відаць, спадзяваўся на іншы зыход справы. А потым ён заявіў: «Вы жадаеце пусціць нас з малатка. І наогул, я лепш найму добрага адваката, як след яму заплачу, але справу ў судзе выйграю — і плаціць вам не буду».

У якасці адступлення можна было б, канешне, напомніць спадару Гаеўскаму, што калі б ён так працаваў на Захадзе і сотнямі тон разліваў па зямлі гаручае, то ўжо праз тыдзень яго сапраўды «пусцілі б з малатка» і ён хадзіў бы ў банкрутах. Але ў дадзеным выпадку, думаецца, усе парады-напамінкі будуць дарэмныя.



**Нафта — сусветнае багацце. Аднак дрэнны гаспадар з яе «дапамогай» можа ўчыніць вялікую шкоду.**

**Штучнае «возера» з нафтапрадуктаў — за тры кіламетры ад Гомеля.**

**Фотамантаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

У той жа час пазіцыя кіраўніка абласнога камітэта па экалогіі ясная і зразумелая. Ён — дзяржаўны служачы, ажыццяўляе экалагічны кантроль і адстойвае інтарэсы дзяржавы. І калі экалагічная служба вобласці выстаўляе штрафныя санкцыі, то сумы бярэ не са столі, а падлічвае іх згодна з «Інструкцыяй аб парадку спагнання ў даход дзяржавы сродкаў для кампенсацыі страт, прычыненых дзяржаве парушэннем воднага заканадаўства», а таксама распрацаванымі ў краіне адпаведнымі «Метадычнымі рэкамендацыямі».

Заклікаць да аб'ектыўнасці і сумленнасці ў нашым выпадку — рэч, канешне, наіўная. У В.Гаеўскага і яго каманды становішча было такое, што заставалася толькі біцца ў судзе, як кажуць, не на жыццё, а на смерць. Яе, гэтую каманду, узмацнілі сапраўды ўмельцы-юрысты, здольныя навесці цень на ўвогуле ясную справу. І ўсе разам яны павялі «правільную» асаду суда. Ці зможа ўстаяць адзін суддзя (а гэта і ёсць увесь «састаў» гаспадарчага суда на канкрэтным працэсе), чалавек, далёкі ад тэхнічна-тэхналагічных матэрый, калі яму з боку адказчыка падкідваюць усё новыя контрпрэтэнзіі і патрабаванні патрэбных і непатрэбных экспертыз, нават настырныя абвінавачанні істца ў... некампетэнтнасці і непрафесіяналізме.

Канешне, калі той жа В.Гаеўскі ў судзе заяўляе, што ён не давярае матэрыялам абласнога камітэта па экалогіі, што яны складзены непрафесіянальна і ён патрабуе пазаведамаснага заключэння, то гэта — яго права. Не трэба, аднак, забываць, што «аварыйны прафесіяналізм» калектыву Мазырскага ўпраўлення і яго кіраўніка шырока вядомы. Што ж датычыць экспертызы...

Лепшай з іх, відаць, з'яўляецца той самы загад па АК «Транснафтапрадукт», дзе ў дэталях паказаны прычыны аварыі і іх віноўнікі. Вось яна — экспертыза! Аднак гаспадарчы суд гэтых дакладных вывадаў чамусьці не прыняў. Дзіўна, калі не сказаць больш.

Дзіўна і тое, як паступова суд усё больш схіляўся, вобразна кажучы, на «адвакацкую» пазіцыю ў адносінах да адказчыка. У выніку ён апраўдаў іск абласнога экалагічнага камітэта на 169 тон разлітага паліва (замест 600 тон!) на суму ўсяго 7,1 мільярда рублёў. Што ж, можа сапраўды трэба ратаваць расійскіх «нафтавых каралёў» ад разарэння?

Вось штрых, які паказвае, як гэта рабілася. Прайшоў пасля аварыі пэўны час — і раптам з'яўляецца акт, які сярод іншых падпісалі прадстаўнікі Мазырскага ўпраўлення і наліўнога пункта (з той жа сістэмы акцыянернай кампаніі). Чорным па беламу там запісана: маўляў, вадзіцелі бензавозаў бралі разлітае паліва 7-8 красавіка ўжо не з балота, а з трубы. Гэта значыць, лічы, што яго вылілася на зямлю куды менш, чым сцвярджае істец.

— Мы далі сустрэчнае тлумачэнне, якое падпісалі каля дзесяці вадзіцеляў: яны вазілі разлітае паліва з балота і ручая ўсе тры дні — з 6 па 8 красавіка, — тлумачаць эколагі. — Аднак суд адкінуў гэты доказ, а чамусьці прыняў за аснову той акт.

І суд прымае такую «ліпу» да разгляду? Не робіць захадаў, каб расследаваць абставіны з'яўлення гэтага сумніўнага «дакумента»? Што гэта: лянота, непрафесіяналізм ці ўсё тое ж «адвакацтва»? Дастаткова ўсяго толькі падняць першасную дакументацыю ў гаспадарках і на прадпрыемствах, куды адвозілі разлітае паліва, — і ўсё адразу стане на месца. Не пашкодзіла б учытацца і ў радкі таго ж загаду па акцыянернай кампаніі, якія ўжо былі прыведзены: тады стане зразумела, што да 9 красавіка з трубы, якая ляжала ў зямлі і да якой нельга было пад'ехаць, ніхто нічога не мог узяць.

Усе гэтыя недарэчнасці можна было б паказваць і далей. Аднак апусцім заслону міласэрнасці і пашкадуем суддзю Л.Марыновіч. Можна паверыць, што, як яна прызнавалася таму ж М.Мачуленку, «такой складанай, цяжкай судовай справы ў мяне ніколі не было».

Вопыт, вядома, неабходна набіраць, але пажадана гэта рабіць з меншымі стратамі для дзяржавы...

У адрозненне ад неспрактыкаванай яшчэ суддзі гаспадарчага суда, у намесніка гомельскага прыродаахоўнага пракурора В.Бурлакова, па ўсім відаць, вопыту хапае. Трэба ж скласці ў пастанове аб спыненні крымінальнай справы такія фармулёўкі, дзе да логікі іншы раз дабрацца проста немагчыма! Устанавіўшы, што С.Кеўлішвілі сапраўды груба парушыў тэхналагічную дысцыпліну, ён далей кваліфікуе: «Аднак гэтае парушэнне тэхналагічнага працэсу пры ціску ў нафтапрадуктаправодзе 58 кгс/см2 (атмасфер. — **В. Ч.**) не мае прычыннай сувязі з разрывам трубаправода, паколькі нафтапрадуктаправод разлічаны на рабочы ціск 62 кгс/см2». Маўляў, калі б труба была цэлая, то пры ціску, меншым за рабочы, яна не парвалася б. Таму, як і трэба чакаць, у дзеяннях С.Кеўлішвілі састаў злачынства адсутнічае і справу трэба спыніць.

З-за адсутнасці газетнага месца не будзем тлумачыць юрысту-прыродаахоўніку, што яго тлумачэнне не мае пад сабой практычна ніякай базы. Раім лепш звярнуцца да ўсё таго ж прафесіянальна сумленнага загаду, выдадзенага ў горадзе Самары, дзе сказана, што падначаленыя В.Гаеўскага «своечасова не выявілі перавышэння ціску для дадзенага рэжыму перапампоўвання». А ў такім разе маглі лопнуць і дзесяць швоў на трубе, а не толькі адно.

Лепш зробім кароткую прамежкавую выснову: у Гомелі чамусьці з'явілася нямала «адвакатаў» тых, хто наносіць вялікую шкоду нашай беларускай прыродзе і людзям таксама. Вельмі паважаем «каралёў нафты і паліва» з Расіі? На чым грунтуецца гэтая павага?

### ГАЕЎСКІ ПРЭТЭНДУЕ НА ОРДЭН?

З чэрвеня па снежань 1995 года цягнуўся судовы «карагод» вакол разлітага дызпаліва. Паступова вочы начальніка Мазырскага ўпраўлення В.Гаеўскага (як чытачы памятаюць) з «квадратных» сталі зусім нармальнымі і нават вясёлымі. Тут у многім спрацаваў прынцып: смеласць гарады бярэ. Гэта ж не хто іншы, як абласны гаспадарчы суд запісаў у адным са сваіх вызначэнняў: « Згодна з контрразлікам, зробленым адказчыкам, памер страт складае 62,408 мільёна рублёў, а паколькі адказчык зрасходаваў на ліквідацыю вынікаў аварыі больш як 800 мільёнаў рублёў, на яго думку, падстаў для задавальнення патрабаванняў істца няма».

Ну што ж, значыць, суверэнная Беларусь яшчэ павінна заплаціць парушальніку заканадаўства за яго «дабрадзейства» з улікам інфляцыі больш як мільярд. А можа, В.Гаеўскі пашкадуе нас і згодзіцца... проста на ордэн ці наогул на медаль?

Між тым, Гаеўскі і да яго падобныя былі і з'яўляюцца сёння грамадзянамі Беларусі. Проста, працуючы раней на былых саюзных нафтавых і іншых магістралях, цяпер яны аўтаматычна перайшлі на службу ў расійскія кампаніі і прадпрыемствы. Зарабляюць нядрэнна, і ў расійскіх рублях (зразумела, з салідным курсам пераводу іх у беларускія «зайцы»). Але дзе яны думаюць у будучым жыць? На загаджанай зямлі «роднай» Беларусі ці на цёплых Канарах, дзе салярку тонамі разліваць ніхто не дазволіць?

Зрэшты, адкінем рыторыку і задумаемся над урокам. Ён жа — у тым, што і прыродаахоўным, і асабліва праваахоўным органам рэспублікі падобных «нафтавікоў» трэба браць у вожыкавыя рукавіцы. На тэрыторыі толькі Гомельскай вобласці пракладзена прыкладна паўтары тысячы кіламетраў магістральных трубаправодаў рознага прызначэння. Многія «ніткі» існуюць ужо тры дзесяткі гадоў, трубы іх зношаныя — і як яны «фантануюць», мы ўжо бачылі. Ні былы Саюз, ні цяперашняя Расія замену гнілых участкаў не праводзілі і, відаць, праводзіць пакуль не збіраюцца. Адны ад нафты маюць на Захадзе каласальныя прыбыткі, а іншыя, зямлю якіх для трубаправодаў «як бы арандуюць», павінны разграбаць твань балота з «чорным золатам» уперамешку.

Хто гэтыя іншыя, відаць, няма патрэбы тлумачыць. Колькі ж можна адчуваць сябе «іншымі» на сваёй роднай зямлі, баючыся біць шкоднікаў па руках рублём і законам?

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# ДАЧНІКІ ЗА КАЛЮЧЫМ ДРОТАМ

*На пытанні «Звязды» адказвае начальнік спецінспекцыі Мінпрыроды Анатоль МЯТЛІЦКІ*

**— Анатоль Уладзіміравіч, можа, у самым пачатку размовы «адштурхнёмся» ад Закона з цудоўнай назвай: «Аб праве ўласнасці на зямлю»?**

— Наконт назвы не запярэчыш. Аднак па сутнасці, на маю думку, ён, як, напрыклад, і асноўны Закон — «Аб зямлі», наогул усё зямельнае заканадаўства, мае патрэбу ў сур'ёзнай дапрацоўцы. Менавіта дзеля таго, каб нейкім чынам пашырыць магчымасці рацыянальнага і эфектыўнага выкарыстання ўсіх зямельных рэсурсаў.

Каб даць больш шырокую дарогу фермерскай гаспадарцы, неабходна прывесці ў дзеянне эканамічныя рычагі. Бо зразумела, што фермер, атрымаўшы зямлю, уласнымі сіламі, скажам, рыдлёўкай не зможа апрацаваць нават пяці гектараў. Проста загубіць зямлю. Каму карысць?

Калі ўжо чалавек зямлю ўзяў, то і павінен рацыянальна на ёй гаспадарыць, выконваць патрабаванні экалагічнага заканадаўства. Ён не мае права на сваіх гектарах выкапаць, напрыклад, які-небудзь кар'ер, самавольна здабываць торф і г.д. На сваёй зямлі можна рабіць толькі тое, што дазволена законам.

**— Наконт законнасці: ёсць нямала прыкладаў, калі хто-ніхто, не атрымаўшы зямлю па закону, захоплівае «свой кавалак» самавольна.**

— Статыстыка паказвае, што амаль палова дачнікаў, садаводаў-аматараў у нас якраз і захварэла на гэтую «хваробу» — захопліваюць «дадатковыя» ўчасткі. Лезуць куды толькі можна — у лес, у водаахоўныя зоны малых рэк, на пашу. А потым яшчэ патрабуюць узаконіць іх «набыткі».

Што робіцца, скажам, у славутым Гарадзішчы пад Мінскам, дзе дастаткова дач «ветэранаў» былога ЦК і наменклатуры? Як яны сябе паводзяць? Заняліся знішчэннем прыроды, якая яшчэ там засталася. Але ж зусім не наменклатурная «публіка» з Мінскага трактарнага завода паводзіць сябе на сваіх участках не лепш.

Калі мы сёння сутыкаемся з афармленнем матэрыялаў аб прыватызацыі зямельных участкаў (практычна ў кожным раёне), то органы прыродааховы займаюць такую пазіцыю: паважаныя грамадзяне, мы не можам і не будзем узаконьваць гэтыя вашы «прыразанні» і «набыткі», усе парушэнні, якія вы дапусцілі ў працэсе эксплуатацыі сваіх участкаў. Спачатку ліквідуйце іх і толькі потым патрабуйце: маўляў, нам трэба прырэзаць яшчэ зямлі. А вось такога парадку — у сэнсе захавання патрабаванняў прыродаахоўнага заканадаўства — у рэспубліцы пакуль і не назіраецца. Такі стан сённяшняга нашага грамадства.

Даўно ўжо проста напрошваюцца змены ў Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэннях. Мінпрыроды свае прапановы на гэты конт ужо ўнесла ў Кабінет Міністраў, і апошні мае намер увайсці ў Вярхоўны Савет з заканадаўчай ініцыятывай.

**— Тое, што ў многіх гараць вочы на «бясплатны» кавалак зямлі, асабліва пашы, гэта зразумела. А што ў гэтым плане робіцца ў лесе?**

— Дык лес таксама расце на зямлі. Захопамі лясных плошчаў асабліва «вызначаюцца» садаводчыя таварыствы. Працвітае, калі можна так сказаць, «дробнае драпежніцтва». Захацелася нейкаму «садаводу-захопніку» пасадзіць, напрыклад, «дадатковую» бульбу — ён лезе ў лес. Думае: дай жа я здыму кару з дзесятка дрэў, а потым іх спілую — вось і будзе ладны кавалак пад агарод. А інспектарам буду тлумачыць: гэтыя ж дрэвы ўжо ўсохлі, і калі я іх спілаваў, то зрабіў добрую справу.

Што зробіш, калі такія драпежнікі сёння закона не баяцца? Адносны парадак можна было б навесці і тут, калі б шматлікая армія мясцовых работнікаў лясной аховы Мінлясгаса ў поўнай меры выкарыстоўвала свае правы па дзяржаўнаму кантролю за захаванасцю лесу. На жаль, актыўнай работы леснікоў нешта не відаць.

**— Гэта, як кажуць, лёгка сказаць. Думаю, што калі б сам надзеў форму з зялёнымі пятліцамі, то што мог бы зрабіць такога «кіслага» таму ж «ліпаваму» садаводу-аматару, а на самай справе — шкодніку леса?**

— Практыка ўжо адпрацаваная. Вось галоўнае: такі факт, калі ён меў месца, павінен быць выяўлены, а парушальнік — абавязкова прыцягнуты да адказнасці, нават крымінальнай. Канешне, канкрэтнага шкодніка не заўсёды схопіш за руку, а таму трэба такія факты даводзіць да ведама праўлення садаводчых таварыстваў — няхай яны разам і адказваюць эканамічна за ўсе вынікі бязладдзя, што творыцца ў калектыве. Не выключана, што «кіруючыя таварышы» могуць гэтыя перасцярогі і праігнараваць. У нашых жа прыродаахоўных службаў ёсць поўнае права перадаваць такія матэрыялы ў пракуратуру і суды, спаганяць з вінаватых грашовыя штрафы.

Калі ж адпусціць лейцы, то да чаго можам дайсці? Вось некалькі прыкладаў.

У час леташняй праверкі Шчучынскага лясгаса, што ў Гродзенскай вобласці, сярод іншых малайцоў-мудрацоў выявілі і такога «мічурынца», які дадумаўся наогул да несусветнага. Сасонкі 25-гадовага ўзросту ён зрэзаў па свайму росту і начапіў на іх дрот — абгарадзіў свой участак. Гэта садавод-аматар? Не, гэта свядомы вораг лесу і прыроды.

Такім вось чынам «мічурынец» павялічыў участак на 6 метраў «па фронту». А мясцовыя спецыялісты Мінлясгаса ўсё рабілі вялікія вочы: мы, маўляў, не бачылі і не здагадваліся.

А вось што прыдумаў у Маладзечанскім раёне адзін «інтэлектуал» — між іншым, сапраўды кандыдат навук. Самавольна захапіў участак лесу, абгарадзіў яго... калючым дротам і пабудаваў там гараж! На заўвагі суседзяў звычайна адказваў: я ў сябе гаспадар, а калі хто палезе са сваімі парадамі, дык я таму — у лыч! Сапраўды, «кандыдат» — толькі ў якую ўстанову?

Калі ж работнікі прыродаахоўных органаў прыцягнулі яго да адказнасці, то ён знайшоў «пераканаўчыя» довады: я, маўляў, заплаціў за свой участак грошы — і цяпер гэта ўсё маё! Спытаюся ў вас: будзем каменціраваць прыведзеныя прыклады?

**— Які ж тут можа быць каментарый? Гэта, па сутнасці, неандэртальцы, а ўяўляюць сябе сучаснымі гаспадарамі. Аднак інфармацыя для роздуму маецца і тут.**

**Мы, з аднаго боку, ужо маем закон, скажам так, аб уладанні зямлёй. А ці гатовы многія з нас сапраўды з ёю «важдацца»? Ці не здарыцца, Анатоль Уладзіміравіч, так, што будуць развязаны антыкультурныя, далёка не гаспадарчыя, драпежніцкія інстынкты?**

— Канешне, у маніlаўшчыну, нейкі звышальтруізм тут упадаць не след. Аднак я думаю, што чалавек, які атрымаў зямлю і сапраўды любіць гэтую працу, зробіць усё, каб ашчадна і рацыянальна на ёй гаспадарыць, павялічваць яе ўрадлівасць. З захаваннем, зразумела, нормаў заканадаўства і экалагічных нарматываў.

Знойдуцца, не без гэтага, і такія, хто спавядае «прынцып» вядомага Людовіка XV: пасля мяне — хоць патоп. Пастараюцца за год-два з даручанай зямлі выціснуць усе сокі, а потым на ўсё напляваць і збегчы. Аднак на такіх «людовікаў» і сёння ёсць абцугі ў выглядзе заканадаўства. А ў будучым яно стане яшчэ больш дасканалым.

Кожны абавязаны памятаць, што зямлю зможа атрымаць толькі той, хто сапраўды яе любіць і дакажа сваё права і ўменне працаваць на ёй. Закончу тым, што скажу: «падарункі» ў гэтым плане сапраўдным гаспадаром яшчэ нікога не зрабілі.

## ГАСПАДАРЫ НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ

***Якімі былі вынікі мінулага «экалагічнага года» для Беларусі? Гэтае шырокае пытанне было разгледжана на пасяджэнні пашыранай калегіі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.***

***Па многіх прыродаахоўных «пазіцыях» маюцца даволі пазітыўныя вынікі. Летась, напрыклад, працягвалася зніжэнне выкідаў шкодных рэчываў у атмасферу, што ў асноўным звязана са скарачэннем вытворчасці. Скарачаецца спажыванне свежай вады. Адпаведна змяншаюцца і аб'ёмы скідвання сцёкавых вод.***

***Працягваецца работа па рэалізацыі Закона «Аб праве ўласнасці на зямлю» і ўказанняў Прэзідэнта і ўрада аб забеспячэнні грамадзян зямельнымі ўчасткамі, а таксама — аб правядзенні зямельнай рэформы.***

***Разам з тым, як і павінна быць у час сур'ёзнай дзелавой размовы, на пасяджэнні калегіі былі ўзняты і абмеркаваны тыя негатыўныя праблемы, якія перашкаджаюць усталяванню экалагічна здаровага існавання прыроды і жыцця грамадства.***

***Сапраўды, ці ўсе ў нас ведаюць, як правільна абыходзіцца з прыродай, з толкам выкарыстоўваць прыродныя рэсурсы, выконваць патрабаванні прыродаахоўнага заканадаўства? Гэтую тэму больш шырока і асвятляюць змешчаныя на газетнай старонцы матэрыялы.***



Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

*Мікалай КАРАТКОЎ,*
*начальнік аддзела Мінпрыроды:*

## «Арабы беларускі торф «паважаюць». А мы самі?»

**Чым здаўна з'яўляўся торф для беларуса — напамінаць не трэба. І сёння ён — наша нацыянальнае багацце, крыніца валютных паступленняў.**

Цяперашнія яго запасы ў Беларусі, якія можна ўзяць без непапраўнага ўрону для прыроды і эканомікі сельскай гаспадаркі, складаюць прыкладна 320 мільёнаў тон. Хтосьці, напэўна, падумае: як многа!

А ці так гэта? Пры цяперашнім узроўні здабычы, хоць ён паступова і зніжаецца, гэтых запасаў хопіць толькі гадоў на 25—30. І ўсё! Вось чаму Дзяржаўная праграма па экалогіі прадпісвае: неабходна знізіць, іншы раз наогул спыніць здабычу торфу. Ва ўсякім разе, Мінпрыроды новых плошчаў для распрацовак нікому ўжо не дае.

Усё гэта і прымушае дэталёва разабрацца: на якія такія патрэбы мы выкарыстоўваем сёння такі каштоўны торф? Калі ў мінулыя часы яго ў большай частцы прымянялі ў сельскай гаспадарцы для павышэння ўрадлівасці палёў, то сённяшняя эканамічная сітуацыя прымушае прадпрыемствы па здабычы торфу прадаваць яго для патрэб ацяплення. Калгасы, можа, і хацелі б набыць тарфакрошку для кампостаў, але гэта з-за велізарнай цаны ім не па кішэні.

У апошнія тры гады, такім чынам, штогод крыху больш як 3 мільёны тон здабытага торфу ў рэспубліцы ідзе на мэты ацяплення. Асабліва каб задаволіць патрэбы ў цяпле сельскага насельніцтва, яго сацыяльна неабароненых слаёў, а таксама — сацыяльнай і камунальнай сфераў. Хто дасць, напрыклад, сціплай раённай бальніцы газ, вугаль ці тыя ж дровы? Ёй прасцей узяць тарфяны брыкет у райпаліве.

Значыць, палім печкі неўзнаўляемымі рэсурсамі прыроды, ці, кажучы вобразна, — доларамі.

Праўда, многія прадпрыемствы наладзіліся на торфе гэтыя долары зарабляць. Прадаюць яго ў Літву, Італію, Грэцыю. Ды што там! Нават у Саудаўскай Аравіі, на Саламонавых астравах (!) выкарыстоўваюць наш торф для павышэння ўрадлівасці глебы. Падкрэслю, аднак: выкарыстоўваюць не для спальвання, бо гэтага не вытрымае ніякая эканоміка.

А ў нас? Неяк нават на экране тэлевізара старшыня аднаго з калгасаў Брэсцкай вобласці хваліўся як вялікім дасягненнем: ён купіў машыну для вытворчасці кускавога торфу, і цяпер гаспадарка сама нарыхтоўвае брыкеты для камунальнага і бытавога ацяплення.

Між тым, па закону так рабіць нельга. Калгас карыстаецца пакуль менавіта дзяржаўнай зямлёй, якая дадзена яму ў пастаяннае карыстанне, — і гаспадарка абавязана берагчы гэтую зямлю, захоўваць яе ўрадлівасць. А тут кінуліся ў «рыначнасць», пачалі псаваць угоддзі ды спальваць бясцэнны торф.

Небяспечнасць згаданай тэндэнцыі вось яшчэ ў чым. Калі торф на паліва здабываюць торфабрыкетныя заводы і торфапрадпрыемствы сістэмы «Белпалівагазу» (якія ў асноўным для такіх мэтаў і ствараліся), то гэта ў чымсьці можна зразумець. А вось калі на такую здабычу перайшлі і падраздзяленні «Сельгасхіміі», якія павінны займацца вытворчасцю торфаўгнаенняў, то гэта ўжо трывожны званок.

Чаму ж не спрацоўвае падатковы механізм? Падатак жа за здабычу прыродных рэсурсаў ідзе не куды-небудзь, а ў мясцовы бюджэт. Няўжо райвыканком не можа ўстанавіць прыродакарыстальнікам (таму ж торфабрыкетнаму заводу ці калгасу) ліміты на здабычу торфу ў залежнасці ад патрэб раёна і сачыць, каб узровень здабычы не перавышаўся? Каб забяспечыць патрэбы ў цяпле ў сацыяльнай сферы — і толькі!

Што атрымліваецца на практыцы? А вось што. Напрыклад, вытворчае торфабрыкетнае аб'яднанне (ВТБА) «Сяргеевіцкае» з Пухавіцкага раёна здабывае мясцовы торф і па чыгунцы адпраўляе яго... у Маладзечанскі раён, на завод «Бярэзінскі». Апошні ж даўно выпрацаваў плошчы мясцовай сыравіны і працуе на прывазной. І як «працуе»! Брыкетуе пухавіцкі торф і прадае яго... у Літву! Чаго ж тады дарэмна стогнуць у Пухавіцкім райвыканкоме? Маўляў, вы, торфаздабытчыкі, зводзіце ў нас лясы, забіраеце пад распрацоўкі лесапітомнікі. Няўжо кіраўнікі раёна не ведаюць, што гэта ў іх руках — устанавіць патрэбнасці той жа сацыяльна-камунальнай сферы ў цяпле, сельскай гаспадаркі — ва ўгнаеннях і вызначыць дакладны аб'ём здабычы.

Калі ж дапускаеце звышлімітную здабычу, то няхай тое ж ВТБА «Сяргеевіцкае» за карыстанне прыроднымі рэсурсамі плаціць у мясцовы бюджэт, скажам, у 10 разоў больш. Тады аматары прадаваць торф за межы раёна абавязкова задумаюцца, бо хто купіць такую дарагую прадукцыю? Такія падыходы, падкрэслю, будуць адпавядаць і закону, і эканамічным рэаліям.

*Таццяна САБАЛЕЎСКАЯ,*
*вядучы спецыяліст:*

## «Хочаш зрабіць бізнес на грыбах? Атрымай ліцэнзію!»

**Раней збіранне грыбоў лічылася на Беларусі «ціхім паляваннем». Цяпер яно ў многім ператварылася ў грыбны бізнес. Ажыятаж вакол гэтага бізнесу асабліва ўзрос у апошнія гады, што, безумоўна, звязана з дрэнным эканамічным становішчам маламаёмных груп насельніцтва.**

Паводле даных Мінпрыроды, толькі ў Брэсцкай вобласці летась было нарыхтавана больш як 640 тон дзікарослых грыбоў. Прычым камерцыйныя структуры нарыхтавалі каля 500 тон, ці больш як 80 працэнтаў ад усіх аб'ёмаў.

Характэрна, што ў гэтых структур 95 працэнтаў ад іх «працэнтаў» (прабачце за каламбур) уцякае за мяжу. На звычайнай мове гэта азначае, што сабраныя беларускімі бабулькамі грыбы камерсанты айчынным «саўкам-спажыўцам» не рэалізуюць, а стараюцца збыць іх у Літве, Польшчы ці Германіі, каб атрымаць валюту і вялікі прыбытак.

Сама сітуацыя параджае пытанне: ці не здарыцца так, што Беларусь у недалёкім будучым застанецца наогул без грыбоў? Беларусь — без грыбоў? Гэта ўжо сур'ёзна.

Увесці грыбны ажыятаж і той жа бізнес у нармальнае рэчышча можа толькі такая форма арганізацыі дзейнасці буйных нарыхтоўшчыкаў, як ліцэнзаванне. Сам дакумент, які дазваляе гэты від дзейнасці «арганізаваным» калектывам і фірмам, называецца: «Ліцэнзія на прамысловую нарыхтоўку дзікарослай лекавай тэхнічнай сыравіны, дзікарослых раслін». У гэты пералік уваходзяць грыбы і ягады.

Што гэта такое — ліцэнзаванне? Не што іншае, як спосаб ажыццяўляць кантроль за выкарыстаннем прадуктаў расліннага свету, у прыватнасці на тэрыторыі нашай рэспублікі. У сістэме Мінпрыроды гэтай справай пачалі займацца з 1993 года. І да гэтага часу выдалі больш як 430 ліцэнзій, з іх каля 100 атрымалі камерцыйныя структуры.

Варта, відаць, напомніць, што ў Беларусі нарыхтоўкай грыбоў традыцыйна займаліся сельская кааператыўная прамысловасць і прадпрыемствы лясной гаспадаркі. Тым не менш, сёння канкураваць з «нетрадыцыйным» прыватным бізнесам яны не ў стане. Прайграюць камерсантам у тым, што не могуць адразу выплаціць зборшчыкам наяўныя грошы, забяспечыць своечасовы вываз прадукцыі і наогул зацікавіць таго, хто займаецца «ціхім паляваннем». Але ж гэта — абсалютна ўнутраныя праблемы спажывецкай кааперацыі. Каб канкураваць, трэба перабудоўвацца...

А пакуль камерцыйныя структуры забяспечваюць прыкладна тры чвэрці ўсіх нарыхтовак дзікарослых грыбоў у Беларусі. Асабліва вялікія аб'ёмы каштоўнага прадукту камерсанты збіраюць на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Яно і зразумела: можна хутчэй вывезці тавар для рэалізацыі ў замежжы.

Як паспрыяць таму, каб хоць колькі грыбкоў дасталося беларускаму спажыўцу? Сакрэту няма: Мінпрыроды ў першую чаргу забяспечвае ліцэнзіямі дзяржаўныя і кааператыўныя арганізацыі — лясгасы сістэмы Міністэрства лясной гаспадаркі, падраздзяленні Белкаапсаюза і інш. Потым ужо ліцэнзіі прадастаўляюцца і камерцыйным структурам.

Не трэба, аднак, думаць, што ліцэнзію можна атрымаць гэтак жа проста, як хлеб у магазіннай чарзе. Існуюць пэўныя патрабаванні, набор дакументаў, якія «саіскальнікі» ліцэнзіі абавязаны прадставіць у Мінпрыроды. Неабходна заручыцца і дагаворам з мясцовым лясгасам, атрымаць «дабро» ад райвыканкома. Не кожнаму, нягледзячы на яго «апетыты», апошнія прадаставяць такія магчымасці, бо думаюць пра інтарэсы мясцовых арганізацый.

Пра «апетыты» іншых камерцыйных структур сказана нездарма. Бо дзе прагнасць, там звычайна і падман. Аднак усе камбінацыі, так ці інакш, выводзяцца на чыстую ваду.

Таму і даю спецыяльную даведку: службы Мінпрыроды падтрымліваюць пастаянную сувязь з Дзяржаўным мытным камітэтам і маюць адтуль дакладную інфармацыю, колькі тон хто нарыхтаваў і колькі вывез за мяжу. У камбінатараў і ашуканцаў ліцэнзія адразу забіраецца. Апошнім, канешне, гэта будзе не вельмі прыемна, аднак паведамлю: камітэт выдаў загад, на падставе якога праз граніцу прапускаецца прадукцыя толькі тых арганізацый, якія маюць ліцэнзію на нарыхтоўку ад нашага міністэрства. Трохгадовы вопыт работы па ліцэнзаванню паказаў, што сітуацыю па нарыхтоўцы дароў прыроды можна трымаць у руках. Гэта — у інтарэсах дзяржавы і наогул простых, звычайных спажыўцоў. Каб грыбоў засталося тым, хто жыве сёння, і іх унукам, якія будуць жыць пасля.

***Матэрыялы старонкі падрыхтаваў Валянцін ЕЛІСЕЕЎ.***

ЭКАЛОГІЯ НА ВАЕННЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# «РАЗВОД» ПА-СЛАВЯНСКУ ЦІ ШЛЮБ ПА РАЗЛІКУ?

**Ці знойдзе Беларусь многія сотні мільёнаў долараў для кампенсацыі экалагічнага ўрону ў месцах ранейшай дыслакацыі расійскіх вайсковых часцей?**

## 1. Аб плюсавым балансе, дыпламатыі і дзіравым кашальку

**Размову пачнём з таго, што «прадаставім слова» цытатам з газет.**

**Старшыня Камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Пётр Краўчанка: «Адна з найбольш актуальных праблем — завяршэнне перамоў з Расіяй пра кампенсацыю за экалагічныя страты Беларусі. Паводле сціплых ацэнак, нам спатрэбіцца на гэтыя мэты каля 4 трыльёнаў рублёў, яны пойдуць у першую чаргу на рэкультывацыю забруджаных ядзерным палівам тэрыторый. Па сутнасці, мы атрымалі яшчэ адзін Чарнобыль, толькі ў мініяцюры».**

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка (на сустрэчы з групай кіраўнікоў расійскіх газет): «Мы падпішам сур'ёзныя заявы. Дагавор аб урэгуляванні нашых абавязацельстваў, але не даўгоў, таму што калі браць ваенныя базы, урон, імі нанесены, транзіт па тэрыторыі Беларусі, то атрымаецца каля мільярда долараў у год. Ну, няхай нават 800 мільёнаў долараў. Мы ж за энерганосьбіты Расіі павінны куды менш. Проста падлічыць, у чый бок складваецца плюсавы баланс.**

**Чаму я жорстка не стаўлю пытанне ўзаемаразлікаў? Гэта ўжо катэгорыя дыпламатычная».**

**Цяпер прывядзём адзін з аспектаў пагаднення па так званаму «нулявому варыянту»: за тое, што расійскі бок ліквідуе нашы запазычанасці, беларускі бок адмаўляецца ад кампенсацыі (апрача іншага) «за расходы, звязаныя з затратамі на экалагічнае абследаванне і рэкультывацыю месцаў дыслакацыі воінскіх фарміраванняў Міністэрства абароны Расіі».**

**Каменціраваць пэўнае несупадзенне, якое тут прагледжваецца, пакуль не будзем, бо адносна практычнага прымянення «нулявога варыянта» яшчэ дастаткова няяснасцей. Аднак заўважым: узаемаразлікі — матэрыя сапраўды тонкая і дыпламатычная, аднак ад гэтага зусім не перастае быць і катэгорыяй эканамічнай.**

**Нарэшце, апошняя цытата — выказванне супрацоўніка Інстытута Еўропы Расійскай акадэміі навук Аркадзя Мошэса: «Змянілася геапалітычная сітуацыя. Страціўшы цяпер Расія перспектывы палітычнага і асабліва ваенна-палітычнага збліжэння з Беларуссю, і рэальнасцю стане верагоднасць ізаляцыі Расіі ад Еўропы, аслабленне яе пазіцый у СНД. Таму, як уяўляецца, мэтазгодна было б прадэманстраваць Беларусі менавіта гэту зацікаўленасць Расіі, за якую можна заплаціць і пэўную эканамічную цану, не гаворачы ўжо пра фінансаванне ваеннага супрацоўніцтва».**

**Тут і выяўляецца, што нам прапануюць і куды нас цягнуць. Аднак калі гэта і выгадна Беларусі, то чаму б як след не патаргавацца, бо на карту ставіцца многае? Мы ж усяго толькі абмянялі «даўгі на даўгі». Ці, можа, быка на індыка? І цяпер разам з гэтым «індыком» будзем выцягваць пакінутую Беларусі ў спадчыну «ваенную» экалогію? Вось тут і ўступае ў свае правы жорсткая эканамічная катэгорыя.**

**НАША «ЖАДАННЕ»** быць бяспамятлівымі іншы раз проста здзіўляе. Няўжо цяжка зразумець, што той, хто не помніць жыццёвых урокаў, будзе яшчэ і двойчы, і тройчы, як кажуць, біты і падмануты.

Дзіўна, аднак ужо чуюцца галасы, што, маўляў, «нулявы варыянт» усё спіша — і экалагічныя праблемы ў месцах пакінутых ваенных баз можа адсунуць убок. Прабачце! Застаюцца ж яшчэ і дзеючыя базы стратэгічных сіл Расійскай Федэрацыі, у прыватнасці ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння, якія таксама прыйдзецца ў хуткім часе выводзіць.

Задумацца трэба і вось над чым: калі мы адмаўляемся ад кампенсацыі за экалагічны ўрон, то ці не з'явіцца «нулявы варыянт» нейкім сігналам, своеасаблівым карт-бланшам для некаторых расійскіх ваенных камандзіраў, што можна выводзіць што хочаш і як хочаш — і ніхто потым з цябе не спытае.

Між тым, часці РВСП — гэта значыць выкарыстанне такіх рэчываў, як самін, меланж і іншыя, — страшэнных па сіле ўздзеяння на ўсё жывое і нежывое. Вось чаму зноў трэба напамінаць: у гэтай справе патрэбен самы жорсткі кантроль — і экалагічны, і ўсякі іншы. Каб не стваралiся для нас, як у 1992—94 гадах, праблемы на роўным месцы, а ўсё рабілася цывілізавана.

Ці мы ўжо забыліся, як пакідаў сваю базу ў Пастаўскім раёне такі ж ракетны полк? Чыны Міністэрства ўнутраных спраў вельмі хваціка падпісалі тады ўсе дакументы, што давала дазвол на выезд часці, эколагаў з Мінпрыроды чамусьці не запрасілі. Што потым выявілі там амерыканскія эксперты? Цяжкую, мяккa кажучы, экалагічную карціну. Меліся «плямы» ад разлітых нафтапрадуктаў (дзякуй Богу, што не ад ракетнага паліва) глыбінёй 5 метраў. Зямля, узятая там «на пробу», гарэла, як сама нафта.

Так што наш цяжкі вопыт падказвае нам многае. Пра гэта і пагаворым.

**У САМЫ РАЗ УСПОМНІЦЬ АНЕКДОТ** часоў «эпохі развітога сацыялізму». У калгасе, які з кожным годам развальваўся ўсё больш і больш, з гэтай нагоды пастаянна праводзілі сходы — і ўсё заканчвалася звычайнай балбатнёй. Стары селянін пад заслону рэгулярна падагульняў: «Трэба ліць лумін». Калі ж дабіліся ў яго «расшыфроўкі», то ён растлумачыў: «Трэба ліць лумін (г. зн. алюміній), рабіць з яго самалёт — і ляцець з гэтай гаспадаркі куды падалей».

На якім самалёце і куды ляцець са сваіх абжытых месцаў жыхарам вёсак Дубна, Развідава, Усакіна Клічаўскага раёна? Каб падалей ад тэрыторыі былога авіяцыйнага палігона пад назвай «Дубна»? Прычына «заслугоўвае ўвагі» — зямля там літаральна нашпігавана бомбамі і снарадамі.

Супрацоўнік Нацыянальнага агенцтва па кантролю і інспекцыях Міністэрства абароны Беларусі палкоўнік Пётр Цюеў па-ваеннаму дакладны:

— Палігон займае 26 тысяч гектараў, з іх 2928 гектараў — мішэннае поле. Ён існаваў з 1946 года, прызначаўся для адпрацоўкі бомбакідання. Бомбы маглі пранікаць у балоцістую глебу на розную глыбіню і заставацца ў «дзеючым стане». Тое, што, як вы паведамілі, там сабралі, гэта толькі невялікая частка бомбаў, якія яшчэ не выбухнулі. Неправеранай засталася велізарная тэрыторыя.

Па старой інструкцыі, якая яшчэ дзейнічае ў нашых дзвюх краінах, неабходна поўнае абследаванне, выяўленне на тэрыторыі палігона выбухованебяспечных прадметаў і іх ліквідацыя. На чым і настойваў беларускі бок. А гэта для расійскіх ваенных і цяжка, і дорага — наогул непасільна. Спецыялісты Нацыянальнага агенцтва правялі папярэднія падлікі, ад якіх можна схапіцца за галаву: каб ачысціць гэтыя тысячы гектараў ад бомбаў і снарадаў толькі на адным палігоне, спатрэбяцца дзесяткі і нават сотні мільёнаў долараў! Як дзень ясна, што Беларусь гэтага ніколі «не пацягне», і смерць у балоце замацуецца назаўсёды.

Характэрная дэталь: у свой час камандуючы 46-й арміяй (цяпер расійскай) генерал-палкоўнік Сталяроў клятвенна абяцаў і ў жніўні 1994 года пісьмова гарантаваў размініраванне і падрыў боеприпасаў на гэтым палігоне. І, зразумелая справа, ашукаў.

Дарэчы, а пра што аўтар гэтых радкоў распавядаў палкоўніку П. Цюеву? Пра тое пісьмовае тлумачэнне, якое атрымаў ад грамадскага інспектара Бабруйскай гаррайінспекцыі па экалогіі, старшыні Бабруйскай гарадской арганізацыі Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль» Юрыя Позднікa. Сярод іншых фактаў ён прывёў і такі:

— У верасні 1994 года на тэрыторыі палігона працавала група сапёраў, каб ачысціць хоць нейкую плошчу і перадаць мясцовым гаспадаркам. Спроба закончылася няўдачай, хоць знайшлі і падарвалі нямала бомбаў. Мяне тады праінфармавалі: пасля тых сапёрных работ на тым жа месцы паўтора пусцілі бульдозер (смелыя людзі!) — і нажом выцягнулі толькі з верхняй часткі глебы каля 60 адзінак боепрыпасаў! Такая вось небяспечная сітуацыя. А ў гэтыя лясы, якія ваенныя цяпер не ахоўваюцца, летам па грыбы прыязджаюць сотні магілёўчан і бабруйчан.

Многія тут памятаюць, як ваенныя пакідалі палігон. Ацэнка дзеянняў камандавання часці кароткая і ёмкая, як выстрал: крадзеж і бязладдзе.

Зразумела, камерсантам — ваенным з «Дубна» далёка да таго ж былога першага намесніка камандуючага ВПС Заходняй групы войскаў генерал-маёра Мікалая Селіверстава, які ў пачатку 1990-х гадоў ухітрыўся нахапаць 20 тысяч дойчмарак хабару, украсці дзяржаўнага дабра на 64 тысячы марак і г. д., а цяпер асуджаны. Не дасягнулі яны і «ўзроўню» гандляроў у пагонах з беларускага горада Быхава, дзе ў час перадачы маёмасці расійскага ваеннага гарнізона некуды «зніклі» паўтара дзесятка «адзінак» дарагой тэхнікі.

І тым не менш... Проста няма сіл глядзець, што зрабілі «ад'язджаючыя» з жылымі дамамі, сталовай, клубам і іншымі будынкамі ваеннага гарадка. Садраныя з пабудоў будматэрыялы камандзіры і іх падначаленыя адвозілі ў штаб 46-й арміі ў Смаленск, бо штабныя генералы, фінансісты і гаспадарнікі, якія будавалі сабе дачы, праводзілі «стымулюючую» палітыку: не прывязецце — не атрымаеце вайсковага жалавання.

Па памяшканнях нібыта прайшоўся смерч. Няўжо нехта аддаў д'ябальскі загад ламаць усё, што магчыма, ломам і кувалдай на дробныя кавалкі? (Як «кантралявалі працэс» беларускія ваенныя чыны і будучыя цывільныя гаспадары гарадка — пра гэта асобная размова.)

З сумам задумваешся: мы пражылі разам дзесяткі і сотні гадоў, і калі воляй лёсу і палітыкаў апынуліся цяпер у розных дзяржавах, то няўжо трэба вынаходзіць нейкую дзікаватую формулу, скажам так, «разводу па-славянску», гэткага «абсалютна нулявога варыянта». Каб матэрыяльныя кашто́унасці абавязкова знішчыць — абы яны не дасталіся «ворагу».

Стаяць сёння такія абадраныя «помнікі» ў сотнях мясцін. У якую графу якога каштарыса запішам гэтыя матэрыяльныя страты, якія прыйдзецца ўзнаўляць ці то з мясцовага, ці то з дзяржаўнага бюджэту? Гэта не экалагічны ўрон, пра гэта ў «нулявым варыянце» не ўпамінаецца.

У што, аднак, выльецца ліквідацыя самога экалагічнага ўрону? Возьмем за прыклад расійскую вайсковую часць «Барсукі» (Крычаў-6), якая ў Магілёўскай вобласці «выходзіла» першай. Эколагаў туды запрасілі з вялікім спазненнем, але падлікі яны ўсё ж такі зрабілі. Вось што гаворыць старшыня Магілёўскага абласнога камітэта па экалогіі У. Шуцько:

— Калі гаварыць аб агульным уроне, які прычынены навакольнаму асяроддзю за ўвесь час знаходжання там вайсковай часці, то на 9 чэрвеня 1993 года гэтая сума складала 1 мільярд 671 мільён рублёў. Праіндэксаваўшы яе, атрымаем на сённяшні дзень дзесяткі мільярдаў.

Па ўсёй жа Беларусі налічваліся сотні вялікіх і малых ваенных «кропак». Хто ўхоча, можа заняцца множаннем...

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

***(Працяг будзе).***

ЭКАЛАГІЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

# СПАЧАТКУ — ЮНЫ НАТУРАЛІСТ, ПОТЫМ — ФЕРМЕР

**Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і Міністэрствам адукацыі і навукі падведзены вынікі выканання «Рэспубліканскай праграмы па адукацыі ў галіне навакольнага асяроддзя на 1991—1995 гады». Вельмі многа ў гэтым плане зрабілі і робяць у Рэспубліканскім экалагічным цэнтры навучэнцаў сістэмы Мінадукацыі.**

... Старшыня калгаса сядзеў, слухаў школьнікаў і не ведаў, абурацца яму ці хваліць гэтых юных «інспектараў»? Тыдня не прайшло, як яны пасяліліся непадалёк, у будынках былога піянерлагера, а ўжо ўбачылі і звалкі, і бруд на фермах, смецце і ламачча ў суседнім лесе. І цяпер, як сапраўдныя спецыялісты-экологі, даводзілі кіраўніку свае высновы і назіранні. Як бы там ні было, але тая сустрэча пайшла на карысць абодвум бакам.

Прачытаўшы прыведзены фрагмент, хтосьці можа спытаць: што гэта за такія незвычайныя дзеці? Адказам: увогуле ад іншых мінскіх школьнікаў яны адрозніваюцца толькі тым, што наведваюць Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў на вул. Макаёнка, 8. І, як бачым, атрымліваюць там не толькі тэарэтычныя веды па экалогіі і ахове прыроды, але і практычнае уменне дзейнічаць у карысным напрамку.

Гэтак жа дзейнічалі яны і тады, калі група навучэнцаў цэнтра ўдзельнічала ў ажыццяўленні праграмы (яе спецыяльная дзіцячага праекта) міжнароднай экалагічнай арганізацыі «Грынпіс». Методыка праекта была самая практычная: навучыць падлеткаў змагацца за чысціню навакольнага асяроддзя.

Юныя эколагі пайшлі тады ў рэйды і выявілі шмат «цікавага». У раёне Сцяпянкі, у прыватнасці, аглядзелі нямала звалак, утвораных вайсковымі часцямі, — усялякі друз, іржавы метал і іншыя «каштоўнасці». Выявілі і «таямнічыя» трубы, па якіх у Свіслач цяклі падазроныя сцёкі. Праз Мінгарвыканком змаглі знайсці і гаспадароў гэтых камунікацый (а раней жа ніхто не мог наладзіць падобнага следства). Засталіся фотаздымкі чатырохгадовай даўнасці, на якіх відаць, як школьнікі разам з ваеннымі расчышчаюць старыя завалы. (Бедная, слабая наша армія — не можа абысціся без дзіцячых рук!).



***Гэта не ідылія. Проста хлопчыкі з Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра навучэнцаў сапраўды любяць жывую прыроду.***

— У рамках дзеяння таго самага праекта арганізацыі «Грынпіс», — успамінае дырэктар цэнтра Лідзія Курганава, — трое нашых навучэнцаў ездзілі ў амерыканскі горад Сіэтл, дзе размяшчаўся тады міжнародны лагер школьнікаў — удзельнікаў экалагічнай акцыі. Адной нашай дзяўчынцы, пакольку яна стала пераможцай некалькіх міжнародных біялагічных алімпіяд, нават прапанавалі застацца вучыцца ў ЗША. Аднак яна выбрала сваю Беларусь, і цяпер вучыцца ўжо ў Белдзяржуніверсітэце.

А цяпер час паслухаць тлумачэнні Лідзіі Аляксандраўны аб прынцыпах дзейнасці гэтай не самай звычайнай установы.

Цэнтр — установа пазашкольная, дзе падлеткі займаюцца ў вольны ад школьных заняткаў час. Прыходзяць сюды і студэнты першых курсаў ВНУ, бо 17—18-гадовыя юнакі і дзяўчаты «раслі» ў цэнтры яшчэ з дашкольных гадоў. Пазашкольнае навучанне — гэта, па сутнасці, яшчэ адна адукацыя, яна дапаўняе веды, якія школьнік атрымлівае ў класе па батаніцы, заалогіі, біялогіі, у галіне аховы навакольнага асяроддзя.

Другі напрамак — развіццё ў дзяцей творчых здольнасцей. Заняткі ў разнастайных гуртках і лабараторыях абуджаюць у іх цікавасць да пэўнага віду, скажам, біялагічнай і іншых навук, сельскай ці лясной гаспадаркі. Часта здараецца, што які-небудзь хлопчык у школе лічыцца далёка не лепшым, а тут у яго раскрываецца яркі талент.

Завяршае, скажам так, працэс экалагічнага выхавання прафарыентацыя, калі навучэнцы (ва ўсякім разе, многія з іх) пачынаюць бачыць сваё будучае ў галінах сельскай і лясной гаспадаркі, біялогіі, медыцыне.

**Расказаць у адной публікацыі аб тым, чым займаюцца тут паўтары тысячы навучэнцаў, аб рабоце 150 гурткоў, майстэрань, лабараторый, зразумела, немагчыма. Паспрабуем больш дэталёва прыгледзецца да таго, як працуе такі гурток, як, напрыклад, «Юны фермер» — своеасаблівая школа для старшакласнікаў.**

Сумесна з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання, на базе Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта (БАТУ), тут распрацавана праграма, па якой школьнікі з розных месцаў рэспублікі праходзяць у базавых сельскіх школах і на раённых станцыях юнатаў перша́пачатковую падрыхтоўку па паляводству, плода- і агародніна́водству. Летам яны практыкуюцца і на вучэбнай базе БАТУ ў Баравой, у лабараторыях універсітэта.

Навуку школьнікі праходзяць сур'ёзную, а таму здаюць і экзамены, пасля чаго атрымліваюць пасведчанні, што прайшлі праграму «Школы юнага фермера» і пры дасягненні васемнаццацігадовага ўзросту могуць прэтэндаваць на стварэнне ўласнай фермерскай гаспадаркі.

Не дзіўна, што каля трэцяй часткі выпускнікоў цэнтра выбіраюць потым у «дарослых» навучальных установах сельскагаспадарчыя спецыяльнасці. Выбіраюць яны сваё месца ў жыцці свядома, бо ўсе плюсы і мінусы набытай прафесіі ведаюць знутры. Нездарма ж супрацоўнікі і выкладчыкі цэнтра возяць сваіх выхаванцаў у фермерскія гаспадаркі, напрыклад, да вядомага ў Мінскім раёне фермера Красоўскага.

У будучых спецыялістаў ёсць з чым і параўноўваць, бо яны бачылі, як жывуць і працуюць на зямлі сельскія гаспадары ў суседняй Польшчы, на Беласточчыне. Пра культуру земляробства, тэхналогіі, ураджаі, перапрацоўку прадукцыі — пра ўсё гэта навучэнцы цэнтра даведаліся, як кажуць, з першых вуснаў. Цікава (таму што ўжо зусім новае!) ім было і тое, як там вядзецца спецыяльная падрыхтоўка дзяўчат: як стаць сапраўднай фермеркай, што павінна ўмець будучая жонка фермера?

Хто стане мужам, хто калі пойдзе замуж — такое пытанне перад сённяшнімі вучнямі, зразумела, пакуль не ўзнікае. Да таго часу яшчэ шмат вады сплыве. Затое можна сказаць цвёрда: маладыя людзі з такой спецыяльнай падрыхтоўкай у рынкавым моры ў будучым не прападуць. Бо яны з маладых гадоў ужо ведаюць цану хлеба, ведаюць, як сябе пракарміць.

**Васіль ШАРПІЛКІН.**

# СТРАЛЯЕМ ЛАСЁЎ І ДЗІКОЎ.

## З чым застанёмся?

**Чалавек з ружжом у нас сёння шматлічны і пладавіты. Нямала бадзяецца людзей са стрэльбай і ў лесе. Чаго ж здзіўляцца, што сітуацыя з аховай жывёльнага свету склалася цяпер даволі напружаная.**

Тэндэнцыя да зніжэння колькасці паляўніча-прамысловых відаў дзікіх жывёл, якая намецілася ў апошнія тры гады, не толькі захоўваецца, але і ўзмацняецца. Так, пагалоўе лася ў параўнанні з 1991 годам зменшылася на 47 працэнтаў, кабана — на 41, бабра — на 23, аленя — на 7 працэнтаў. Рэзка знізілася колькасць рысі і барсука. Рысь наогул знаходзіцца ўжо на мяжы знікнення.

Прычыны такога становішча шматлікія, аднак перш за ўсё гэта вынік шырокамаштабнага браканьерства, якое параджаецца ўсёдазволенасцю. Да таго ж і цяперашняя сістэма аховы паляўнічых угоддзяў не забяспечвае эфектыўнай аховы паляўнічай фауны. У калектывах Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў, за якімі замацавана амаль 80 працэнтаў адкрытых для палявання ўгоддзяў, на аднаго егера прыпадае ў сярэднім больш як 45 тысяч гектараў угоддзяў. Не забяспечваецца ахова фауны і ў паляўнічых гаспадарках лясгасаў.

У выніку ўсяго гэтага мы і маем тое, што маем. А больш дакладна — хутка ў лясах можам і нічога не мець. Да такой думкі падводзяць шматлікія прыклады.

Як вядома, паляўнічы сезон на дзікіх капытных жывёл завяршыўся 31 снежня мінулага года. Завяршыўся для сапраўдных паляўнічых, але не для браканьераў. Таму працягваецца «паляванне» і на іх. Спецыялістамі прыродаахоўных службаў разам з работнікамі міліцыі і лясной аховы толькі за паўтара месяца гэтага года праведзена 676 рэйдаў-праверак захавання правілаў палявання і аховы жывёл. У ходзе іх складзены 791 пратакол. Накладзена штрафаў на суму больш як 45 мільёнаў рублёў і больш чым на 12 мільёнаў спагнана за нанесены прыродзе ўрон. У браканьераў канфіскаваны 82 адзінкі агнястрэльнай зброі.

Ноччу з 8 на 9 лютага ў Чэрвеньскім раёне ўдзельнікамі рэйда затрымана група браканьераў, якія застрэлілі дзіка. Імі аказаліся мясцовыя жыхары Уладзімір Яўсейчык, Уладзімір Мануйлік, Аляксандр Харытановіч, Аляксандр Хмялеўскі. У затрыманых канфіскавана 5 адзінак агнястрэльнай зброі, 2 прыборы начнога бачання і акумулятары да іх, 2 патранташы з патронамі на буйнога звера і г.д. Акрамя таго, у час вобыску дома (з санкцыі пракурора) у затрыманых выяўлена мяса яшчэ аднаго дзіка і рогі нядаўна забітага лася. Супраць браканьераў узбуджана крымінальная справа.

Жорсткая барацьба вядзецца і з «рыбнымі» браканьерамі. Летась інспектарамі рыбааховы выяўлена звыш 12 тысяч парушэнняў па рыбаахове і 784 — па санахове. Затрымана амаль 13 тысяч парушальнікаў, з якіх 11.867 аштрафаваны на агульную суму больш як 88 мільёнаў рублёў. У парушальнікаў канфіскавана каля 5 тон незаконна вылаўленай рыбы, якая рэалізавана праз гандлёвую сетку. Акрамя таго, парушальнікам прад'яўлена 679 іскаў па таксах на суму 90 мільёнаў рублёў. У сярэднім кожным інспектарам рыбааховы ў 1995 годзе па раздзелу рыбааховы выяўлена 79,2 парушэння. Па найбольш грубых парушэннях рыбаахоўнага заканадаўства ўзбуджана 7 крымінальных спраў на 17 чалавек.

Неабходна адзначыць, што павялічылася колькасць парушэнняў, звязаных з прымяненнем электралоўных установак саматужнай вытворчасці. Па раздзелу санітарна-рыбагаспадарчага нагляду праверaны 1683 прамысловыя, сельскагаспадарчыя і камунальныя прадпрыемствы. 534 кіраўнікі прадпрыемстваў, якія дапусцілі забруджванні, аштрафаваны на агульную суму амаль у 90 мільёнаў рублёў.

**Аляксандр МАЦЯСОВІЧ,**
**начальнік упраўлення інфармацыі Мінпрыроды.**

# У АГАРОДЗЕ БУЗІНА, А ДЗЯДЗЬКІ — У ПАГОНАХ

## Чаму нервуюцца палкоўнікі і генералы, калі іх абвінавачваюць у нанясенні ўрону прыроднаму асяроддзю

**У апошнім спецвыпуску «Экалогія—чалавек» (№ 4) за мінулы год ад 28 лістапада ў «Звяздзе» была змешчана крытычная публікацыя пад загалоўкам «Яд — замежны, атрута — свая». У ёй ішла размова пра недахопы ў справе утылізацыі і захоўвання шкодных адходаў вытворчасці ў нашай рэспубліцы. Было, у прыватнасці, адзначана, што «самымі небяспечнымі па класіфікацыі прызнаны адходы гальванічнай вытворчасці, якія катэгарычна забараняецца вывозіць на звалкі... Барысаўская вайсковая часць № 28163 зліла ў гарадскую каналізацыю 155 (!) тон такіх адходаў. Храбрыя, аднак, у нас генералы, нічога не баяцца».**

Але публікацыі ў газеце яны чамусьці спужаліся, і камандзір вайсковай часці 28163 А. Марчэўскі прыслаў у рэдакцыю «суровае» пісьмо. У ім ён спачатку пахваліў даручаную яму баявую «адзінку», паколькі ў часці «распрацавана і дзейнічае цэласная сістэма прыродаахоўных мерапрыемстваў, спланаваны і пастаянна праводзяцца работы па ўдасканаленню тэхналагічных працэсаў, іншыя мерапрыемствы, накіраваныя на аздараўленне экалагічнай абстаноўкі». Дадаў ён нямала і іншых узнёсласцей.

Падмацаваў А. Марчэўскі сваё пісьмо даведкай, якую падпісаў начальнік Барысаўскага ўпраўлення водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Н. Кляшчэўнік і ў якой гаворыцца, што «за перыяд са студзеня 1994-га і па снежань 1995 года скідванне сцёкавых вод у гарадскую каналізацыю рабілася без перавышэння гранічна дапушчальных канцэнтрацый».

Падмацоўваць жа рэляцыю ў газету камандзіру часці неабходна было абавязкова, бо напісана яна была, па сутнасці, дзеля аднаго толькі патрабавання: «У сувязі з апублікаванай у Вашай газеце лжывай інфармацыяй аб выкідах у гарадскую каналізацыю «гальванічных ядаў» вайсковай часцю 28163 прапаную змясціць... абвяржэнне».

Праўда, сваю прэтэнзію А. Марчэўскі «падмацаваў» і па тэлефоне. На жаль, той яго маналог выкласці на паперы немагчыма, бо вельмі занадта было ў ім, скажам так, «армейска-ідыяматычнай», ненарматыўнай лексікі. Асабліва дасталося спецыялістам Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, якія прадаставілі газеце ўсю змешчаную інфармацыю.

Між тым, работнікі Мінпрыроды ніякіх лічбаў ад сябе не выдумлялі. Іх «намалявалі»... самі вайскоўцы! А таму ўся гэта сітуацыя і нагадвае вядомае становішча, якое вызначаецца не менш вядомай прымаўкай. Яна, крыху «асучасненая» і вынесена ў загаловак публікацыі.

Возьмем, напрыклад, «Справаздачу аб утварэнні, выкарыстанні і выдаленні адходаў вытворчасці за 1994 год», падпісаную асабіста А. Марчэўскім і накіраваную, па палажэнню, у Беларускі навукова-даследчы цэнтр «Экалогія» Мінпрыроды. Прычым на бланку справаздачы ўказана, што гэта не простая паперына, а «Дзяржаўная статыстычная справаздачнасць». І вось у справаздачы вайскоўцаў, выкананай імі самімі, чорным па беламу запісана, што ў 1994 годзе ў часці ўтварылася 155 тон адходаў электралітаў гальванікі. А далей — ужо незразумелае: сцвярджаецца, што яны «вадкія, нетаксічныя» і тут жа ўказваецца, што адходы маюць 3 клас небяспечнасці па таксічнасці. Што за красворд?

Спецыяліст Мінпрыроды Т. Пракаповіч падкрэслівае:

— Ужо цяпер можна сцвярджаць: у гэтым дакуменце, які завераны камандаваннем часці і мае пісьмовае суправаджэнне, афіцыйна прадстаўлена лічба ў 155 тон адходаў гальванікі. Указваецца і пра далейшую іх нейтралізацыю, і пра скідванне ў каналізацыю. Так што гэты аб'ём у колькасці 155 тон адходаў фігуруе потым усюды.

Навуковы супрацоўнік цэнтра «Экалогія» Н. Кічаева дае такую інфармацыю:

— Уся падобная справаздачнасць паступае спачатку да нас у цэнтр, а потым мы рассылаем яе ў Міністэрства прыродных рэсурсаў, а таксама ў іншыя арганізацыі і ведамствы рэспублікі.

Што атрымліваецца? Спачатку вайскоўцы лічаць, што скідваюць у каналізацыю ледзь не найчысцейшую «вадзічку», а потым упісваюць яе ў афіцыйныя паперы ў якасці адходаў гальванічнай вытворчасці. І гэтыя дзесяткі тон потым з году ў год фігуруюць у дзяржаўнай статсправаздачнасці. Каго яны гэтым уводзяць у зман: саміх сябе, дзяржаву? Каму наогул патрэбна такая «справаздачнасць»?

Заўважым і такую акалічнасць, на якую звярнулі нашу ўвагу ў Мінскім абласным камітэце па экалогіі: дазвол на захаванне ці вываз гэтага віду адходаў па вайсковай часці № 28163 у дакументах камітэта не фігуруе. Дазвол жа на захаванне ці складзіраванне разнастайных іншых відаў адходаў на 1994 год быў выдадзены.

Начальнік аддзела абласнога камітэта М. Асмыковіч заўважыў:

— Па прадстаўленых дакументах відаць, што ў 1994 годзе ў вайсковай часці за дазволеныя межы па адходах не выйшлі. Канешне, пры пэўных сумненнях можна гэтыя даныя і праверыць. Аднак лепш было б паглядзець, ці быў у вайскоўцаў дазвол на захаванне і вываз адходаў у 1995 годзе.

І што выявілася? Аказваецца, дазволу на захаванне адходаў на 1995 год гэтая вайсковая часць у Мінскім абласным камітэце па экалогіі... не атрымлівала. Барысаўская ж райінспекцыя па экалогіі такога дазволу ім даць не магла, бо яна можа зрабіць гэта толькі ў выпадку, калі справа ідзе аб цвёрдых бытавых адходах аб'ёмам да 100 тон ці невялікай колькасці іншых нетаксічных адходаў.

Як жа так? Цэлы год у Барысаве, як аказалася, «утваралі» таксічныя адходы, не маючы ніякага на гэта дазволу? Спрытна! Можа, там спадзяюцца «праскочыць» і сёлета? Але ж тады не мае ніякага сэнсу станавіцца, скажам так, у позу і запрашаць кагосьці «да бар'ера».

Што тут скажаш? Ваенныя людзі да крытыкі пакуль прывыкаюць з цяжкасцю. Таму падагульнім: «дзядзькам» у Кіеве (па прымаўцы) хапае і сваіх спраў. Але нам жа навошта гэтая самая «бузіна» ў дзяржаўных дакументах?

Калі ж беларускім «дзядзькам» у пагонах з іх узроўнем статыстычнай справаздачнасці выгадней «гаспадарыць» менавіта такім чынам, то гэта зусім не азначае, што астатнія павінны прымаць падобныя паперы, як грамату ад Госпада Бога, узяўшы пад казырок.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

КРЫТЫЧНЫМ РАДКОМ

# ПА РАЦЭ ПЛЫВЕ «ДАБРО»...

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Звярнуцца да Вас нас прымусіла безвыходнасць.

Жывём мы ў Дзяржынску, у блізкім суседстве з рачулкай пад назвай Няцечка. Здаецца іншы раз, што яна і сапраўды не цячэ, але ж усё роўна — рэчка. Затое вясной яна раве ды бушуе.

Гадоў ужо з дваццаць не было снежных, марозных зім. А як сёлета нам рыхтавацца і куды ратавацца? Усе гэтыя «разумныя» інжынеры і архітэктары, відаць, вырашылі, што калі Гасподзь Бог некалькі адмяніў снежныя зімы, то можна Няцечку загнаць у трубы, дыяметр якіх меншы, чым задняе кола ў трактара. У 1982—83 гадах яны зрабілі на рэчцы Няцечцы ў раёне гарадскога стадыёна Дзяржынска два пераходы, паклаўшы ў рэчышча па дзве трубы.

А ўжо вясной 1985 года, які быў хоць і маласнежны, затое ў лютым трохі марозны, здарылася вялікае ліха. Лёд, які ўтварыўся на рэчцы, імгненна закупорыў тыя трубы-вадаводы, і мы са страхам убачылі, як катастрафічна хутка стаў нарастаць узровень вады — і яна заліла ўсё наваколле да гэтых самых плацін з трубамі.

Званілі тады ў тагачасны райком партыі, у гарвыканком. Па званку прыбеглі спалоханыя старшыня гарвыканкома В. Салыга і яго намеснік М. Сакалоўскі. Потым прыгналі два трактары «Беларусь» з каўшамі-чарпакамі, каб яны вычэрпвалі тыя льдзіны. Кіпучая «бітва» з паводкай працягвалася да вечара. А як сонца села, то і паводка спынілася, бо снегу ў тым годзе амаль што і не было.

Пасля паводкі і перажытага жаху мы хадзілі да В. Салыгі, і ён нам паабяцаў, што вось дабудуюць стадыён — і ўбяруць тыя трубы. Але ўсё гэта былі абяцанкі-цацанкі.

А потым, як вядома, і Саюз развалiўся — той стадыён не сталі і дабудоўваць.

...Сёлета ўсюды снегу навалiла страшэнна многа. Намнога больш, чым у ранейшыя гады, калі вясною Няцечка раўла і шумела тры-чатыры дні, несучы талую ваду ва Усу. Лёду таксама шмат — будзе чым закупорваць тыя трубы, якія за адзінаццаць гадоў напалову занясло пяском.

Пішам з надзеяй, што, можа, прачытаюць гэтыя радкі ў Вярхоўным Савеце і Кабінеце Міністраў (заснавальніках газеты) і задумаюцца: а што ж гэта за ўлада ў нашым Дзяржынску, чым яна думае і што робіць, з-за чаго такім, як я, трэба абавязкова пісаць у газету?

Бо дагэтуль у нас сядзяць усё тыя ж В. Салыга і М. Сакалоўскі, кіруюць раёнам і горадам. Маё пісьмо — аб тым, што хвалюе не адну мяне, бо вакол мяне жывуць такія ж людзі, і яны ўжо страцілі надзею знайсці дзе-небудзь хоць якое выйсце. Ад нашых жа мясцовых уладаў мы не чакаем нічога добрага...

Шкада, што вы, супрацоўнікі рэдакцыі, не пабачыце, як у час разліву вады па нашых агародах пацячэ ў Няцечку «новая рэчка» з фекаліямі са школы № 3. Раней яна цякла кожны раз па вясне, калі заканчваўся навучальны год. А ў апошнія два гады яна цячэ пастаянна. Летась у маі я двойчы была ў таго ж В. Салыгі. Ён абяцаў, што парадак навядуць. А «рамантаваць» камунгасаўцы прыехалі толькі 3 лістапада! Выкапалі яму і зніклі на месяц. Прыехалі 5 снежня, зноў пакапалі 3 дні — і паехалі. Потым з'явіліся перад Новым годам, калі зямля замерзла як камень, — дзяўблі і яе, і асфальт, ламалі тэхніку. Палажылі трубы да рэчкі і зноў зніклі. А фекаліі як цяклі ў Няцечку, так і цякуць.

Летась у маі я хадзіла і да начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва, дэпутата Я. Кунцэвіча. Ён прыйшоў з намеснікам загадчыка экалагічнага аддзела выканкома Павойкам, нешта паглядзелі і пайшлі — як у ваду праваліліся.

За лета фекаліі залілі агарод і ў мяне, і ў суседкі, Абаліхінай Лідзіі Данілаўны. У мяне прапала дастаткова капусты, а ў суседкі дык вымакла палова агарода з бульбай. Ёй выплацілі «дапамогу» ў памеры 300 тысяч, а мне — 180 тысяч рублёў. Суседка толькі і купіла на гэтую «дапамогу» чатыры мяхі бульбы, хоць страціла куды больш.

Калі ў выканкоме і камунгасе збяруцца далей рамантаваць тую каналізацыю — нікому невядома. Можа, як казала мая бабуля, на «святыя нігды»? Ці калі рак на гары свісне?

Мне ўжо 57 гадоў, я пенсіянерка, інвалід, змагацца няма сіл. Мой муж ужо адмовіўся ваяваць з гэтай чыноўніцкай рацыю, кажа, што ў гэтым зачараваным коле дабіцца чаго-небудзь талковага немагчыма. Але я асабіста яшчэ крыху спадзяюся, што публікацыя ў вашай газеце і дапаможа зрабіць нейкія зрухі ў нашым ціхім балоце.

**А. ЯРАШ.**
**(Таксама і ад імя Л.Д. АБАЛІХІНАЙ.)**
*г. Дзяржынск.*

ПРЫРОДА Ў МІНІЯЦЮРАХ

# МЯДЗВЕДЗЬ—ПАЖАРНІК

**Гэта здарылася ў Валагодскай вобласці Расійскай Федэрацыі. Цёплым летнім днём грыбнікі адправіліся пахадзіць па лесе, спадзеючыся знайсці месца для багатага «ціхага палявання». Рухаліся лясной цалінай павольна і доўга: часта прыходзілася пераадольваць завалы, некаторыя са старых дрэў былі пакрыты шэра-зялёным мохам...**

Нечакана пацягнула дымам. Хутка паказаўся і невялікі сiняваты дымок ад кастра. Аднак хто ж там ходзіць? Людзі прыгледзеліся і здзівіліся: гэта ж Таптыгін — гаспадар лесу. Мядзведзь, абтрэсваючыся, кружыў вакол сучча, якое дымілася. А потым знік у хмызняку. Праз нейкі час адтуль пачуўся плёскат вады. І вось ля кастра зноў паказаўся мядзведзь — увесь мокры, з прыліплай поўсцю. Наблізіўшыся да агню, чатырохногі «пажарнік» зноў стаў абтрэсвацца, і кропелькі вады дажджом паляцелі на дымныя дровы. Пасля чарговага заходу касцёр патух. Мішка двойчы абышоў нядаўняе пажарышча, па-гаспадарску агледзеўся, сеў на пень каля галавешак. Языком пачаў лізаць поўсць, прыводзячы ў парадак футра. І нарэшце знік у гушчары.

Калі грыбнікі падышлі да кастрышча, то ўсюды ўбачылі кроплі вады: на попеле, вуголлі, цёмнай траве — сляды своеасаблівай бітвы з агнём. Відаць, мядзведзь, напалоханы калісьці лясным пажарам, заўважыўшы агонь, пабаяўся яго распаўсюджання па лесе. І «прыняў меры».

Дурная жывёліна, скажа хто-небудзь? І, тым не менш, куды разумнейшая, чым многія «дзікія» турысты.

### ХТО САПРАЎДНЫ АСЁЛ?

Бяскрыўдны асёл і мацёры воўк выпадкова аказаліся суседзямі. Гэта адбылося ў горным сяленні ў адгор'ях Паміра-Алая. Асёл, ратуючыся ад ваўка, з перапуду кінуўся наўцёкі і трапіў у закінуты калодзеж. Драпежнік, скокнуўшы ўслед за ішаком, вымушана зрабіўся яго сябрам па няшчасці. Асёл, які дастаў нагамі дно калодзежа, прастаяў усю ноч напралёт. Перапалоханаму ваўку, каб не патануць, нічога іншага не заставалася, як толькі цялёпкацца ў вадзе. Зразумела, што драпежніку, які трапіў у такое незайздроснае становішча, было ўжо не да асла.



На досвітку гаспадары жывёліны, не ўбачыўшы свайго вушастага на прывязі, пайшлі на пошукі і пачулі плёскат вады ў калодзежы. Якім жа было здзіўленне горцаў, калі яны агледзелі там асла і ваўка разам!

Далей усё было, як кажуць, «справай тэхнікі». Ваўка забілі, а ішака выцягнулі цэлым і непашкоджаным. Аказваецца, быць aслом не заўсёды дрэнна.

### СМЯРОТНЫ «КІКБОКСІНГ»

Сцежка пятляла па лясістым склоне па-над крутым абрывам. Унізе пенілася бурлівая рака Усуры. Паляўнічыя, што прабіраліся сярод гушчару, раптам спыніліся. Праз зараснік яны ўбачылі карціну бойкі не на жыццё, а на смерць.

На невялікай паляне пасвіліся дзікі. На моху нежыліся парасяты. Дзік-сякач іклами падрываў карані вялізнага кедра. Нечакана на паляну выскачыў тыгр. Ударам лапы ён перабіў хрыбет аднoй свінні і стаў раскідваць астатніх.

Сякач, выставіўшы ўперад даўгія іклы, кінуўся на тыгра — завязалася смяротная схватка. Дзік аказаўся дужым і спрытным. Ён насіўся па паляне, цягаючы на сабе тыгра. Той зубамі ўчапіўся кабану ў загрывак, імкнучыся перарваць яму жылы. Улучыўшы момант, сякач усадзіў свае іклы тыгру ў чэрава і імклівым кідком прыбіў таго да ствала тоўстага дрэва. Абліваючыся крывёю, паласаты драпежнік стаў асядаць. Важак статка выцягнуў іклы з цела ворага і, крыху пахістваючыся, пайшоў да астатніх свіней.

Характэрна, што ў час гэтай крывавай схваткі паляўнічыя некалькі разоў стралялі з ружжаў у паветра, каб разагнаць раз'юшаных праціўнікаў. Аднак тыя, па ўсім відаць, стрэлаў нават не чулі і працягвалі свой смяротны паядынак.

### ВЫРАТАВАЛЬНІКІ

Раным-рана двое леснікоў накіраваліся па справах у напрамку да возера Вечар, што на Міншчыне. І там убачылі ласіху, якая завязла ў прыбярэжнай дрыгве. У жывёліны, якая страціла апошнія сілы, не было ніякай надзеі на выратаванне. Сумнымі вачамі ласіха глядзела на людзей і быццам прасіла аб дапамозе. Аднак удваіх вызваліць з палону цяжкую жывёліну леснікам аказалася не пад сілу. Адзін з іх хутка вярнуўся ў райцэнтр Любань. На яго просьбу тут жа адгукнуліся работнікі мясцовага райаддзела міліцыі, члены таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Сем гадзін людзі правялі на беразе возера і змаглі выратаваць ласіху. Такі вось «хэпі-энд».

**Сабраў Мірон ЧАРАПІЦА.**

Ад чаго іншым часам кожны з нас адчувае галаўны боль, няўпэўненасць у сабе, ад чаго, бывае, здаецца, што ўсё ідзе не так як трэба? Думаецца, прычына хаваецца ў рознай інфармацыі, дакладней, у яе адсутнасці. Што, дзе, калі, як, пачым — гэтыя і многія іншыя пытанні аднолькава турбуюць сёння і хатнюю гаспадыню, і беспрацоўнага, і заможнага бізнесмена. Зразумела, у кожнага тут, як кажуць, свой кроўны інтарэс, але ва ўсіх выпадках нязменным застаецца адно пытанне — як даведацца аб тым, што патрэбна, што турбуе і непакоіць?

Спадзяёмся, што ў нечым вам, шаноўныя чытачы, дапаможа наша новая рубрыка «Інфармбюро», дзе мы збіраемся друкаваць самую разнастайную даведачную (і не толькі) інфармацыю з нашага жыцця. Між іншым, хацелася б выказаць пажаданне, каб і вы далучаліся да яе падрыхтоўкі. Што вас найперш цікавіць, якія звесткі вы хацелі б атрымаць? Запрашаем таксама і рэкламадаўцаў праз гэтую рубрыку паведаміць свету аб сваёй фірме, таварах, паслугах і цэнах.

*Тэлефануйце — нашы нумары: 68-27-41, 68-27-50, або пішыце на адрас: 220013, Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10А, газета «Звязда», пакой 506, «Інфармбюро». Чакаем вашых прапаноў!*

# КРЭДЫТНЫЯ КАРТКІ БАНКАЎ БЕЛАРУСІ

| 1. | Назва банка | Банк «Алімп» | «Пріорбанк» | «Беларусбанк» |
|---|---|---|---|---|
| 2. | Назва імітаванай карткі і яе тып | Universal | PriorVISA-classic | VISA-gold; -bisiness; -classic |
| 3. | Прызначэнне карткі | Для фізічных і юрыдычных асоб | Для фізічных і юрыдычных асоб | Для фізічных і юрыдычных асоб |
| 4. | Тып карткі валютны | Мультывалютны | Долар ЗША | Долар ЗША |
| 5. | Тып карткі па абслугоўванню | Сапраўдная на тэрыторыі Расіі і Беларусі | Міжнародная | Міжнародная |
| 6. | Колькасць пунктаў абслугоўвання | У Мінску каля 20 | У Мінску каля 210, у Беларусі 250 | У Мінску каля 15 |
| 7. | Максімальна дапушчальная сума | Без абмежаванняў | Без абмежаванняў | Без абмежаванняў |
| 8. | Збор за выдачу карткі | 7$ | 89$ | 90$ |
| 9. | Збор, які спаганяецца за безнаяўныя аперацыі (% ад сумы) | 0,5% | 1% за мяжой Беларусі, па рэспубліцы не спаганяецца | 0,5% |
| 10 | Збор, які спаганяецца за выдачу наяўных (% ад сумы) | 1% | 2% за мяжой Беларусі, 1% па рэспубліцы | 1,5% |
| 11 | Збор за згубленую картку | 15$ | 165$ | 200$ |
| 12 | Тэрмін дзеяння карткі | 2 гады | 1 год | 1 год |
| 13 | Збор за перавыпуск карткі ў сувязі з заканчэннем тэрміну дзеяння | 7$ | 49$ | 50$ |
| 14 | Максімальная сума, якую можна зняць у дзень | Без абмежаванняў | Без абмежаванняў | Без абмежаванняў |
| 15 | Тэлефоны для даведак | 58-96-49 | 69-09-64 | 20-07-51 |

# УЗРОВЕНЬ РОЗНІЧНЫХ ЦЭН
## на харчовыя тавары ў абласных цэнтрах і Мінску

| Назва прадуктаў | Брэст | Віцебск | Гомель | Гродна | Мінск | Магілёў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Хлеб масавых гатункаў (0,9 кг) | 2.100 | 2.400 | 2.600 | 2.300 | 2.400 | 2.600 |
| Батон першага гатунку (0,5 кг) | 3.000 | 2.600 | 3.100 | — | 2.5 | 3.300 |
| Макаронныя вырабы (кг) | 8.500 | 10.800 | 10.900 | 8.100 | 12.100 | 12.500 |
| Крупы ячныя (кг) | 3.800 | — | 4.600 | 3.800 | 4.900 | 4.300 |
| Мука вышэйшага гатунку (кг) | 5.500 | 6.900 | 6.000 | 5.600 | 6.800 | 6.600 |
| Мука першага гатунку (кг) | 4.200 | 5.600 | — | 3.700 | 5.300 | 5.700 |
| Ялавічына на косці (кг) | — | 26.2 | 26.400 | 25.100 | 26.300 | 31.600 |
| Свініна (кг) | 29.000 | 27.400 | 27.400 | 27.600 | 31.200 | — |
| Паўфабрыкат бескасцёвы ялавічны (кг) | 40.800 | 40.300 | 47.000 | 44.000 | 41.600 | 49.500 |
| Каўбаса вараная першага гатунку (кг) | 25.500 | 30.500 | 31.200 | 31.500 | 31.200 | 30.400 |
| Каўбаса паўвэнджаная (кг) | 41.500 | 51.300 | 41.200 | 50.500 | 53.600 | 52.400 |
| Фарш мясны ялавічны (кг) | 28.100 | 27.000 | 33.200 | 29.400 | 29.400 | 34.800 |
| Пельмені (0,5 кг) | 9.400 | 10.800 | 12.100 | 11.300 | 11.200 | 12.100 |
| Мяса птушкі (кг) | 26.600 | 28.600 | 25.600 | 27.000 | 26.100 | 27.800 |
| Малако 2,5 працэнтнае без посуду (0,5 л) | 1.700 | 2.100 | 2.000 | — | 2.200 | — |
| Масла (кг) | 43.300 | 42.900 | 44.900 | 42.900 | 38.000 | 44.300 |
| Смятана 25-працэнтная (кг) | 17.200 | 21.200 | — | 18.100 | 22.600 | 22.900 |
| Тварог 9-працэнтны (кг) | 15.400 | 17.500 | — | 15.600 | 21.600 | — |
| Сыр цвёрды (кг) | 41.500 | — | 39.000 | 46.000 | 50.100 | 48.600 |
| Рыба марожаная (кг) | 17.600 | 17.00 | 17.400 | 14.600 | 16.300 | 23.400 |
| Селядзец (кг) | 20.600 | 26.000 | 24.200 | 20.800 | 23.400 | 24.100 |
| Яйкі (дзес.) | 10.000 | 9.700 | 9.400 | 9.600 | 10.400 | 11.000 |
| Алей (кг) | 20.000 | 18.000 | 25.000 | 23.000 | 21.800 | 20.000 |
| Цукар (кг) | 8.000 | 7.500 | 8.100 | 8.000 | 8.100 | 8.100 |
| Соль (кг) | 1.600 | 1.500 | 1.800 | 1.500 | 1.700 | 1.700 |
| Вада мінеральная (з посудам) (0,5 л) | 2.000 | 2.200 | 2.100 | 2.300 | 2.300 | 2.300 |
| Піва (з посудам) (0,5 л) | 3.500 | 3.800 | 3.400 | 4.100 | 4.500 | 4.100 |
| Цыгарэты з фільтрам (пачак) | 3.500 | — | 4.000 | 3.400 | 3.600 | 3.800 |
| Цыгарэты без фільтра (пачак) | 2.200 | 1.900 | 2.200 | 2.300 | 2.600 | 2.000 |
| Бульба (кг) | 4.000 | 4.000 | 3.500 | 4.000 | 4.000 | 2.800 |
| Цыбуля (кг) | 5.000 | 7.000 | 6.200 | 6.000 | 5.600 | 6.000 |
| Морква (кг) | 4.000 | 5.000 | 3.000 | 4.000 | 5.300 | 3.600 |
| Капуста свежая (кг) | 4.000 | — | — | 4.300 | 5.000 | — |
| Буракі (кг) | 3.300 | 4.000 | 2.800 | 2.500 | 3.500 | 2.300 |
| Яблыкі (кг) | 10.000 | — | 11.400 | 11.000 | 13.000 | 16.000 |

# РОЗНІЧНЫЯ ЦЭНЫ
## на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска

| Назва прадукцыі | Кошт у тыс. руб. |
|---|---|
| **АГАРОДНІНА (кг):** | |
| капуста свежая | 8—15 |
| капуста квашаная | 14—18 |
| буракі | 4—6 |
| морква | 7—10 |
| часнок свежы | 15—30 |
| часнок марынаваны | 30—35 |
| таматы | 30—60 |
| агуркі свежыя | 17—35 |
| агуркі салёныя | 16—18 |
| перац салодкі | 60—90 |
| лук рэпчаты | 4—7 |
| цыбуля зялёная | 60—100 |
| пятрушка | 180—250 |
| кроп | 180—250 |
| хрэн (200 г) | 7—12 |
| рэдька | 25—30 |
| салата | 100 |
| **САДАВІНА (кг):** | |
| яблыкі | 10—35 |
| грушы | 20—40 |
| вінаград | 45—100 |
| бананы | 15—25 |
| апельсіны | 13—18 |
| лімоны | 18—30 |
| мандарыны | 16—30 |
| ананасы (1 шт.) | 40—80 |
| ківі (1 шт.) | 3—6 |
| грэйпфруты | 25 |
| гранаты | 60—80 |
| клубніцы | 145—150 |
| дыня | 15—30 |
| **СУХАФРУКТЫ (кг):** | |
| сумесь | 10—16 |
| курага | 18—40 |
| чарнасліў | 15—35 |

| Назва прадукцыі | Кошт у тыс. руб. |
|---|---|
| разынкі | 18—40 |
| фінікі | 30—35 |
| **АРЭХ (кг):** | |
| фундук | 30—45 |
| грэцкі | 15—20 |
| **МЯСА (кг):** | |
| цяляціна | 26—45 |
| бараніна | 26—50 |
| ялавічына | 20—40 |
| свініна | 23—60 |
| куры | 19—31 |
| сала свежае | 25—30 |
| сала салёнае | 25—45 |
| **МАЛОЧНЫЯ ПРАДУКТЫ:** | |
| малако (л) | 4—8 |
| тварог (кг) | 18—30 |
| смятана (кг) | 20—30 |
| масла (кг) | 40—45 |
| яйкі хатнія (1 дзес.) | 16—17 |
| яйкі птушкафаб. (1 дзес.) | 9,6—10 |
| мёд (кг) | 60—70 |
| алей (л) | 15—17 |
| **КРУПЫ (кг):** | |
| рыс | 6—11 |
| грэчка | 7—12 |
| цукар (кг) | 6,8—10 |
| мука (кг) | 6—7 |
| гарох (кг) | 8—12 |
| фасоля (кг) | 12—20 |
| грыбы свежыя (кг) | 45—55 |
| грыбы сухія (кг) | 350—400 |
| семя сланечніку (кг) | 6—8 |
| семя тыквы (кг) | 9—11 |
| **КВЕТКІ (шт.):** | |
| гваздзікі | 6—8 |
| ружы | 8—25 |

# КОЛЬКІ КАШТУЕ МЕСЦА НА РЫНКУ?
## Расцэнкі на арэнду гандлёвых месцаў, кошт інвентару і аказання паслуг на Камароўскім рынку Мінска (зменены з 26. 03. 96). Цэны даюцца ў тыс. бел. рублёў у дзень

### КРЫТЫ РЫНАК

| Назва с/г прадуктаў, прамысловых тавараў і паслуг | Разавы | Гандлёвы інвентар | Санвопратка | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Агародніна, садавіна, якія растуць на тэрыторыі РБ | 10 | 11 | 4 | 25 |
| Агародніна, садавіна з іншых рэспублік | 60 | 11 | 4 | 75 |
| Малако | 3 | — | 4 | 7 |
| Смятана, тварог, масла, сыр | 15 | 11 | 4 | 30 |
| Алей | 30 | — | 4 | 34 |
| Свініна, ялавічына, бараніна, цяляціна, сала | 60 | 10 | 5 | 75 |
| Яйкі | 12 | — | — | 12 |
| Мёд | 20 | 10 | 5 | 35 |
| Продаж піражкоў з цялежак | 40 | — | — | 40 |
| Агародніна, харчовыя прадукты ў гандлёвых радах арганізацый | 60 | — | — | 60 |
| Кандытарскія, рыбныя, бакалейныя і да т. п. | 75 | — | — | 75 |
| Гандаль з халадзільных прылаўкаў | 150 | — | — | 150 |
| Кветкі | 40 | 3 | — | 43 |
| Дробныя кветкі | 12 | 3 | — | 15 |
| Афармленне букетаў з кветак | 20 | 3 | — | 23 |
| Хатнія кветкі | 6 | 3 | — | 9 |
| Зяленіва, грыбы, ягады шклянкамі, пучкамі | 15 | — | — | 15 |
| Насенне агародніны | 6 | 1 | — | 7 |
| Штучныя кветкі | 12 | 3 | — | 15 |
| Саленні | 40 | 10 | 4 | 54 |
| Продаж са сталоў у тарцах радоў | 100 | — | — | 100 |
| Вязаныя вырабы | 20 | 3 | — | 23 |
| Прамысловыя тавары, вырабы з футра | 35 | 3 | — | 38 |
| Вясельныя сукенкі | 20 | — | — | 20 |
| Вясельныя вырабы (кветкі, вэлюм) | 10 | — | — | 10 |
| Продаж аўдыё-, відэакасет | 30 | — | — | 30 |
| Карціны, плакаты, кнігі, вырабы з гіпсу, дрэва і да т. п. | 20 | — | — | 20 |
| П/этылен. пакеты з рук | 6 | — | — | 6 |
| Садавіна, агародніна ў 9-м, 10-м радзе | 75 | 11 | 4 | 90 |
| Заняцце на рынку індывідуальна-працоўнай дзейнасцю | 40 | — | — | 40 |
| Гаспадарчыя тавары | 40 | — | — | 40 |

### СЕЗОННЫ РЫНАК

| Назва с/г прадуктаў, прамысловых тавараў і паслуг | Разавы | Гандлёвы інвентар | Санвопратка | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Садавіна, агародніна, якія растуць у РБ | 8 | 6 | 4 | 18 |
| Садавіна, агародніна з іншых рэспублік | 40 | 6 | 4 | 50 |
| Бульба | 8 | 6 | 4 | 18 |
| Насенне сланечніку, гарбуза, бобу | 20 | 6 | 4 | 30 |
| Бахчавыя | 18 | 6 | 4 | 28 |
| Саленні | 25 | 6 | 4 | 35 |
| Кандытарскія, рыбныя, бакалейныя і да т. п. | 50 | — | — | 50 |
| Агародніна, харчовая прадукцыя ў гандлёвых радах | 45 | — | — | 45 |
| Продаж піражкоў з цялежак | 25 | — | — | 25 |
| Гаспадарчыя тавары | 25 | — | — | 25 |
| Саджанцы | 10 | — | — | 10 |
| Расада | 6 | — | — | 6 |
| Продаж яек | 6 | — | — | 6 |
| Зяленіва, дробная агародніна, грыбы, ягады шклянкамі, пучкамі | 8 | — | — | 8 |
| Кветкі | 25 | — | — | 25 |
| Дробныя кветкі | 6 | — | — | 6 |
| Гандаль са сталоў у тарцы радоў | 80 | — | — | 80 |
| Пакаёвыя кветкі | 4 | — | — | 4 |
| Насенне агародніны | 4 | — | — | 4 |
| Штучныя кветкі | 4 | — | — | 4 |
| Штучныя кветкі замежнай вытворчасці | 24 | — | — | 24 |
| Заняцце на рынку індывідуальна-працоўнай дзейнасцю | 25 | — | — | 25 |
| Карціны, плакаты, кнігі, вырабы з гіпсу, дрэва і да т. п. | 14 | — | — | 14 |
| П/этылен. пакеты з рук | 4 | — | — | 4 |
| Вязаныя шапачкі | 12 | — | — | 12 |
| Вырабы з футра | 24 | — | — | 24 |
| Выдача кніг напракат | 5 | — | — | 5 |

**ПАСЛУГІ**
Рассяканне мяса за 1 кг .... - 0,9
Рассяканне галавы за 1 шт. - 6,0
Абвалка мяса .................... - 20,0
За карыстанне цялежкай ... - 12,0 (за 0,5 гадзіны)

**САНВОПРАТКА**
Фартух/нарукаўнік (кампл.) - 4,0
Куртка, халат .................... - 4,0
Ручнік, каўпак .................... - 1,0
Прасціна .......................... - 4,0

**ЗА ВЫДАЧУ НАПРАКАТ**
вагаў цыферблатных ..... - 6,0
вагаў чашачных ............ - 4,0
гандлёвага інвентару (гіраў, латкоў, саўкоў) ... - 1,0
крэсла .......................... - 3,0
стала ............................ -12,0

# КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
## у камерцыйных банках на 29 сакавіка 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраўл.) | 12500 | 12800 | 8400 | 8700 | 2.40 | 2.65 | 769-533 |
| Белбізнесбанк (гар. дырэкцыя) | 12450 | 12800 | 8300 | 8650 | 2.40 | 2.60 | 275-503, 067 |
| ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі) | 12650 4880 | 12850 4980 | 8550 | 8800 | 2.54 | 2.64 | 531-504 |
| Банк «INKO» | 12900 | 13950 | 8600 | 9500 | 2.56 | 2.68 | 23-80-20 |
| Мінскі транзітны банк* | 12600 | 12900 | 8450 | 8700 | 2.45 | 2.65 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 12600 | 12800 | 8450 | 8700 | 2.40 | 2.55 | 372-825 |
| Народны банк | 12650 | 12850 | 8500 | 8700 | 2.46 | 2.58 | 238-610 |
| «Алімп» | 12600 | 13000 | 8400 | 8700 | 2.50 | 2.60 | 589-649 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 12650 | 12880 | 8500 | 8650 | 2.40 | 2.50 | 291-646, 067 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 12400 | 12850 | 8350 | 8800 | 2.52 | 2.70 | 26-58-12 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7740.46 | | 2.36 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4854 | | 3268.03 | | 100 бел.р. 37.50 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

*Агенцтва Граўцова.*

Выпуск «Інфармбюро» падрыхтавалі Сяргей РАСОЛЬКА, Надзея НІКАЛАЕВА і Жанна КАТЛЯРОВА.

# РАСКЛАД

## руху пасажырскіх паяздоў па ст. Мінск-Пасажырскі

### НА МАСКВУ

| № і катэгорыя поезда | Маршрут руху | Час адпраўлення з пач. станцыі | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час прыб. | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час адпр. | Час: прыбыц. на канц. станц. | Час: у шляху | Дні руху |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **88** хуткі | Вільнюс — Масква | 19.44 | 0.07 | 0.20 | 13.13 | 12.53 | па цотных (з 20.11 адменены) |
| **10** хуткі | Варшава — Масква | 14.40 | 0.43 | 0.53 | 12.19 | 11.26 | штодзённа |
| **150** хуткі | Калінінград — Масква | 14.00 | 1.43 | 1.58 | 15.36 | 13.38 | штодзённа |
| **126** хуткі | Варшава — Масква | 14.29 | 1.55 | 2.07 | 15.04 | 12.57 | акрамя пан., аўт. |
| **196** пасаж. | Брэст — Масква | 20.25 | 2.42 | 3.00 | 17.22 | 14.22 | штодзённа |
| **132** хуткі | Брэст — Масква | 1.50 | 6.52 | 7.06 | 20.01 | 12.55 | штодзённа |
| **36** хуткі | Беласток — Масква | 18.14 | 8.05 | 8.21 | 21.19 | 12.58 | акрамя панядз. |
| **70** хуткі | Берлін — Саратаў | 15.10 | 11.32 | 11.44 | 20.04 | 32.20 | па нядзелях |
| **194** пасаж. | Калінінград | 0.50 | 14.22 | 14.50 | 5.39 | 14.49 | па ўказанню |
| **26** хуткі | Мінск — Масква | - | - | 16.23 | 6.05 | 13.42 | штодзённа |
| **2** хуткі | Мінск — Масква | - | - | 19.49 | 9.05 | 13.16 | штодзённа |
| **14** хуткі | Берлін — Масква | 21.23 | 20.01 | 20.14 | 9.12 | 12.58 | штодзённа |
| **6** хуткі | Вільнюс — Масква | 15.23 | 19.59 | 20.22 | 9.27 | 13.05 | штодзённа |
| **22** хуткі | Прага — Масква | 18.24 | 20.43 | 20.56 | 9.39 | 12.43 | штодзённа |
| **30** хуткі | Калінінград — Масква | 9.05 | 20.53 | 21.07 | 9.52 | 12.47 | штодзённа |
| **4** хуткі | Мінск — Масква | - | - | 21.31 | 10.25 | 12.54 | штодзённа |
| **28** хуткі | Брэст — Масква | 17.10 | 21.48 | 22.00 | 10.46 | 12.46 | штодзённа |
| **78** хуткі | Гродна — Масква | 14.19 | 21.49 | 22.08 | 11.10 | 13.02 | штодзённа |
| **16** хуткі | Брусель — Масква | 15.55 | 22.15 | 22.28 | 11.17 | 12.49 | штодзённа |
| **74** хуткі | Брэст — Масква | 18.00 | 22.36 | 22.48 | 11.45 | 8.36 | штодзённа |
| **282** пасаж. | Гродна — Унеча | 15.35 | 22.45 | 23.07 | 11.50 | 12.47 | па няцотных |

### НА ПОЛАЦК, ВІЦЕБСК, САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ

| № і катэгорыя поезда | Маршрут руху | Час адпраўлення з пач. станцыі | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час прыб. | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час адпр. | Час: прыбыц. на канц. станц. | Час: у шляху | Дні руху |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **190** пасаж. | Львоў — С.-Пецярбург | 16.27 | 11.54 | 12.14 | 8.06 | 19.52 | штодзённа |
| **52** хуткі | Мінск — С.-Пецярбург | - | - | 15.26 | 10.30 | 19.04 | штодзённа |
| **675** пасаж. | Мінск — Полацк | - | - | 17.08 | 0.06 | 6.56 | штодзённа |
| **50** хуткі | Брэст — С.-Пецярбург | 13.00 | 17.44 | 18.00 | 11.41 | 17.41 | штодзённа |
| **684** пасаж. | Гродна — Віцебск | 15.35 | 22.45 | 23.07 | 5.05 | 5.58 | па цотных |
| **652** пасаж. | Баранавічы — Полацк | 21.18 | 23.37 | 23.58 | 8.35 | 8.37 | штодзённа |

### НА КАЛІНІНГРАД, РЫГУ, ВІЛЬНЮС

| № і катэгорыя поезда | Маршрут руху | Час адпраўлення з пач. станцыі | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час прыб. | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час адпр. | Час: прыбыц. на канц. станц. | Час: у шляху | Дні руху |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **29** хуткі | Масква — Калінінград | 13.32 | 23.51 | 0.09 | 11.25 | 11.19 | штодзённа |
| **287** пасаж. | Гомель — Рыга | 18.15 | 23.53 | 0.17 | 12.50 | 12.36 | па няцотных |
| **285** пасаж. | Гомель — Калінінград | 21.48 | 2.47 | 3.04 | 15.37 | 12.33 | па цотных |
| **5** хуткі | Масква — Вільнюс | 17.17 | 3.43 | 3.58 | 8.30 | 4.32 | штодзённа |
| **149** хуткі | Масква — Калінінград | 19.03 | 5.31 | 5.49 | 17.47 | 11.58 | штодзённа |
| **87** хуткі | Масква — Вільнюс | 19.17 | 5.40 | 6.00 | 10.40 | 4.40 | па няцотных |
| **211** пасаж. | Харкаў — Калінінград | 0.30 | 20.19 | 20.34 | 8.46 | 12.12 | аўт., пятн. |
| **75** хуткі | Кіеў — Рыга | 8.42 | 21.06 | 21.24 | 9.02 | 11.38 | аўт. |

### НА ГОМЕЛЬ, КІЕЎ, СОЧЫ, СІМФЕРОПАЛЬ

| № і катэгорыя поезда | Маршрут руху | Час адпраўлення з пач. станцыі | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час прыб. | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час адпр. | Час: прыбыц. на канц. станц. | Час: у шляху | Дні руху |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **650** пасаж. | Гродна — Гомель | 17.45 | 0.43 | 0.58 | 6.18 | 5.20 | па цотных |
| **76** хуткі | Рыга — Кіеў | 13.25 | 1.29 | 1.44 | 14.22 | 12.38 | чацвер |
| **182** пасаж. | Мінск — Сімферопаль | - | - | 3.05 | 14.19 | 35.14 | па цотных |
| **248** пасаж. | Гродна — Днепрапятроўск | 19.19 | 3.50 | 4.15 | 7.39 | 27.24 | па няцотных |
| **212** пасаж. | Калінінград — Харкаў | 17.00 | 5.27 | 5.42 | 4.10 | 22.28 | чацвер, нядз. |
| **286** пасаж. | Калінінград — Гомель | 19.10 | 7.33 | 7.49 | 13.20 | 5.31 | па няцотных |
| **288** пасаж. | Рыга — Гомель | 19.15 | 7.33 | 7.49 | 13.20 | 5.31 | па цотных |
| **348** пасаж. | Мінск — Адэса | - | - | 8.25 | 13.00 | 28.35 | з 3/6 па 1, 3, 7, 11, 15, 19, 23, 27, 31 числах кожнага месяца |
| **668** пасаж. | Гродна — Гомель | 23.42 | 8.42 | 9.03 | 15.40 | 6.37 | штодзённа |
| **102** хуткі | Мінск — Варна | - | - | 12.13 | 11.12 | 46.59 | з 31/5 па 27/9 па серадах |
| **72** хуткі | Мінск — Кішынёў | - | - | 12.13 | 15.48 | 27.35 | чацвер, нядз. |
| **170** хуткі | Мінск — Данецк | - | - | 12.48 | 21.37 | 32.49 | па цотных |
| **690** пасаж. | Мінск — Сураж | - | - | 15.10 | 1.12 | 19.02 | штодзённа |
| **38** хуткі | Мінск — Адлер | - | - | 16.26 | 17.14 | 48.48 | па цотных |
| **108** хуткі | Мінск — Калінкавічы | - | - | 16.34 | 23.45 | 7.11 | штодзённа |
| **604** пасаж. | Баранавічы — Гомель | 14.40 | 7.01 | 17.21 | 23.10 | 5.49 | штодзённа |
| **110** хуткі | Мінск — Новарасійск | - | - | 17.40 | 12.24 | 42.44 | з 3/6 па 3, 7, 11, 15, 19, 23, 27 числах кожнага месяца |
| **146** хуткі | Мінск — Кіславодск | - | - | 19.28 | 16.32 | 45.04 | па няцотных |
| **106** хуткі | Мінск — Кіеў | - | - | 12.47 | 11.53 | 14.06 | штодзённа |
| **100** хуткі | Мінск — Сімферопаль | - | - | 22.35 | 7.02 | 32.07 | па няцотных |
| **630** пасаж. | Баранавічы — Жыткавічы — Жытомір | 19.34 | 22.44 | 23.06 | 11.00 13.53 | 11.54 14.47 | штодзённа |

### НА БРЭСТ, ГРОДНА, ЛЬВОЎ

| № і катэгорыя поезда | Маршрут руху | Час адпраўлення з пач. станцыі | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час прыб. | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час адпр. | Час: прыбыц. на канц. станц. | Час: у шляху | Дні руху |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **247** пасаж. | Днепрапятроўск — Гродна | 22.05 | 0.16 | 0.31 | 9.32 | 9.01 | па числах |
| **9** хуткі | Масква — Варшава | 15.26 | 0.43 | 0.53 | 9.00 | 9.07 | штодзённа |
| **27** хуткі | Масква — Брэст | 14.28 | 1.07 | 1.19 | 5.45 | 4.26 | штодзённа |
| **13** хуткі | Масква — Берлін | 23.41 | 10.05 | 10.20 | 5.46 | 19.26 | штодзённа |
| **77** хуткі | Масква — Гродна | 16.15 | 3.16 | 3.31 | 9.57 | 6.26 | штодзённа |
| **73** хуткі | Масква — Брэст | 16.43 | 3.26 | 3.38 | 8.18 | 4.40 | штодзённа |
| **649** пасаж. | Гомель — Гродна | 23.15 | 4.32 | 4.53 | 12.14 | 7.21 | па няцотных |
| **651** пасаж. | Полацк — Баранавічы | 20.30 | 4.50 | 5.16 | 8.00 | 2.44 | штодзённа |
| **189** пасаж. | С.-Пецярбург — Львоў | 11.20 | 5.15 | 5.36 | 22.51 | 17.15 | штодзённа |
| **629** пасаж. | Жытомір — Жыткавічы — Баранавічы | 14.43 17.07 | 5.24 | 5.53 | 8.57 | 3.04 | штодзённа |
| **49** хуткі | С.-Пецярбург — Брэст | 15.20 | 5.59 | 6.13 | 11.20 | 5.07 | штодзённа |
| **21** хуткі | Масква — Прага | 19.36 | 6.13 | 6.31 | 6.51 | 24.20 | штодзённа |
| **603** пасаж. | Гомель — Баранавічы | 0.17 | 6.40 | 7.05 | 9.53 | 2.48 | штодзённа |
| **15** хуткі | Масква — Брусель | 20.50 | 7.28 | 7.40 | 13.22 | 29.42 | штодзённа |
| **195** пасаж. | Масква — Брэст | 21.13 | 8.46 | 9.01 | 15.24 | 6.23 | штодзённа |
| **131** хуткі | Масква — Брэст | 23.15 | 10.34 | 10.46 | 15.17 | 6.31 | штодзённа |

| № і катэгорыя поезда | Маршрут руху | Час адпраўлення з пач. станцыі | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час прыб. | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час адпр. | Час: прыбыц. на канц. станц. | Час: у шляху | Дні руху |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **617** электр. | Мінск — Брэст | - | - | 13.09 | 19.49 | 6.46 | штодзённа |
| **69** хуткі | Саратаў — Берлін | 10.45 | 16.37 | 16.49 | 11.55 | 19.06 | па пятн. |
| **271** пасаж. | Мінск — Ів.Франкоўск | - | - | 17.53 | 13.15 | 49.22 | па няцотных |
| **659** пасаж. | Мінск — Брэст | - | - | 18.36 | 5.20 | 10.44 | штодзённа |
| **125** хуткі | Масква — Варшава | 9.13 | 19.39 | 19.50 | 5.43 | 9.53 | акрамя суботы, нядзелі |
| **35** хуткі | Масква — Беласток | 9.22 | 20.03 | 20.20 | 7.50 | 11.30 | акрамя суботы |
| **103** турыст. | Мінск — Варшава | - | - | 21.52 | 8.00 | 10.08 | штодзённа |
| **619** электр. | Мінск — Брэст | - | - | 22.00 | 3.55 | 6.17 | штодзённа |
| **667** пасаж. | Гомель — Гродна | 16.48 | 23.05 | 23.25 | 7.44 | 8.19 | штодзённа |
| **281** пасаж. | Унеча — Гродна | 12.34 | 23.38 | 23.58 | 7.07 | 7.28 | па цотных |
| **683** пасаж. | Віцебск — Гродна | 18.10 | 23.38 | 23.58 | 7.07 | 7.28 | па няцотных |

### ПАЯЗДЫ, ЯКІЯ АДПРАЎЛЯЮЦЦА З П. П. ІНСТЫТУТ КУЛЬТУРЫ

| № і катэгорыя поезда | Маршрут руху | Час адпраўлення з пач. станцыі | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час прыб. | Па станцыі Мінск-Пасажыр.: час адпр. | Час: прыбыц. на канц. станц. | Час: у шляху | Дні руху |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **618** электр. | Брэст — Мінск | 18.18 | 0.32 | - | - | 6.14 | штодзённа |
| **601** электр. | Мінск — Брэст | - | - | 1.03 | 7.18 | 6.15 | штодзённа |
| **607** электр. | Мінск — Брэст | - | - | 10.30 | 17.55 | 7.20 | штодзённа |
| **602** электр. | Брэст — Мінск | 8.20 | 15.14 | - | - | 6.54 | штодзённа |

### ПРЫБЫЦЦЁ ПАЯЗДОЎ МЯСЦОВАГА ФАРМІРАВАННЯ НА СТАНЦЫЮ МІНСК-ПАСАЖЫРСКІ

| № і катэгорыя паяздоў | Маршрут руху | Час: адпр. з пач. станц. | Час: прыб. | Дні руху |
|---|---|---|---|---|
| **181** пасаж. | Сімферопаль — Мінск | 13.00 | 0.07 | па цотных |
| **107** хуткі | Калінкавічы — Мінск | 0.10 | 5.30 | штодзённа |
| **689** пасаж. | Магілёў — Мінск | 0.58 | 6.21 | штодзённа |
| **1** хуткі | Масква — Мінск | 20.17 | 7.05 | штодзённа |
| **104** турыст. | Варшава — Мінск | 19.25 | 7.17 | штодзённа |
| **660** пасаж. | Брэст — Мінск | 20.00 | 7.30 | штодзённа |
| **183** пасаж. | Марыупаль — Мінск | 15.10 | 8.08 | па ўказанню |
| **3** хуткі | Масква — Мінск | 21.37 | 8.37 | штодзённа |
| **676** пасаж. | Полацк — Мінск | 1.35 | 8.58 | штодзённа |
| **105** хуткі | Кіеў — Мінск | 18.30 | 9.21 | штодзённа |
| **169** хуткі | Данецк — Мінск | 0.20 | 9.45 | па няцотных |
| **51** хуткі | С.Пецярбург — Мінск | 18.45 | 10.56 | штодзённа |
| **272** пасаж. | Ів.Франкоўск — Мінск | 16.25 | 12.22 | па няцотных |
| **623** пасаж. | Брэст — Мінск | 6.20 | 11.05 | штодзённа |
| **620** электр. | Брэст — Мінск | 6.27 | 13.05 | штодзённа |
| **347** пасаж. | Адэса — Мінск | 14.48 | 16.49 | з 5/6 па 5, 9, 13, 17, 21, 25, 29, 2 числах кожнага месяца |
| **109** хуткі | Новарасійск — Мінск | 1.08 | 17.29 | па 1, 7, 11, 15, 19, 23, 27 числах кожнага месяца |
| **145** хуткі | Кіславодск — Мінск | 23.30 | 18.32 | па няцотных |
| **37** хуткі | Адлер — Мінск | 22.38 | 1919 | па цотных |
| **608** электр. | Брэст — Мінск | 11.55 | 19.32 | штодзённа |
| **71** хуткі | Кішынёў — Мінск | 18.21 | 20.40 | субота, аўторак |
| **99** хуткі | Сімферопаль — Мінск | 11.28 | 21.22 | па цотных |
| **25** хуткі | Масква — Мінск | 10.54 | 21.58 | штодзённа |

### БЕСПЕРАСАДАЧНЫЯ ВАГОНЫ

| Станцыя назначэння | № поезда | Час адпр. | Станцыя і час перапр.: прыб. | Станцыя і час перапр.: адпраўл. | Час: прыб. на кан. станцыю | Час: у шляху | Дні руху | Адваротнае прыб. у Мінск: № поезда | Адваротнае прыб. у Мінск: час |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск — Кішынёў | **668** | 9.03 | 13.19 | Жлобін 16.22 | 14.50 | 29.45 | штодзённа | 667 | 23.05 |
| Мінск — Пскоў | **52** | 15.26 | 5.22 | Дно 6.20 | 8.12 | 16.46 | пан., чацв., суб. | 51 | 10.56 |
| Мінск — Друя | **675** | 17.10 | 21.37 | Крулеўшчызна 3.25 | 7.34 | 14.24 | штодзённа | 676 | 8.58 |
| Мінск — Бранск | **604** | 17.16 | 23.10 | Гомель 3.20 | 10.36 | 17.20 | штодзённа | 603 | 6.40 |
| Мінск — Сімферопаль | **604** | 17.16 | 23.10 | Гомель 0.30 | 6.56 | 37.40 | па 4, 8, 12, 16. 20, 24, 28 числах кожнага месяца | 285 | 2.48 |
| Мінск — Віцебск | **675** | 17.08 | 0.06 | Полацк 5.04 | 7.35 | 14.25 | па ўказанню | 676 | 8.58 |
| Мінск — Трускавец | **271** | 17.53 | 20.05 | Баранавічы 21.05 | 12.43 | 18.50 | няцотн. | 668 | 8.42 |

### ЗАЎВАГІ:

Час адпраўлення мясцовы.

Папярэдні продаж білетаў праводзіцца касамі па вул. Чкалава, 9, вул. Каржанеўскага, 25, 2-і зав. Баграціёна, 20.

1. Дэпутаты, Героі Савецкага Саюза, Героі Сацыялістычнай Працы, асобы, узнагароджаныя ордэнамі Славы 3-х ступеняў, удзельнікі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, інваліды і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, інваліды працы I і II груп, інваліды I групы па зроку, інваліды воіны-інтэрнацыяналісты, ліквідатары вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС абслугоўваюцца ў касах па праспекце Ф. Скарыны, 18 за 45 дзён да адпраўлення на ўсе паязды свайго фарміравання, прычапныя вагоны (беспересадачныя).
2. Касы па вул. Чкалава, 9, праспекце Ф. Скарыны, 18, 2-м завулку Баграціёна, 20 працуюць штодзённа ў летні перыяд з 8.00 да 20.00, у зімовы перыяд — з 9.00 да 20.00 без абедзеннага перапынку, выхадны — нядзеля. Па вул. Каржанеўскага, 25 каса працуе з 9.00 да 17.00 з перапынкам на абед з 13.00 да 14.00, выхадныя дні — субота і нядзеля.
3. Білеты на зваротны выезд можна набыць у касах папярэдняга продажу.
4. Па тэлефоне 0-51 можна забраніраваць месцы на ўсе паязды і вагоны свайго фарміравання з наступным афармленнем праязных дакументаў у спецыялізаваных касах броні №№ 1, 2, 3 па вул. Чкалава, 9.
5. Тэлефон даведачнага бюро папярэдніх і сутачных кас 0-05.
6. За змяненнямі раскладу і адменай паяздоў неабходна сачыць па раскладу на вакзале, а таксама звяртацца ў даведачнае бюро па тэлефоне 0-05.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Асобы злачынцаў устаноўлены, большасць пацярпеўшых папраўляецца

**З'явіліся важкія падставы яшчэ раз успомніць трагічныя падзеі 14 сакавіка ў Оршы. Нагадаем, што тады два звар'яцелыя злачынцы ўсчалі страляніну з пісталетаў і ўзарвалі гранату, у выніку чаго загінуў афіцэр міліцыі, а 8 чалавек атрымалі раненні.**

У першыя гадзіны пасля здарэння асобы сканаўшых бандытаў не былі вядомы, бо ў іх мелася некалькі падробленых дакументаў. Аднак пасля аператыўна праведзенага расследавання ўсё стала на свае месцы. Вось хто такія гэтыя забойцы.

Гароеў Тахар Хамбіевіч, 34 гады, ураджэнец і жыхар Нальчыка. З красавіка 1995 года адшукваецца МУС Кабардзіна-Балкарскай Рэспублікі за разбой. Раней ужо быў асуджаны двойчы — Ваенным трыбуналам Валгаградскага гарнізона на 4 гады зняволення і Маскоўскім гарадскім судом на 7 гадоў.

Малінаў Сяргей Яўгенавіч, 40 гадоў, ураджэнец Паўночна-Казахстанскай вобласці, апошнім часам быў прапісаны ў пасёлку Кіратзітаўскі Курганскай вобласці. Раней яго судзілі чатыры разы — нарсудом Кетаўскага раёна Курганскай вобласці на 5 гадоў за ўцягванне непаўналетніх у злачынную дзейнасць, нарсудом горада Курган на 2 з паловай гады за нанясенне пабояў і хуліганства, нарсудом Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці на 3 гады за хуліганства, нарсудом Савецкага раёна г. Кургана на 9 гадоў з трохгадовай ссылкай за наўмыснае пашкоджанне асабістай маёмасці грамадзян і махлярства.

Удалося ўдакладніць і апошнія даныя аб стане здароўя пацярпеўшых міліцыянераў і жыхароў Оршы. На жаль, па-ранейшаму дрэнна сябе адчувае старшы лейтэнант Пераходчанка, які знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленні шпіталя МУС Беларусі. Астатнія — капітан Кіслякоў, старшына Кармазінаў, сяржанты Маланухін, Пашкевіч, Ладысеў, стралок аховы Русакоў і фельчар Рыжыкава — папраўляюцца, іх стан значна палепшыўся. Яшчэ раз выказваем спачуванне сям'і загінуўшага капітана Дзям'янава. Ну, а калектыў Аршанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце днямі пераязджае ў новае памяшканне.

**Сяргей ХРЫПАЧ,**
**прэс-цэнтр МУС.**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## «Мэтавы» крэдыт

Ва ўпраўленне крымінальнага вышуку УУС Мінгарвыканкома звярнуўся старшыня аднаго з вядучых камерцыйных банкаў з заявай, што яшчэ ў лістападзе 1994 года і ў красавіку мінулага года жыхар Санкт-Пецярбурга, які значыўся па дакументах як Васільеў, атрымаў у банку ў якасці мэтавых крэдытаў 500 млн. рублёў і знік. Былі прыняты аператыўныя меры па высвятленню асобы падазраваемага і яго затрыманню. Высветлілася, што атрымаў крэдыт па фальшывых дакументах на самай справе грамадзянін К., 1958 г. нараджэння (указанае месца пражывання аказалася сапраўдным). Ён тут жа быў затрыманы і арыштаваны пракуратурай Мінска. Узбуджана крымінальная справа па артыкулу 91-1 КК Беларусі.

**Васіль КУРЛОВІЧ.**

*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 5. Рухі мышц твару, якія выражаюць настрой чалавека. 7. Выбуховае рэчыва. 9. Спартыўнае таварыства. 11. Пункт погляду, ацэнка падзей, з'явы. 12. Па старажытнагрэчаскай міфалогіі: сын Прыама, які ведаў наперад падзенне Трої. 13. Імклівы напад на праціўніка. 16. Вінтоўка, стрэльба з пакрочаным ствалом. 19. Механічнае злучэнне, сумесь разнародных прадметаў, рэчываў. 22. Аркуш з лініямі — дапаможнік для роўных радкоў пісьма. 24. Вага тавару разам з упакоўкай. 27. Маёмасць нявесты пры выхадзе замуж. 30. Рака ў Грузіі. 31. Актрыса кіно, вядомая па фільмах «Волга-Волга», «Вясёлыя рабяты» і многіх іншых. 32. Хімічны элемент, цяжкі метал. 33. Традыцыйная дапамога на Беларусі адзін аднаму ў будаўніцтве, іншых працаёмістых справах. 34. Урадавая ўзнагарода.

**Па вертыкалях:** 1. Адзін з асноўных жанраў паэзіі. 2. Горад на поўдні Іспаніі. 3. Вялікая рака ў Бразіліі і Аргенціне. 4. Дваранскі тытул у многіх краінах Заходняй Еўропы. 6. Горад, які лічыцца радзімай Адысея. 8. Стыль у мастацтве пачатку XIX ст. 10. Раман Ч. Айтматава. 14. Спецыяліст па вызначэнню колькасці і вартасці лясных багаццяў. 15. Пагадненне, дамова. 17. Горад у Закарпацкай вобласці Украіны. 18. Захапленне знешняй формай, ігнараванне ідэйнага зместу. 20. Дзяржава ў Паўднёва-Усходняй Азіі. 21. Крыніца паэтычнага натхнення. 23. Платформа на чыгуначнай станцыі. 24. Вялікая лодка, шлюпка. 25. Дамова або яе частка. 26. Самая высокая гара Закаўказскага нагор'я ў Арменіі. 27. Спальнае адзенне. 28. Абавязковае рэчыва для прыгатавання піва. 29. Жанр усходняй паэзіі.

**Склала Зінаіда БОГДАН.**
*г. Заслаўе.*



## ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**Крыжаванка-пераклад (23 сакавіка). Па гарызанталях і вертыкалях:** 1. Загад. 2. Час. 3. Рогат. 4. Стынь. 5. Бот. 6. Зграя. 7. Заварот. 8. Стронга. 9. Пакат. 10. Памер. 11. Дах. 12. Намаганне. 13. Пах. 14. Сутарэнне. 15. Заваёўнік. 16. Рух. 17. Намер. 18. Гай. 19. Байка. 20. Галлё. 21. Багра. 2. Пасак. 23. Аматар. 24. Кат. 25. Пашана. 26. Жах. 27. Крэсла. 28. Крыўда. 29. Дудар. 30. Захоп. 31. Енк. 32. Куфар. 33. Лік. 34. Лазня. 35. Капец. 36. Глеба. 37. Цешча. 38. Вар. 39. Наваколле. 40. Аер. 41. Лёс. 42. Віж. 43. Знаёмец. 44. Аблічча.

**Галаваломка (23 сакавіка).** Прымаўка такая: «Веды — вялікая сіла» (гл. малюнак).





## ДВАНАЦЦАЦЬ РАЗОЎ ПА 21

Калі ў клетках выдзеленага квадрата правільна пераставіць лічбы, то пры складанні па ўсіх гарызанталях і па ўсіх вертыкалях можна атрымаць адзін і той жа вынік — 21. Адшукайце рашэнне гэтай галаваломкі.

**Даслаў Уладзімір АБАБУРКА.**
*Клецкі раён, в. Марач.*

***Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 463252 выдадзенае на імя СВІНАБУРКІ Уладзіміра Аляксеевіча лічыць несапраўдным.***

*Віншую*
*з днём нараджэння Скамарох Марыю Адамаўну.*
*Жадаю ўсяго самага найлепшага.*
*Сястра Галіна.*

### АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА
# «МІНСК-ЛАДА»
**220024, г. Мінск, вул. Сярова, 1.**

## Баланс
**на 1 студзеня 1996 года**

*(млн. руб.)*

| АКТЫЎ | | ПАСІЎ | |
|---|---|---|---|
| *Назва артыкулаў* | *Сума* | *Назва артыкулаў* | *Сума* |
| 1. Доўгатэрміновыя актывы | 14.740 | 1. Крыніцы ўласных сродкаў | 63.349 |
| 2. Нематэрыяльныя актывы | | 2. Доўгатэрміновыя фінансавыя абавязацельствы | - |
| 3. Бягучыя актывы | 78.691 | 3. Разлікі і іншыя пасівы | 30.082 |
| **Баланс** | **93.431** | **Баланс** | **93.431** |

## Справаздача
**аб прыбытках і стратах за 1995 год**

*(млн. руб.)*

| ДАХОДЫ | | РАСХОДЫ | |
|---|---|---|---|
| *Назва даходаў* | *Сума* | *Назва расходаў* | *Сума* |
| 1. Выручка ад рэалізацыі | 468.668 | 1. Затраты на вытворчасць і збыт рэалізаванай прадукцыі | 467.495 |
| 2. Даходы ад пазарэалізацыйных аперацый | 60.449 | 2. Прыбытак | 61.622 |
| **Баланс** | **529.117** | **Баланс** | **529.117** |

**Аўдытарскае заключэнне, зробленае аўдытарскай фірмай «Сілар», пацвярджае фінансавую справаздачнасць і правільнасць адлюстравання ў ёй вынікаў фінансава-гаспадарчай дзейнасці АТ «Мінск-Лада» за перыяд з 1.01.1995 г. па 31.12.1995 г.**

## БАЛАНС
**АКБ «Аб'яднаны капітал» на 1 студзеня 1996 года**

**АКТЫЎ** **ПАСІЎ** *(млн. руб.)*

| Назва артыкула | Сума | Назва артыкула | Сума (млн. руб.) |
|---|---|---|---|
| 1. Каса і іншыя грашовыя сродкі | -- | Абавязацельствы: 1. Сродкі Нацыянальнага банка | -- |
| 2. Сродкі ў Нацыянальным банку | 155 | 2. Сродкі банкаў і крэдытных устаноў | 3278 |
| 3. Сродкі ў банках і крэдытных установах: | 6050 | 2.1. рэзідэнтаў | 3278 |
| 3.1. у рэзідэнтаў | 6050 | 2.2. нерэзідэнтаў | -- |
| 3.2. у нерэзідэнтаў | -- | 3. Сродкі кліентаў | 1021 |
| | | 3.1. дзяржаўнага бюджэту | -- |
| 4. Сродкі ў каштоўных паперах | 1818 | 3.2. юрыдычных асоб | 890 |
| 5. Крэдыты кліентам: | 4922 | 3.3. фізічных асоб | 131 |
| 5.1. у т.л. пратэрмінаваныя і пралангіраваныя | -- | 4. Выпушчаныя банкам пазыковыя абавязацельствы | -- |
| 6. Інвестыцыйны партфель банка | -- | 5. Іншыя абавязацельствы | 2433 |
| | | Усяго абавязацельстваў: | 6732 |
| 7. Асноўныя сродкі і нематэрыяльныя актывы | 1570 | Уласныя сродкі: | |
| | | 1. Статутны фонд | 9094 |
| 8. Іншыя актывы | 2211 | 2. Іншыя фонды і ўласныя сродкі | 900 |
| | | 3. Неразмеркаваны прыбытак | -- |
| | | Усяго ўласных сродкаў | 9994 |
| **Баланс** | **16726** | **Баланс** | **16726** |

***Даведка. Памер рэзерву на магчымыя страты па пазыках __-__ млн. руб.***

## СПРАВАЗДАЧА
**аб прыбытках і стратах АКБ «Аб'яднаны капітал» на 1 студзеня 1996 года**

*(млн. руб.)*

| Прыбыткі банка | | Расходы банка | |
|---|---|---|---|
| Назва даходаў | Сума | Назва расходаў | Сума |
| 1. Атрыманыя працэнты і прыраўнаваныя даходы | 9378 | 1. Выплачаныя працэнты і прыраўнаваныя расходы | 11521 |
| 2. Даходы па аперацыях з каштоўнымі паперамі | 1195 | 2. Расходы па аперацыях з каштоўнымі паперамі | 253 |
| 3. Даходы па аперацыях у замежнай валюце | -- | 3. Расходы па аперацыях у замежнай валюце | -- |
| 4. Атрыманая камісія па паслугах кліентам і банкам | 5461 | 4. Выплачаная камісія па паслугах кліентаў | 11 |
| 5. Іншыя даходы | 10 | 5. Расходы на ўтрыманне апарату банка і іншыя адміністрацыйна-кіраўніцкія расходы | 1388 |
| 6. Штрафы, пені, няўстойкі | 187 | 6. Іншыя расходы | 1532 |
| | | 7. Штрафы, пені, няўстойкі | -- |
| Усяго даходаў: | 16.231 | Усяго расходаў: | 14.705 |
| 7. Страты | -- | 8. Прыбытак | 1526 |
| **Баланс** | **16.231** | **Баланс** | **16.231** |

***Даведка. Курсавая розніца па аперацыях у замежнай валюце, аднесеная на спецыяльны рэзервовы рахунак, __-__ млн. руб.***

**Аўдытарская праверка праведзена фірмай ТАА «Фінаўдыт-кансалтынг»**

# СЗАО «БЕЛКАСКО»
220001 г. Минск, ул. Московская, 11

**Отчет о прибылях и убытках на 1995 г.**

*(млн. руб.)*

**ПРИБЫЛЬ**
1. Страховые взносы по прямому страхованию ........ 1869,5
2. Средства, привлекаемые из резервов по накопительным и рисковым видам страхования ........ -
3. Страховые взносы, полученные от перестраховочных операций ........ -
4. Прочие доходы от страховой деятельности ........ -
5. Доходы от внереализационных операций ........ 83,8
**Итого доходов** ........ 1953,3
6. Убытки ........ -
**Всего** ........ 1953,3

**УБЫТКИ**
1. Выплаты страхового возмещения и страховых сумм ........ -
2. Расходы на ведение дела ........ 171,5
3. Отчисления в резервы по накопительным и рисковым видам страхования ........ 89,3
4. Уплаченные страховые взносы по рискам, пераданным в перестрахование ........ 1665,3
5. Отчисления в фонд предупредительных мероприятий ........ -
6. Прочие расходы ........ 10,0
**Итого расходов** ........ 1936,1
7. Прибыль ........ 17,2
**Всего** ........ 1953,3

**Годовой баланс за 1995 г.**

*(млн. руб.)*

**АКТИВ**
1. Расчетный счет ........ 17,8
2. Валютный счет ........ 10,6
3. Счета в банке по средствам резервов платежей ........ 980,1
4. Касса ........ -
5. Основные средства и идругие долгосрочные активы ........ 17,9
6. Дебиторы ........ 34,2
7. Прочие активы ........ 0,2
**Баланс** ........ 1060,9

**ПАССИВ**
1. Уставный капитал ........ 920,0
2. Резерв по имущественному страхованию и страхованию от несчастных случаев ........ 89,3
3. Резерв по страхованию жизни, пенсий и медицинскому страхованию ........ -
4. Фонды и резервы специального назначения ........ 45,9
5. Средства в расчетах ........ 5,6
6. Прочие пассивы ........ 0,1
**Баланс** ........ 1060,9

**Достоверность баланса подтверждена независимой аудиторской фирмой индивидуальным аудитором Кисель Тамары Федоровны лицензия серии АП №61 от 15 февраля 1993 г.**

АБ ЧЫМ ГАВОРАЦЬ

# ЖУРНАЛІСТ, ЖЫЦЦЁ, СЕНСАЦЫЯ: ВЕРЫЦЬ АБО СМЯЯЦЦА?

**Нават незнаёмы з журналісцкай кухняй чытач, безумоўна, разумее, што газеце без сенсацыі — ну ніяк. Гэта ўсё роўна, што падымаць салдат у атаку без сцяга, бою барабанаў і эфектнага ўзмаху рукой з клінком. Зразумела, і краіна наша па вялікаму рахунку не такая ўжо вядомая ў свеце, і народ больш спакойны (не тое, што эксцэнтрычныя амерыканцы ці, напрыклад, італьянцы), але незвычайныя рэчы раз-пораз сустракаюцца і на Беларусі. Як кажуць, што радзей адбываецца, тое, адпаведна, мае больш высокі кошт. О, цана сенсацыі! Яе можа ведаць адзін толькі рэпарцёр, дзякуючы намаганням якога, яго бясконцым пошукам і бяссонным начам незвычайныя (часам нават непраўдападобныя) факты з жыцця становяцца вядомымі вялікай чытацкай аўдыторыі. Зазначым па сакрэту, што гэта ні з чым не параўнальная асалода перамогі! Уявіце: нарэшце рэдактар хаця б некалькі дзён не будзе патрабаваць у нумар «нечага цікавага і надзвычайнага», калегі па працы пры сустрэчы ў рэдакцыйным калідоры будуць з павагай цісnуць тваю руку і нават каханая, пачуўшы пра твае поспехі, цмокне, нібы героя, у вуха і праляпеча нешта легкадумна-пяшчотнае... З такімі ці падобнымі думкамі наша рэпарцёрская «брыгада» і рушыла ў дарогу на пошук сенсацый. Ці тое, што мы былі настроены так рашуча і лёс нам усміхнуўся, ці веснавое сонейка падзейнічала, ці яшчэ што, але ўсе вярнуліся з блуканняў са «здабычай». Пэўны час быў заняты пераправеркай фактаў, але цяпер, напярэдадні першага красавіка, мы можам смела прадставіць іх вашай увазе. Сапраўдныя сенсацыі чакаюць вас!**




## РЫС ПРАПІШАЦЦА НА БЕЛАРУСІ

**Як ужо неаднаразова паведамлялася, сёлета ў Беларусі чакаецца больш моцная, чым у папярэднія гады, веснавая паводка. Па прагнозах, прыток вады месцамі будзе на 30—50 працэнтаў большы, чым у ранейшыя сезоны. Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», прааналізаваўшы на сумесным нечарговым пасяджэнні маючае адбыцца навадненне, шэраг міністэрстваў і ведамстваў прынялі рашэнне выкарыстаць «вялікую ваду» з карысцю для народнай гаспадаркі.**

У прыватнасці, ёсць думка, што ў паўднёвых раёнах краіны сёлета лепш вырошчваць не пшаніцу і бульбу, а... рыс. Папярэднія падлікі паказалі, што з эканамічнага пункту гледжання затраты будуць самымі мінімальнымі. Як вядома, падчас паводкі вада сама выйдзе з рэк, затапіўшы палі гаспадарак. Далей самае галоўнае — не даць ёй поўнасцю сысці. З гэтай мэтай адпаведныя ўказанні ўжо дадзены меліярацыйным службам. Адзіную замінку пакуль выклікае пытанне з тэхналогіяй вырошчвання новай для вяскоўцаў культуры.

Як паведамілі з кампетэнтных крыніц, на першым часе дапамогу беларусам акажуць кітайскія сяляне: перамовы аб гэтым вядуцца. Дарэчы, як чакаецца, менавіта Кітай стане асноўным пакупніком беларускага рысу. Як працягнецца гэты незвычайна смелы эксперымент, «Звязда» плануе паведамляць чытачам па меры паступлення новай інфармацыі.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НАВОШТА ІМ СТОЛЬКІ МАКУЛАТУРЫ?

Кожны вядзе сваю рэкламную кампанію як умее. Гандлёвы дом «Сарацын», які адкрыўся ў Мінску, каб прыцягнуць да сябе ўвагу патэнцыяльных пакупнікоў, адкрые ў першы тыдзень красавіка асобны аддзел па продажы тавару выключна за «белачкі» і «зайчыкі», што выйшлі з абарачэння. Цэны ў ім будуць зніжаны на 73 працэнты.

Ад сабрата па рамяству не адстае і крама «У Лёхі» , дзе піва будзе прадавацца толькі за дробязь і па цэнах застойных часоў.

## НЕ ПАДЗЕЛЯЦЬ... КАМЕТУ

Як вядома, у бліжэйшы час наваколле Зямлі наведае яшчэ адна госця з далёкага космасу: камета Тары Мацухары. Па падліках вучоных-астраномаў, яна пройдзе зусім побач з Зямлёй (па касмічных маштабах, вядома) — у 15 мільёнах кіламетраў.

Як лічаць тыя ж вучоныя, ядро каметы складаецца з соцень тон каштоўных металаў. Міжнародная арганізацыя абароны навакольнага асяроддзя «Грынпіс» выказала занепакоенасць планамі Расіі перахапіць частку ядра для папаўнення залатога запасу краіны. У сваю чаргу расійскі бок абвінаваціў НАСА ў імкненні змяніць траекторыю палёту каметы і ператварыць яе ў свой штучны спадарожнік, а затым чаўнамі перавозіць каштоўную сыравіну на Зямлю.

Аднак апошнім часам у нашай рэспубліцы з'явіліся чуткі аб тым, што і Беларусь не застанецца абыякавай да незямнога багацця.

## ЯК «ДРАНІЦУ» ПАДАЛМАЗІЛІ

Нядаўна вядомую беларускую кандытарскую фабрыку «Драніца» для ўстанаўлення дзелавых кантактаў наведала ўладальніца кантрольнага пакета акцый канцэрна «Кэдберы» спадарыня Джулія Уайт. Пры аглядзе цэха па вытворчасці зефіру мільянерка згубіла фамільны пярсцёнак, але па яе просьбе тэхналагічны працэс не прыпынілі.

Тым не менш, спадарыня Уайт спадзяецца атрымаць сваю каштоўнасць назад. Таму ў кожную каробку зефіру ў шакаладзе гэтай партыі пакладзена адпаведная памятка з адрасам, у якой абяцаецца вялікая ўзнагарода таму, хто верне фамільны пярсцёнак яе ўладальніцы.

## ЛЕПШ ДА БАБКІ-ПАВІТУХІ

Пасля беспаспяховых спроб займець уласнае дзіця і шматгадовага лячэння муж і жонка з горада Бабруйска звярнуліся па дапамогу ў сумесны расійска-амерыканскі цэнтр «Vita».

Праз дзевяць месяцаў, як і трэба, у сям'і з'явілася папаўненне — двое сімпатычных здаровых немаўлят. Шчасце бацькоў азмрочыў толькі колер іх скуры. Пасведчанне аб нараджэнні негрыцяняты, канешне, атрымалі.

Бацькі, аднак, падалі ў суд на вышэйзгаданы цэнтр, жадаючы вярнуць патрачаную тысячу долараў за брак у рабоце. Іск не быў задаволены, таму што колер скуры нованароджаных у дамове не агаворваўся...

## ПАЛЮБІ СВАЮ ХВАРОБУ

Незвычайнае адкрыццё зрабілі вучоныя аднаго з навукова-даследчых інстытутаў Міністэрства аховы здароўя Беларусі.

Аказваецца, існуе пэўная несумяшчальнасць некаторых хвароб. Напрыклад, чалавек, які перахварэў на жаўтуху, ніколі не будзе захварэць на малярыю, грып несумяшчальны з трапічнай ліхаманкай, а бранхіт — з соннай хваробай, якую пераносіць муха цэцэ. Прычым, як паказалі праведзеныя даследаванні, сцвярджэнні вучоных правільныя ў 80 выпадках са 100.

Цяпер беларуская медыцына шукае хваробу, якая пераможа СНІД.

**Навіны збіраў Юрый ВЕРШАЛОВІЧ.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

Спаўняецца **605 гадоў** з часу атрымання г. Гродна магдэбургскага права.

**30 сакавіка 1495 года** ўзведзены сцены і вежы Маскоўскага Крамля (пасля дзесяці гадоў працы пад кіраўніцтвам італьянскіх архітэктараў).

**У гэты дзень у 1853 годзе** нарадзіўся Вінсент Ван Гог, славуты галандскі жывапісец.

**30 сакавіка 1856 года** імператар Аляксандр II выступіў з прамовай перад прадстаўнікамі маскоўскага дваранства, у якой заявіў аб неабходнасці адмены прыгоннага права.

### Народны каляндар

Сёння — старадаўні прысвятак — **Аляксей**. «На Аляксея зіма пацее», — адзначалі ў народзе. Вядома, што ў сакавіку ўвесь час «сані з калёсамі сварацца». Пад канец жа месяца, у дзень Аляксея, гаварылася: «Рыба — аб лёд, саначкі — аб плот», гэта значыць, што сыходзіў снег, ускрываліся рэкі, а селянін з саней канчаткова пераходзіў на калёсы. Аляксей настойліва нагадваў земляробу пра набліжэнне палявых работ: «Аляксей лемяшы істрыць, сохі путрыць, хамуты строіць». У гэты ж дзень таксама Аляксей «сеці садзіць, лодкі смаліць», бо «як лёд пайшоў вадою, а рыба — лускою». Рыбаловы павінны былі на Аляксея — свайго апекуна — напрасці нітак і сплесці з іх броднік ці якую іншую сетку. Існавала павер'е, што такая прылада будзе лавіць шмат рыбы.

### Цікава

***У паводзінах земляных вавёрак, якія жывуць на поўдні Афрыкі, натуралісты даўно заўважылі адну асаблівасць. Бяжыць, бяжыць звярок па ссушанай зямлі пад бязлітасным сонцам, і раптам, застыўшы на месцы, распушвае над сабой хвост, які па даўжыні роўны целу, і стаіць, быццам аб чымсьці пакутліва раздумвае.***

Пасля працяглых назіранняў біёлагі прыйшлі да нечаканай высновы. Вавёркі штодзённа па шмат гадзін заняты пошукам ежы — пры гэтым яны аддаляюцца ад роднай норкі на значную адлегласць. Кругом ні дрэўца, сонца пячэ неміласэрна. Каб аддыхацца ў цяні, трэба шукаць падручныя сродкі. А што больш «пад рукой», чым уласны хвост? Земляная вавёрка, засланіўшыся ад сонца на некалькі хвілін хвастом, зніжае тэмпературу цела на восем градусаў. Яна ўжывае гэтую хітрасць, калі яе цела награваецца да крытычнай мяжы — 40 градусаў. Такія «прывалы ў цяні» дазваляюць звярку знаходзіцца на пякучым сонцы да сямі гадзін. У вавёрчынага парасоніка ёсць вялікая перавага: яго ніяк не забудзеш дома.

### Чаму мы так кажам?

**«Джэнтльменскае пагадненне»** — так называюцца розныя дагаворы паміж дзяржавамі ці асобамі, заключаныя на словах, без падпісання звычайных абавязацельстваў. «Джэнтльмен» — слова англійскае, якое азначае «чалавек высакароднага паходжання», дваранін. Раней лічылася, што верыць можна было толькі слову дваараніна.

**«Гаршчок агорнуты пашанай, хоць ён фаміліі глінянай».** Радкі з паэмы Я. Коласа «Новая зямля». Выраз характарызуе чалавека, якому не па заслугах аказваецца пашана.

### Што ў імені маім?

***У імёнах Стральца адчуваецца захапленне зорак у начным небе і сіла сцвярджэння ўласнай пазіцыі, дынамізм і ўстойлівасць.***

Лічыцца, што для Стральцоў-мужчын найлепш падыходзяць наступныя імёны: Арцём, Арыстарх, Аляксандр, Арсеній, Васіль, Георгій, Казімір, Мар'ян, Мечыслаў, Максім, Міраслаў, Оскар, Раман, Расціслаў, Руслан, Спартак, Сцяпан, Уладзімір, Станіслаў, Сямён, Цімур, Яраслаў. А наступныя імёны рэкамендуецца даваць Стральцам-жанчынам: Аліса, Аляксандра, Васіліса, Дзіяна, Кацярына, Лізавета, Жанна, Ісідора, Івета, Інеса, Марыяна, Муза, Марына, Маргарыта, Раксана, Станіслава, Санта, Сандра, Сімона, Соф'я, Севярына, Серафіма, Сусанна, Тэрэза.

# УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

У КАЗЯРОГА чакаюцца невялікія змены на рабоце, але затое ён зойме становішча, пры якім праявяцца ўсе яго яркія таленты, а сам ён атрымае ўзнагароду. Не верце тым, хто будзе пераманьваць вас у іншую сферу дзейнасці — усё гэта разлічаны на прасцякоў падман.

Даўнія задумы здзейсняцца ў ВАДАЛЕЯ на чацвёрты дзень гэтага тыдня. У выніку вы адчуеце задавальненне і зможаце ненадоўга расслабіцца. Астролаг не выключае верагоднасці пакупкі вамі новага дома, атрымання дарагога падарунка, але вось ад каго, мудрэц сказаць не захацеў.

РЫБАМ поспех усміхнецца на працы. Начальнікі атрымаюць раней абяцаны службовы аўтамабіль, а тым, хто чынам ніжэй, уручаць прэміяльныя ці заплацяць за звышурочную працу. Дамашняе жыццё павернецца сваім цудоўным бокам, муж і жонка, што пасварыліся, памірацца.

АВЕНАМ варта пасяшацца з завяршэннем распачатай справы. Калі паспееце ў тэрмін, дык рыхтуйце кішэню для дывідэндаў. А наогул, на гэтым тыдні ўсім вам давядзецца крыху стаміцца ад бягучых спраў, якія патрабуюць максімальнай аддачы. Але ўсе вашы намаганні акупяцца, калі пасыплюцца ўзнагароды, выгадныя і прывабныя дзелавыя прапановы.

А ЦЯЛЬЦОЎ чакае мноства клопатаў і спраў. Але вы забудзеце пра стомленасць, калі нечакана выпадзе вялікі поспех ва ўсіх пачынаннях. Прадстаўніц прыгожай палавіны цяльцоў чакае даволі прыемны сюрпрыз, а мужчынскай часткі зоркі будуць асабліва спрыяць у працы па дому, якой і раім заняцца.

У БЛІЗНЯТ стабілізуюцца справы, і астролаг раіць вам доўга не думаць, а брацца за новую справу. Не выключана падпісанне шматабяцальных кантрактаў і пагадненняў, дзелавыя паездкі, у тым ліку і замежныя. Магчыма таксама атрыманне вамі банкаўскай пазыкі, а ў блізнят творчых прафесій з'явяцца выгадныя заказы і багатая кліентура.

РАК атрымае задавальненне ад плаўнага ходу сваіх пачынанняў. Задуманае вамі здзейсніцца і можна распачынаць рэалізацыю новых планаў. Але не кідайце ранейшае месца работы дзеля большай узнагароды на новым. Гэта будзе памылкай, за якую вы хутка можаце паплаціцца. Вось толькі ў сямейным жыцці наступіць невялікі крызіс па прычыне недахвату грошай. Не засмучайцеся, хутка ўсё ўладзіцца.

ІЛЬВЫ паспяхова вырашаць дзелавыя прыблемы, заслужаць пахвалу начальства і атрымаюць прызнанне калег. Зоркі абяцаюць вам поспех у фінансавай сферы, ды і ў асабістай таксама. Паднесены вамі падарунак любімаму чалавеку зробіць яго надзвычай шчаслівым і вас, канешне, прымусіць перажыць імгненні шчасця і задавальнення, якія ні з чым не параўнаць.

ДЗЕВА можа падлічваць даход ад апошніх капіталаўкладанняў. Розныя гандлёвыя і камерцыйныя пачынанні абяцаюць вам добры прыбытак. Не спяшайцеся з далейшымі крокамі ў бізнесе — цяперашнія аперацыі ідуць няблага, і лепш ужо сініца ў руках, чым... Са сваякамі і сябрамі могуць узнікнуць невялікія праблемы. Будзьце цярплівымі і дабіцеся, каб яны вас зразумелі.

ШАЛЯЎ чакае поспех на рабоце, ды вось толькі гэта крышачку азмрочыць настрой вашых калег. Чацвёрты дзень тыдня спрыяе новым праектам у бізнесе, у той жа дзень некаторым з вас могуць прыбавіць зарплату. Аднак не спяшайцеся радавацца — прыбаўка акажацца не такой ужо і вялікай, і гэта хутчэй расчаруе, чым задаволіць.

СКАРПІЁНУ трэба будзе прымаць экстранныя меры, каб выратаваць сваё становішча ў бізнесе. Але не кідайце распачатае дзеля нечага больш прывабнага іншага. І новая справа наткнецца на рыфы, калі вы распачняце яе неадкладна. 30- і 40-гадовыя скарпіёны атрымаюць прэмію на рабоце, і няхай гэта паслужыць суцяшэннем астатнім, хто нарадзіўся пад гэтым знакам.

СТРАЛЬЦЫ няхай набяруцца цярпення і чакаюць поспеху ў сваіх справах, якія абавязкова хутка пойдуць угору. Вас чакае важная дзелавая сустрэча, з яе пачнецца новы выдатны этап у вашай дзейнасці. Бойцеся зладзеяў, рабаўнікоў і ўсякіх зламыснікаў. Іх можа зацікавіць ваш дом і ўсё, што знаходзіцца пад яго дахам.

**З Дэлі перадае кар. ІТАР-ТАСС Леанід КОТАЎ.**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — [illegible]-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113.326 Індэкс 63850.
Зак. № 1607.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12